21 ліпеня 2017 | № 28 (542)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Перад путчам: турбулентнасць па-беларуску

стар. 5–6

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «НОВЫ ЧАС» ВЫ АТРЫМАЕЦЕ Ў СУБОТУ, 12 ЖНІЎНЯ!**

За апошнімі навінамі сачыце на нашым сайце novychas.by









На сусветныя экраны выйшаў фільм Крыстафера Нолана «Дзюнкерк». Фільм, безумоўна, справакуе новы ўсплёск спекуляцый вакол загадкі Дзюнкерка

# Незалежнасць, адна на ўсіх



Алесь КІРКЕВІЧ

**Кажуць, у паспяховых людзей ёсць традыцыя напярэдадні кожнага дня нараджэння... не, не напівацца ўшчэнт. Спачатку падвесці вынікі пражытага года, паспрабаваць зірнуць на сябе збоку. Магчыма, менавіта гэты момант і адрознівае паспяховых імяніннікаў ад менш паспяховых.**

Мы як нацыя таксама адзначаем свой дзень нараджэння штогод. 27 ліпеня 1990 года Беларусь абвясціла пра сваю незалежнасць, нарадзілася наша сённяшняя дзяржава. Нехта паспрачаецца: маўляў, дзіця нарадзілася значна раней, 25 сакавіка 1918 года, іншыя згадаюць 3 ліпеня 1944-га, а хтосьці — і Полацкае княства.

Як бы там ні было, Беларусь, якой мы яе ведаем, са сваімі межамі, урадам, войскам і сімволікай, вядзе адлік менавіта ад 27 ліпеня. З усімі яе злыбедамі і хібамі, поспехамі і паразамі, замкамі і лядовымі палацамі, Маладым Фронтам і БРСМ, Арловым і Чаргінцом, Міхалком і Саладухам.

Як ні парадаксальна, альбо, наадварот, лагічна, усім нам сёння патрэбная незалежнасць. Патрэбная як паветра, як нешта цалкам натуральнае. Магчыма, кожнаму яна патрэбная для свайго, кожны расшыфроўвае яе па-свойму.

Для кіраўніка дзяржавы гэта магчымасць дрэйфаваць да бясконцасці то ўправа, то ўлева, атрымліваючы з гэтага дывідэнды. Для бізнесоўца — магчымасць апаноўваць свой рынак, робячы паспяховы прадукт. Для актывіста ТБМ — магчымасць чуць сваю мову ў супермаркеце альбо на вуліцы. Для супрацоўніка МЗС — магчымасць быць супрацоўнікам МЗС, бо як няма незалежнай дзяржавы, няма і знешняй палітыкі.

За ўсе гэтыя гады наша незалежнасць неаднойчы ставілася пад сумнеў праз розныя саюзныя дамовы, кпіны, жаданні асобных суайчыннікаў то «аднаўляць СССР», то «здавацца на міласць Польшчы ў межах 1939 года». Неяк вытрымалі, перажылі. Але само слова замулялася. Незалежнасць... Ад каго? Для чаго? Амаль як з гербам «Пагоня»: куды і за кім гонімся?

Нехта нават паспеў сам сабе прыдумаць універсальную мантру: незалежнасці няма, ёсць «рэжым унутранай акупацыі» і толькі. Жыць з такой думкай нават прыемна, незалежна ад таго, ва ўнутранай эміграцыі альбо ў знешняй ты знаходзішся. Чаму? Бо калі мы «пад унутранай акупацыяй», то ўсё і так дрэнна, рабіць нічога не варта, можна пастаяць збоку і пачакаць, пакуль усё развaліцца, а труп твайго ворага, паводле старой кітайскай мудрасці, сам праплыве міма.

Але такая логіка больш нагадвае «ўнутраную шызафрэнію», непазбежную маргіналізацыю і самавыключэнне з усіх грамадскіх працэсаў. А навошта? Жыццё — попел, Лукашэнка вечны. Значыць, рука не задрыжыць, каб стрэліць — не, не ў кіраўніка дзяржавы, а ў самога сябе. Бо самаадчужэнне ад дзяржавы і грамадства інакш чым самазабойствам не назавеш. Значыць, і 25 сакавіка, і 3-га, і 27-га ліпеня — усё дарма. Дзяржава не патрэбная.

Мы можам разважаць пра тое, як бы выглядала Беларусь, калі б у 1994-м больш пашчасціла Зянону Станіслававічу, у 2001-м — Ганчарыку, у 2006-м — Мілінкевічу і гэтак далей. Так, сцяг і герб былі б іншымі. На грашах мы бачылі б вершніка на кані, і нават называцца яны




**З 1991 па 1996 год 27 ліпеня было галоўным нацыянальным святам краіны**



маглі б не рублямі, а талерамі. Суддзі і пракуроры, імаверна, выносілі б выракі і зачытвалі абвінавачанні па-беларуску.

А што наконт праблемаў? Няўжо ўсё б пайшло роўна і гладка? Скажам, як бы мы ўспрымалі наш талер, калі б ён пачаў абясцэньвацца з такой жа хуткасцю, як рубель? Як бы мы глядзелі на беларускамоўных суддзяў, якія бралі б хабары і выносілі фальшывыя прысуды са шклянымі вачыма, не горш за сучасных рускамоўных? Як бы глядзелі на генералаў, у якіх на фуражках блішчэла б «Пагоня», але лаяльнасць і дзяржаўную таямніцу яны прадавалі б не горш за сваіх украінскіх калегаў у 2014-м (якія хадзілі пад сіне-жоўтым сцягам ды трызубам)?

Сёння незалежная Беларусь, якая набліжаецца да свайго чарговага дня нараджэння, мае купу праблемаў: нязменнасць палітычных элітаў, нерэфармаваную эканоміку, міністра ўнутраных справаў з мундзірам НКУС у шафе, крытычны стан беларускай мовы. Але ад усяго гэтага ні краіна, ні дзяржава не перастаюць быць нашымі. Не кажыце «ў гэтай краіне» альбо «гэтая дзяржава». Як бы ні было, гэта наша краіна і наша дзяржава. Незалежна ад таго, якім будзе прозвішча прэзідэнта, галоўнага пракурора альбо старшыні Цэнтрвыбаркама. Такая яна, незалежнасць.

Магчыма, усё напісанае вышэй нехта палічыць не вельмі сумленным ці назаве «здрадай». Магчыма, нашмат правільней займацца адно крытыканствам, смяяцца з БРСМ з арнаментамі, з Макея, на якой бы мове ён ні размаўляў, якую б вышыванку альбо пінжак ні насіў. Магчыма.

Жыццё маладой незалежнай рэспублікі (27 гадоў — гэта не так і багата) можна параўнаць са сталеннем падлетка. З усімі ягонымі цяжкімі і пераломнымі ўзростамі, скандаламі, збяганнем з дому і лясканнем дзвярыма. Выглядае, так часцяком сябе паводзяць што прадстаўнікі ўлады, што апазіцыі. Дык, можа, усе аднолькава засталіся ў пераходным узросце?

Крыўдна, калі ініцыятыва таго ж Пятра Краўчанкі, выказаная на З'ездзе беларусаў свету — пра святкаванне юбілею БНР на дзяржаўным узроўні, — сустракаецца кпінамі. Маўляў, наша свята, наша незалежнасць, куды яны лезуць? Магчыма, ён проста сталейшы. Цяжка ўздыхне Пётр Кузьміч: «Сталейце, хлопчыкі і дзяўчаты, думайце, бо незалежнасць у нас на ўсіх адна».

# Гісторыя «ўзорнага дармаеда»

**Чыноўнікі заяўляюць, што падатковыя вяртаюць грошы тым, хто заплаціў збор за дармаедства ў мінулым годзе і ўжо ўладкаваўся на працу. Ці ёсць такія людзі?**

Кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі жыве ў вёсцы Дабрэйка Шклоўскага раёна. Ён «дармаед» вымушаны: у 2011 годзе яго звольнілі з ВНУ, дзе ён выкладаў, і з таго часу ён не мог уладкавацца нават дворнікам. Адпаведна, атрымаў «ліст шчасця» з патрабаваннем заплаціць «падатак на дармаедства» за 2015 год.

«Сам па сабе закон быў сыры, і калі ўважліва яго прачытаць, то 10% насельніцтва Беларусі будуць дармаедамі па гэтым законе. У нашай вёсцы з 350 жыхароў 20 дармаедаў — запісвалі ўсіх, хто не быў працаўладкаваны афіцыйна. І няважна, што ёсць прысядзібныя ўчасткі, састарэлая маці, якую трэба даглядаць, што няма куды працаўладкавацца: сам факт няўдзелу ў фінансаванні дзейнасці дзяржавы разглядаецца як ледзь не злачынства», — кажа Пётр Мігурскі.

Асцерагаючыся, што могуць не выпусціць за мяжу ў выпадку нявыплаты падатку, і не маючы жадання прасіцца ў чыноўнікаў з камісіі не прызнаваць яго дармаедам, Мігурскі падатак заплаціў. Ужо з пенсіі, якую атрымаў у другой палове 2016 года. І, кажа, не стаў бы гэтыя грошы вяртаць, калі б яго як «узорнага дармаеда» не пачалі ставіць у прыклад іншым. Тым, хто падатак так і не заплаціў. А такіх сярод 20 дармаедаў-аднавяскоўцаў Мігурскага было… 19 чалавек.

«Калі б з кожнага праса не пачалі казаць, што Мігурскі — дармаед, не сталі мяне прыводзіць у прыклад: «Дармаед Мігурскі заплаціў, а вы не плаціце, як вам не сорамна!» — я б гэтыя грошы не вяртаў. Але тут задумаўся, каб вярнуць і такім чынам выйсці са статусу дармаеда, — кажа Мігурскі. — А тут яшчэ, як вынік веснавых антыдармаедскіх пратэстаў, 15 сакавіка ва ўсіх раённых газетах з'явіліся «тлумачэнні» закона аб дармаедах. Адкуль я даведаўся, што ад выплаты падатку вызваляюцца тыя, хто на вёсцы вядзе прыватную прысядзібную гаспадарку».

Мігурскі пачаў змаганне за сваё добрае імя.

«Узяў даведку ў сваім сельсавеце і паехаў у падатковую інспекцыю. Дзе зразумеў, што падаткавікі не маюць механізму вяртання грошай. Яны мне там даказвалі, што я пад прэзідэнцкі ўказ не падпадаю, бо «там пра прыватную прысядзібную гаспадарку гаворка, а вам зямлю далі ў пажыццёвае прыватнае карыстанне». Я тлумачу, што далі мне яе, і гэта напісана ў дакуменце, з мэтай вядзення прыватнай гаспадаркі. Карацей, там былі не гатовыя да такога павароту падзей, як вяртанне грошай», — працягвае мужчына.

Амаль месяц Пятра Мігурскага ганялі па розных даведкі то ў адну ўстанову, то ў іншую, але ён свайго дамогся: у канцы траўня з падатковай інспекцыі прыйшлі паперы з паведамленнем, што яму «вяртаюць лішні пералічаныя на падаткі грошы». І 2 чэрвеня грошы былому «дармаеду» пералічылі на пенсійную картку.

«Пасля гэтага старшыня сельсавета развезла практычна ўсім «дармаедам» вёскі Дабрэйка даведкі, якія пацвярджаюць, што на самай справе яны не дармаеды. У дадзеным выпадку мая актыўная пазіцыя прывяла да таго, што пераважная большасць дармаедаў раптам аказалася не дармаедамі!» — падводзіць вынік Мігурскі.

Усіх, хто, як і ён, захоча вярнуць свае грошы, Мігурскі папярэджвае: справа гэтая даволі нервовая: бярэ дзяржава грошы лёгка, а вось вяртае з вялікай неахвотай.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Да чаго дамовіліся беларусы замежжа

Сяргей ПУЛЬША

**Сёмы з'езд беларусаў свету выдаў уладзе шмат канкрэтных і карысных прапаноў. Але ажыццяўляць іх будзе, хутчэй за ўсё, сама дыяспара. Як, дарэчы, і раней.**

Бадай, галоўнымі дакументамі, якія ўхвалілі беларусы замежжа, сталі «Прапановы ў дзяржаўную стратэгію «Беларусь — дыяспара» на перыяд да 2025 года» і зварот удзельнікаў з'езду да кіраўніка дзяржавы, ураду і дэпутатаў.

Што цікава, дзяржаўнай стратэгіі па развіцці дыяспары дэ-факта не існуе, нейкія асобныя палажэнні па стасунках з беларусамі замежжа ўтрымлівае хіба дзяржаўная праграма «Культура Беларусі». Але неабходнасць такой стратэгіі відавочная. Той жа міністр замежных спраў Уладзімір Макей, выступаючы на з'ездзе, адзначаў, што беларусы замежжа ўжо з'яўляюцца «іміджавым складнікам» краіны і, па яго звестках, правялі апошнім часам больш за 500 «беларускіх» мерапрыемстваў.

Хутчэй за ўсё, атрымаецца як з законам «Аб беларусах замежжа», прынятым у 2014 годзе. Усе ведаюць, што распрацоўка і прыняцце гэтага дакумента — амаль цалкам заслуга Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Відавочна, што «Бацькаўшчына», калі яна хоча атрымаць сваю стратэгію «Беларусь — дыяспара», і будзе займацца гэтым кавалкам працы.

Што ўключае ў сябе канцэпцыя стратэгіі? Найперш гэта адбудова даверу паміж беларусамі метраполіі і беларусамі дыяспары: «метрапольныя» суайчыннікі лічаць эмігрантаў ледзь не здраднікамі. Змена гэтага стаўлення — першы крок да своеасаблівага грамадзянскага міру.

Канцэпцыя ўключае таксама падтрымку дыяспары, пашырэнне правоў і магчымасцяў «замежных беларусаў» на Радзіме і заахвочванне эмігрантаў браць актыўны ўдзел у арганізаваных беларускіх суполках за мяжой. Ну і, канечне, «больш актыўна выкарыстоўваць пасярэдніцкі патэнцыял дыяспары», што пацешыць слых нашым чыноўнікам.

Але наступныя крокі, якія прапануе «Бацькаўшчына», уладам наўрад ці спадабаюцца. На аснове стратэгіі мусіць быць выпрацаваная дзяржаўная праграма па працы з беларусамі замежжа. У межах ураду павінен быць створаны дзяржаўны камітэт «Па справах беларусаў замежжа», адпаведная парламенцкая камісія, асобны аддзел па дыяспары ў ведамстве таго ж спадара Макея, а ў Нацыянальнай акадэміі навук — навуковы цэнтр па беларускай дыяспары. Прапануецца стварыць у сталіцы Сіняволкай культурна-інфармацыйны цэнтр беларусаў замежжа «Беларускі дом» (з вылучэннем адмысловага памяшкання), арганізаваць адпаведныя дамы ў месцах кампактнага пражывання беларусаў замежжа і стварыць дзяржаўны інфармацыйны партал для замежных суайчыннікаў...

Гэта, канечне, не ўсе прапановы «Бацькаўшчыны» ўладам, але ўжо з іх бачна, якія грошы павінная ўкласці дзяржава, калі хоча падтрымліваць нармальныя стасункі з дыяспарай. А грошай няма, на што на тым жа з'ездзе ў тым жа выступе празрыста намякнуў Уладзімір Макей. Дый ад назвы «Беларускі дом» я б прапанаваў «Бацькаўшчыне» адмовіцца — калі яна сапраўды хоча, каб дом з'явіўся. Справа ў тым, што структуры з такімі назвамі сапраўды ўжо дзейнічалі ці дзейнічаюць у «месцах кампактнага пражывання беларусаў» — Літве, Украіне і Польшчы. І арганізаваныя яны былі «новай хваляй эміграцыі», а дакладней — палітычнымі ўцекачамі з «моцнай і квітнеючай краіны». Так што назва «Беларускі дом» — ужо брэнд апазіцыі, з гэтым нічога не зробіш.

Бадай, адзіная з прапаноў «Бацькаўшчыны», якая не патрабуе ад улады асаблівых высілкаў і фінансавых выдаткаў, — беларускі аналаг «карты паляка». Усяго толькі і трэба, што распрацаваць палажэнне «Аб статусе беларуса замежжа», зацвердзіць і надрукаваць пасведчанні «Беларус замежжа» і вызначыць, хто і як яго здолее прыдбаць і якія бонусы ў гэтым выпадку атрымае. Адным з такіх бонусаў арганізацыя замежных беларусаў бачыць, напрыклад, бязвізавы ўезд у нашу краіну.

Канечне, МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выказала гатоўнасць «актыўнага ўдзелу на грамадскіх пачатках у падрыхтоўцы і рэалізацыі вышэйпералічаных пунктаў». Але ёсць «але».

Дзяржава наўрад ці будзе ўкладаць вялікія сродкі ў развіццё адносінаў з дыяспарай — прасцей і далей лічыць эмігрантаў «ворагамі». Тым больш што і сродкаў, па вялікім рахунку, няма. Канечне, у гэтым выпадку яна працягне «губляць дыяспару» і ў выніку атрымае больш іміджавай шкоды, менш інвестыцый, менш гуманітарных праектаў, менш дапамогі, якую аказваюць краіне беларусы замежжа. Але ўсё тое, што яна страчвае, завецца на бізнес-мове «выпушчанай выгадай» альбо «недатрыманым прыбыткам». То бок гэты прыбытак можна было б атрымаць у будучыні, а грошы трэба выкласці цяпер.

# Кава ва ўласны кубачак

**Мінчукі запусцілі кампанію супраць аднаразовых кубкаў у кавярнях.**

Цэнтр экалагічных рашэнняў і Таварыства «Зялёная сетка» аб'явілі пра пачатак кампаніі «My cup, please» («У мой кубак, калі ласка»), мэта якой — прасоўванне ідэі выкарыстання шматразовых кубкаў у кавярнях.

Праект прыдумалі выпускніцы моладзевай экалагічнай праграмы «Экастарт». Яго задача — расказаць гараджанам пра магчымасць выкарыстоўваць у паўсядзённым жыцці шматразовыя кубкі замест пластыкавых і папяровых шкляначак. Да ініцыятывы ўжо далучыліся некалькі кавярняў Мінска, спіс якіх можна знайсці на карце сайта. У гэтых кавярнях вам нальюць напой у ваш кубак, а ў некаторых нават зробяць невялікую зніжку.

Паводле санітарных нормаў наліваць напоі ў тару пакупніка не забаронена. Адпаведны адказ арганізатары атрымалі з Міністэрства аховы здароўя.

Ініцыятары праекта адзначаюць, што ўжо вельмі многія мінчане маюць сваё тэрмакубкі або складныя шматразовыя кубкі. Аднак не ўсе ведаюць, што ў любой кавярні можна папрасіць наліць напой у свой посуд. Важна, каб ёмістасць была чыстай і без пашкоджанняў.

Больш інфармацыі можна знайсці на сайце кампаніі: mycupplease.tilda.ws. Калі вы ўладальнік кавярні і хочаце падтрымаць ініцыятыву — пішыце на infocenter@ecoidea.by.

Актывісты таксама прапануюць гараджанам, якія выкарыстоўваюць свае кубкі ў кавярнях, выкладваць фота ў сацыяльныя сеткі з хэштэгам #my_cup_please або #кава_ў_кубачак.

**Паводле прэс-рэлізу**

# Аператару пагражае 1150 рублёў штрафу

**Міліцыя вінаваціць нашага калегу ў незаконным выкарыстанні брэнду «Белсат».**

Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі РУУС Першамайскага раёна Мінска склаў пратакол на аператара «Белсата» Аляксандра Баразенку «за парушэнне аўтарскіх, сумежных і патэнтных правоў» (артыкул 9.21КаАП). Цяпер яму пагражае штраф ад 460 да 1150 рублёў.

Такім чынам, праваахоўнікі хочуць зрабіць нашага калегу адказным па справе парушэння аўтарскіх правоў, звязаных з брэндам «Белсат». Сам аператар лічыць, што «справу завялі, каб канфіскаваць тэхніку, на якой я працую».

«Ніякага складу правапарушэння ў маіх дзеяннях няма, — кажа Баразенка. — Яны проста хочуць пазбавіць мяне магчымасці працаваць на сваёй тэхніцы».

У сакавіку для давання тлумачэнняў у якасці сведкі па гэтай справе міліцыя забрала з мінскага офіса «Белсата» іншага аператара — Аляксандра Любенчука, які мае акрэдытацыю МЗС. У яго адабралі ўсю асабістую тэхніку, а з офіса канала вынеслі ўсе кампутары.

Аляксандра Баразенку дапыталі па гэтай справе на Акрэсціна, дзе ён знаходзіўся на той момант.

«Міліцыя хоча павесіць усіх сабакаў на аднаго чалавека — нашага аператара», — кажа прадзюсар канала Аляксей Мінчонак.

Справа вакол таварнага знаку «Белсат» цягнецца амаль пяць гадоў. Паводле ўладальніка фірмы «БЕЛСАТплюс», наш тэлеканал парушае інтарэсы ягонага бізнесу. Прадпрымальнік звярнуўся ў Вярхоўны суд, але той не задаволіў яго патрабаванні.

Тады ўласнік фірмы «БЕЛСАТплюс» паспрабаваў забараніць нашаму тэлеканалу выкарыстоўваць таварны знак «Белсат ТБ» («Belsat TV»). Але Вярхоўны суд палічыў патрабаванні неабгрунтаванымі.

Паўторны разгляд справы ініцыяваў прэзідыум Вярхоўнага суда, а справу разглядаў іншы склад суддзяў. 4 верасня 2014 года суд задаволіў пазоў Андрэя Белякова і забараніў тэлеканалу выкарыстоўваць гандлёвы знак «Белсат ТБ» падчас трансляцыі на тэрыторыю Беларусі і на інтэрнэт-старонцы.

**belsat.eu**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У даўгавую яміну…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падаецца, усё ў нас добра. Асабліва стабілізавалася сітуацыя ў эканоміцы. Але чамусьці ўзнікае адчуванне «зацішша перад бурай».**

На гэтым тыдні Нацбанк Беларусі чарговы раз знізіў стаўку рэфінансавання: з 19 ліпеня яна складае 12% гадавых. Гэта ўжо шостае зніжэнне стаўкі рэфінансавання з пачатку 2017 года, калі яна складала 17%.

Як адзначалася ў паведамленні прэс-службы Нацбанка, інфляцыя ў Беларусі захоўваецца на нізкім узроўні. Базавая інфляцыя ў чэрвені 2017 года ацэньвалася ва ўзроўні каля 5,3% у гадавым выражэнні.

Зніжэнне стаўкі рэфінансавання азначае зніжэнне ставак па крэдытах — як для насельніцтва, так і для прадпрыемстваў. Адпаведна, гэта мусіць стымуляваць эканоміку і банкаўскі сектар.

Гэта ўжо заўважылі адмыслоўцы. Паводле дадзеных таго ж Нацбанка, стаўкі па крэдытах для фізічных асоб знізіліся ў чэрвені 2017 года да мінімальнага значэння са снежня 2006 года. У чэрвені сярэдняя працэнтная стаўка па новых крэдытах для фізічных асоб на тэрмін да года склала 13,7% гадавых.

Пастаяннае зніжэнне працэнтных ставак актывізавала спажывецкае крэдытаванне насельніцтва. Так, толькі за пяць месяцаў гэтага года аб'ём выдадзеных спажывецкіх крэдытаў вырас на 17% і перавысіў 2 мільярды рублёў (прыкладна мільярд долараў!).

«Насельніцтва не хоча зніжаць узровень спажывання, таму істотнае зніжэнне працэнтных ставак прыводзіць да росту попыту на спажывецкія крэдыты. Працэнтныя стаўкі працягваюць ісці ўніз, і гэта толькі разагрэе рынак спажывецкага крэдытавання», — тлумачаць эксперты ў банкаўскіх колах.

Аднак для любых пазыкаў дзейнічае жалезнае правіла: «Бярэш чужое і на час — аддаеш сваё і назаўсёды». Ёсць вялікая небяспека, што пад нізкую стаўку набяруць крэдытаў найперш прадпрыемствы, і так ужо ўшчэнт закрэдытаваныя. І потым у нас узнікнуць «праблемныя активы» і «праблемныя крэдыты». І калі раптам нешта ляснецца, несалодка будзе і прадпрыемствам, і, адпаведна, не менш «закрэдытаваным» людзям, якія на іх працуюць.

Тым больш што статыстыка рэальных даходаў насельніцтва не абнадзейвае: яны працягваюць падаць ужо больш за два гады. За пяць месяцаў гэтага года, у студзені-маі, яны знізіліся на 1,2% да ўзроўню першых пяці месяцаў 2016 года, паведамляе БелаПАН са спасылкай на Нацыянальны статыстычны камітэт. Нагадаем, што пад рэальнымі грашовымі даходамі разумеюцца даходы з вылікам падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэктаваныя з улікам індэкса спажывецкіх цэн на тавары і паслугі.

Канечне, з пачатку 2017 года тэмп падзення запаволіўся. Але да росту прыбыткаў, як гэта запланавана праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016–2020 гады (на 9,5 – 11,6% у 2020 годзе ў параўнанні з 2015-м), нам яшчэ далёка. А значыць, «танныя крэдыты» прывядуць да той самай «праблемнай запазычанасці». Людзі пазычаюць ціпер, а чым аддаваць потым?




Прычым гэта праблема не толькі ўнутранага рынку. На гэтым жа тыдні намеснік кіраўніка Міністэрства фінансаў Расіі Сяргей Сторчак паведаміў, што Расія выдасць Беларусі чарговы крэдыт у 700 млн долараў. Паводле яго слоў, ідзе «тэхнічная праца». «Палітычныя рашэнні ўсе прынялі. Мы афармляем дакументы і ўсё — 700 млн долараў, як і дамовіліся, як было абвешчана», — падкрэсліў расійскі чыноўнік. Усе неабходныя паперы будуць аформленыя пасля падпісання распараджэння ўрада Расіі, піша ТАСС.

Прычым «жывыя грошы» да нас не трапяць. Яшчэ напрыканцы мая кіраўнік Мінфіна Беларусі Уладзімір Амарын заяўляў, што грошы нам выдадуць «на мэты рэфінансавання доўгу».

А зараз паглядзім на тое, што было ў гэтай сферы за апошнія часы. Па-першае, мы атрымалі 300 мільёнаў долараў ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Па-другое, мы сенсацыйна размясцілі еўрабонды — на 1,4 млрд долараў. Цяпер яшчэ 700 млн долараў пазыкі. То бок агулам мы толькі за апошні час пазычылі 2,4 млрд «зялёных». Хто аддаваць будзе? І чым?

Адна наша «дойная карова» перастане даваць малако аж да 2020 года. Прынамсі такі прагноз робяць эканамісты. Беларусі не выпадае чакаць звышпрыбыткаў ад калійных угнаенняў, напісана ў праекце канцэпцыі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2018–2020 гады, якую распрацавалі Міністэрства эканомікі і падуладны яму НДІ. У дакуменце гаворыцца, што на рынку калійных угнаенняў чакаецца ўзмацненне канкурэнцыі і падзенне цэнаў.

Што ж да астатняга, то, кажуць, беларускі экспарт сёлета дэманструе рэзкі рост. За студзень-май ён вырас на 2 млрд долараў (гэта значыць, больш чым на 20%). Тым больш што Еўрасаюз зняў санкцыі, няма больш квот на пастаўкі беларускага тэкстылю, ёсць зрухі ў пазіцыі ЕС па ўступленні Беларусі ў СГА, што адзначыў нават Лукашэнка. Але ці дасягненне гэтыя два мільярды?

Па-першае, ціперашняму росту папярэднічалі цэлыя чатыры гады падзення экспарту. Усяго за гэты перыяд экспарт знізіўся з 46,1 млрд да 29,8 млрд долараў, то бок ціперашні рост у 2 млрд — гэта больш чым сціпла. Па-другое, санкцыі з Беларусі былі знятыя яшчэ ў лютым мінулага года, аднак на экспарце гэта мала адбілася.

Асноўнай праблемай з'яўляецца тое, што Беларусі няма чаго прапанаваць Еўрасаюзу. Яшчэ ў сярэдзіне 2000-х мы прадавалі ў Еўрасаюз вельмі шырокі спектр розных тавараў і паслуг. Сёння спіс таварных пазіцый, якія ідуць на экспарт у Еўропу, можна палічыць на пальцах: расійская нафта і нафтапрадукты, калійныя і азотныя ўгнаенні, драўніна і іншая сыравіна. Падобная сітуацыя па экспарце ў Расію і трэцця краіны. Там нашы трактары, камбайны і самазвалы яшчэ запатрабаваныя, але гэты экспарт імкліва скарачаецца.

Такім чынам, адмыслоўцы кажуць, што рэзерваў для росту беларускага экспарту ўжо практычна не засталося.

Таму і пытанне: чым будзем аддаваць пазыкі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Шарамет

**Прайшоў год з дня забойства ў Кіеве нашага калегі, выдатнага журналіста Паўла Шарамета.**

Аўтамабіль, у якім ён ехаў на працу, выбухнуў падчас руху на скрыжаванні цэнтральных вуліц украінскай сталіцы. Мінакі, якія ў той момант апынуліся побач, спрабавалі выратаваць Паўла, выцягнуўшы яго з пашкоджанага аўтамабіля. Даволі аператыўна на месца выбуху прыбылі «хуткая дапамога» і пажарная служба. Але ўратаваць не змаглі: атрыманыя траўмы былі несумяшчальныя з жыццём.

Пазней паліцыя паведаміла, што пад аўтамабіль была закладзеная выбухоўка магутнасцю да 600 грамаў у тратылавым эквіваленце, якую падарвалі дыстанцыйна.

Яшчэ праз шэсць дзён Нацыянальная паліцыя абвясціла ўзнагароду ў памеры 200 тысяч грыўняў за інфармацыю, якая дапаможа знайсці выканаўцаў і замоўцаў забойства. Але следства і дагэтуль практычна не прасунулася — няма ні падазраваных, ні абвінавачаных, ні галоўнай версіі матываў злачынства.



## Алена Макоўская

**У Мінску прайшоў VII З'езд беларусаў свету, у якім узялі ўдзел дэлегаты з 20 краін. На ім старшынёй ЗБС «Бацькаўшчына» пераабраная Алена Макоўская.**

Прадстаўнікі беларускай эміграцыі, дыяспары і беларускай нацыянальнай меншасці з суседніх краін прынялі нівыя дакументы, якія гавораць пра патрэбу ўмацавання незалежнасці Беларусі, захавання беларускай мовы і нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. З'езд, на які прыехала больш за 200 дэлегатаў, абраў таксама статутныя органы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — Вялікую і Малую рады ды Управу.

Алена Макоўская нарадзілася ў Кобрыне. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт і Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў.

У «Бацькаўшчыну» Макоўская прыйшла ў 1992 годзе на пасаду сакратара па абвестцы ў газеце. Кіраўніком арганізацыі яе абралі на V з'ездзе ў 2009 годзе. Перад гэтым Макоўская двойчы абіралася на пасаду старшыні Рады Згуртавання (2001–2009). Макоўская таксама з'яўляецца каардынатаркай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

У 2009 годзе газета «Наша Ніва» назвала Алену Макоўскую сярод дзесяці самых сексуальных беларускамоўных жанчын краіны.



## Андрэй Раўкоў

**Міністр абароны Беларусі лічыць, што праводзіць парады вайсковай тэхнікі ў Мінску значна танней, чым на прыстасаваным для гэтага палігоне.**

Прынамсі, так ён адказаў на запыт дэпутаткі Ганны Канапацкай пра магчымасць пераносу парадаў з удзелам вайсковай тэхнікі за межы Мінска.

Паводле Раўкова, перанос прывядзе да змяншэння відовішчнага і эмацыйнага эфекту параду праз нязручнасці, звязаныя «з дастаўкай людзей да месцаў яго правядзення і адрыву ад іншых агульных мерапрыемстваў свята». Таксама, паводле Раўкова, перанос парадаў за межы сталіцы выкліча вельмі негатыўную рэакцыю з боку ветэранаў і грамадзян, пераважная бальшыня якіх «настроеная патрыятычна і падтрымлівае традыцыю правядзення вайсковых парадаў у сталіцы Беларусі».

Ганна Канапацкая такім адказам здзіўленая. «Я не супраць парадаў у гарадах, але супраць выкарыстання вайсковай тэхнікі на вуліцах гарадоў. Пагатоў калі на рэпетыцыі здараюцца сур'ёзныя інцыдэнты і танк зносіць дрэвы і слупы. А калі заўтра на парадзе гэты танк заедзе ў трыбуну з гледачамі?» — напісала Канапацкая на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Заяву міністра наконт больших выдаткаў на парад па-за межамі горада яна назвала «цікавай». «Наколькі мне вядома, яшчэ нікому не ўдалося атрымаць дакладную лічбу расходаў бюджэтных сродкаў на падрыхтоўку і правядзенне парадаў у горадзе. Спадзяюся, у наступным адказе на мой зварот наконт бюджэту будуць пададзеныя канкрэтныя і дакладныя лічбы, каб можна было не галаслоўна заяўляць пра павелічэнне выдаткаў, а абапірацца на канкрэтныя дадзеныя», — напісала Канапацкая.



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

# Беларусаў падзеляць на гатункі

**Распачатая два дзясяткі гадоў таму лічбавая рэвалюцыя прынесла людзям не чаканую роўнасць, а яшчэ мацнейшы падзел на багатых і бедных. У яшчэ больш выродлівай форме гэта можа выявіцца ў Беларусі, якую ўлады вырашылі ператварыць у «ІТ-краіну».**



### «Лічба» як крыніца няроўнасці

Пра гэта стараюцца не казаць, але і адмаўляць нельга: «лічбавая рэвалюцыя» прывяла да яшчэ большай няроўнасці паміж людзьмі, прадпрыемствамі і дзяржавамі. Мы жылі з міфамі пра тое, што лічбавая эканоміка здольная няроўнасць згладзіць, бо інфармацыйныя тэхналогіі танныя і ўсім даступныя. Але, як піша амерыканскі праграміст і ІТ-прадпрымальнік Марцін Форд, ІТ-сфера дэмакратычная толькі на першы погляд.

Сапраўды, каб стварыць ІТ-стартап, як правіла, не патрэбныя вялікія ўкладанні ці дыплом элітнага інстытута. Але адсутнасць бар'ераў у выглядзе нацыянальных межаў, мытаў і адлегласцяў прыводзіць да імклівай манапалізацыі рынку — нашмат большай, чым у рэальным сектары.

«Прыбыткі ад бізнесу ў інтэрнэце заўсёды адпавядаюць мадэлі размеркавання, у якой пераможца атрымлівае ўсё. Хоць у тэорыі інтэрнэт павінен зраўняць усіх з пункту гледжання магчымасцяў, прыбраўшы бар'еры на ўваходзе, фактычна бізнес у ім заўсёды прыводзіць да высокага ўзроўню няроўнасці», — піша Форд.

ІТ-кампаніі даўно апярэджваюць прадпрыемствы рэальнага сектару эканомікі. У 2016 годзе рэйтынг найбольш дарагіх кампаній ЗША ўпершыню ўзначалілі спрэс «кампутаршчыкі», пацясніўшы Exxon Mobil Corp., якая з 1980 года ні разу не апускалася ніжэй за пяты радок. Пры тым у ІТ-карпарацыях працуе ў разы менш людзей. Для параўнання: Google паказала прыбытак амаль у 14 млрд долараў, маючы ўсяго 38 тысяч супрацоўнікаў, у той час як у General Motors на момант не росквіту працавала 840 тысяч чалавек. І сёння ўсе пяць кампаній з найвялікшай капіталізацыяй — менавіта «лічбавыя»: Google, Apple, Amazon, Facebook і Microsoft.

Нават Сусветны банк у сваім дакладзе «Лічбавыя дывідэнды» быў змушаны прызнаць: «Эфект ад выкарыстання лічбавых тэхналогій аказаўся слабейшы, чым чакалася, і размяркоўваецца нераўнамерна. Краінам неабходна займацца і «аналагавымі дадаткамі»: удасканальваць заканадаўства, якое забяспечвае канкурэнцыю паміж кампаніямі, прыводзіць кваліфікацыю працаўнікоў у адпаведнасць з патрабаваннямі новай эканомікі».

### Па-за бортам «лічбы»

Асобная тэма — сацыяльныя наступствы ІТ-рэвалюцыі, якія выходзяць далёка за межы расслаення на «новых багатых» і «старых бедных». Сёння беларускія чыноўнікі на чале з кіраўніком дзяржавы нас пераконваюць: «Развіццё лічбавай эканомікі павялічыць дабрабыт грамадзян краіны». Хітруюць. Лічбавая эканоміка сапраўды павялічвае дабрабыт людзей, але толькі тых, хто распрацоўвае інфармацыйныя тэхналогіі. І адначасова яна пазбаўляе працы іншых грамадзян праз аўтаматызацыю іх дзейнасці. Гэта ўжо добра відаць у банкаўскім сектары: укараненне сістэм самаабслугоўвання праз інтэрнэт вядзе да масавага звальнення аперацыйнага персаналу і скарачэння офісаў.

У Беларусі 60-70% працаўнікоў наўпрост ці ўскосна залучаныя ў масавую вытворчасць. Паводле прагнозаў, доля аўтаматызацыі працэсаў у вытворчасці і лагістыцы дасягне да 2035 года 95%, а 50-70% цяперашніх працоўных месцаў перастануць існаваць.

Новыя працоўныя месцы наўзамен скарочаных сапраўды з'яўляюцца, але для адных людзей гэта высокааплатныя месцы распрацоўшчыкаў новых тэхналогій, а для іншых — працоўныя месцы на працаёмкіх вытворчасцях і іншая руцінная праца. Нават проста купляючы тавары ў інтэрнэце, адзін чалавек вызваляе сабе час для росту сваіх інтэлектуальных магчымасцяў, але іншы, які страціў працу і змушаны ісці працаваць кур'ерам у інтэрнэт-краму ці таксістам у Uber, страчвае атрыманую ва ўніверсітэце кваліфікацыю. Лічбавыя тэхналогіі дазваляюць скараціць час на камунікацыі, паскорыць усе эканамічныя працэсы. Але што ў выніку паскарэння гэтых працэсаў адбудзецца — росквіт ці дэградацыя эканомікі, — залежыць ад вектару развіцця, які якраз цяпер задае ўлада.

І ў гэтым сэнсе ліхаманкавае ператварэнне Беларусі ў «ІТ-краіну» насцярожвае, хоць павіннае цешыць. Давайце паглядзім, чаму.

### «Беларусь лічбавая» vs «Беларусь аналагавая»

«Штучны інтэлект, беспілотныя аўтамабілі, тэхналогіі блокчэйн, лічбавыя валюты... Пералічваць можна доўга. Наша задача — стварыць такія ўмовы, каб сусветныя лідары ў гэтых сферах адкрывалі ў Беларусі свае прадстаўніцтвы, цэнтры распрацовак і стваралі запатрабаваны ў свеце прадукт з высокай дададзенай вартасцю», — заявіў кіраўнік дзяржавы ў красавіцкім пасланні народу і парламенту.

Збіраючыся ўсёй моцай дзяржапарату будаваць лічбавую эканоміку напрыканцы другога дзесяцігоддзя XXI стагоддзя,

**У Беларусі 60–70% працаўнікоў залучаныя ў масавую вытворчасць. Паводле прагнозаў, доля аўтаматызацыі да 2035 года дасягне 95%, а 50–70% цяперашніх працоўных месцаў перастануць існаваць**

Беларусь чарговы раз спазняецца ў параўнанні з перадавымі краінамі. Лічбавая рэвалюцыя ўжо адбылася, бізнес перайшоў на электронныя формы ўзаемадзеяння — як са сваімі партнёрамі і кліентамі, так і з уласнымі супрацоўнікамі. Тое, што ў нас яшчэ не развітая сістэма лічбавых подпісаў, няма электроннага ўзаемадзеяння паміж дзяржавай і бізнесам, паміж краінамі ЕАЭС, не інтэграваныя інфармацыйныя сістэмы ведамстваў, — гэта праблемы той самай трухлявай электроннай дзяржавы, якая ўсё ніяк не можа саспець.

Лічбавая эканоміка тут зусім ні пры чым, яна ўжо існуе, проста яе трэба падтрымаць заканадаўча. Аднак у нас гэта чамусьці прымае гратэскавыя формы. Цяпер у сціве абмяркоўваюць праект новага прэзідэнцкага дэкрэта, паклікана нага радыкальна палепшыць становішча ПВТ. Настолькі, каб не проста прыцягнуць у Беларусь ІТ-кампаніі з усяго свету, а наогул стварыць у краіне новую лічбавую эканоміку, паралельную старой — аналагавай. Невыпадкова найбуйнейшыя айчынныя ІТ-бізнесмены аб праекце дэкрэта выказваюцца ў сэнсе «гэта занадта добра, каб быць праўдай».

Сапраўды, для ІТ-кампаній, айчынных і замежных, у Беларусі мяркуецца стварыць умовы беспрэцэдэнтнай эканамічнай свабоды. Апроч лаяльнага падаткаабкладання, айцішнікам дазволяць вельмі шмат што яшчэ — ад крыптавалюты і дронаў да самых незвычайных бізнес-мадэляў і адсутнасці валютнага кантролю. А «вішанька на торце» — тое, што да ІТ-кампаній у ПВТ будзе ўжывацца не беларускае заканадаўства, а брытанскае права! Як той казаў: «Канстытуцыя? Не, не чуў».

Таксама, згодна з праектам, ПВТ пашырыць сваю дзейнасць і на навукаёмістую прамысловасць, і на ІТ-адукацыю, і на рэгуляцыю крыптавалют, і на венчурнае фінансаванне, і на сучаснае інвестыцыйнае правапрымяненне, на беспілотны транспарт і іншыя рэчы. Аднак увесь бізнес у краіне па вызначэнні не можа быць ІТ-бізнесам: хтосьці павінен пячы хлеб, будаваць дамы і гэтак далей. Нарэшце, нікуды не падзенуцца шматлікія стратныя дзяржпрадпрыемствы, якія не маюць аніякага дачынення да «лічбавай эканомікі».

### Паралельная Беларусь

Калі дэкрэт пра ПВТ будзе прыняты ў яго цяперашнім выглядзе, у краіне сфармуюцца дзве паралельныя эканомікі: прывязаная да ПВТ (але ў нашмат шырэйшых межах, чым сёння) і «традыцыйная». Адпаведна, замест структурных рэформаў для ўсіх мы атрымаем падзел беларускіх прадпрыемстваў на «карысныя» (якія звязаныя з ІТ) і «баласт». Першыя атрымаюць цяплічныя ўмовы існавання і надзаконны статут для рэзідэнтаў «падатковага гета», другія працягнуць прадзірацца скрозь церні дзяржаўнага рэгулявання.

Такая ж лінія падзелу пройдзе і па беларускім грамадстве. Ужо сёння, усяго за дзясятак гадоў існавання ПВТ, у Беларусі сфармавалася каста айцішнікаў — людзей з узроўнем заробкаў, на парадак вышэйшым, чым у «электарату». І ў будучым інфармацыйным грамадстве прывілеяваным класам стануць супрацоўнікі ІТ-сферы — распрацоўнікі софту, сістэмныя адміністратары, менеджары ІТ-кампаній і да т.п. І тут ізноў мы бачым падзел дзяржаўнай палітыкі: людзі, «датычныя» да лічбавай эканомікі, змогуць жыць практычна ў іншай рэальнасці — зусім не ў той, у якой застанецца большасць насельніцтва.




Мітынг у Мінску супраць увядзення ў Беларусі інстытута прэзідэнцтва, чэрвень 1991 года. Крыніца: http://vytoki.net

**Праект закона «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча» быў накіраваны на тое, каб максімальна ўскладніць арганізацыю і правядзенне вулічных акцый. Так, артыкул 10 прадугледжваў пакаранне грамадзянаў нават за распаўсюд правакацыйных чутак**

# Перад путчам: турбулентнасць па-беларуску

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У першай палове жніўня 1991 года ў галоўнай камуністычнай газеце «Советская Белоруссия» высокапастаўлены чыноўнік з ЦК КПБ Расціслаў Бузук апублікаваў артыкул пад назвай «Лето страстей политических...». Зыходзячы з яго, кіруючай эліце БССР за тыдзень да жнівеньскага путчу было аб чым задумацца.**



Злева направа: Расціслаў Бузук, Міхаіл Дубянецкі і Васіль Быкаў пры абмеркаванні пытання аб стварэнні Аргкамітэта БНФ, 30 кастрычніка 1988 года. Крыніца: http://www.zautra.by

Удва папярэднія летнія месяцы 1991 года ў рэспубліцы маглі ўвесці надзвычайнае становішча, абрынуць СССР, забараніць кампартыю, абраць уласнага прэзідэнта і ліквідаваць прывілеі чыноўнікам.

### Пачатак канца?

Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў 19 сакавіка 1991 года падпісаў указ, які тычыўся істотнага падвышэння цэнаў для насельніцтва. Праз тры дні адпаведную пастанову ўхваліў Савет Міністраў Беларускай ССР. Новыя цэны ўводзіліся ў Беларусі з 2 красавіка 1991 года. Нягледзячы на тое, што гэтае падвышэнне павінна было суправаджацца шэрагам кампенсацыйных захадаў, у грамадстве, якое дзесяцігоддзямі жыло ў адноснай стабільнасці, яно выклікала выбуховы эфект. На вуліцы выйшлі тысячы людзей.

Беларусь, за якой трывала замацаваўся імідж «Вандэі перабудовы» (знакаміты выраз Алеся Адамовіча), нечакана для ўсіх апынулася ў авангардзе: на працягу першай паловы красавіка 1991 года страйкавая хваля ахапіла не толькі Мінск, але і больш-менш буйныя гарады і важныя чыгуначныя вузлы. Для ўладаў асабліва небяспечным было тое, што разам з эканамічнымі патрабаваннямі працоўныя агучвалі і палітычныя лозунгі: свабодныя выбары, роспуск Вярхоўнага Савета, стварэнне кааліцыйнага ўраду народнага даверу і іншае.

Кіраўніцтва рэспублікі ліхаманкава шукала выйсце. Савет Міністраў ухваліў новую пастанову аб умацаванні сацыяльнай абароны насельніцтва, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета распаўсюдзіў некалькі зваротаў да грамадзянаў, у якіх запэўніваў, што робіцца ўсё магчымае, каб мінімізаваць наступствы падвышэння цэнаў.

### Ёсць моц, розуму не трэба

Аднак на самым версе ўзнікалі і іншыя ідэі. Адну з іх 24 красавіка 1991 года на сумесным пленуме ЦК і Цэнтральнай кантрольнай камісіі КПСС агучыў першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў. Партыйны кіраўнік Беларусі заявіў, што выратаваць краіну ад развалу і адрадзіць канстытуцыйную законнасць магчыма толькі ўвядзеннем надзвычайнага становішча ў СССР.

У маі 1991 года, напярэдадні адкрыцця чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання, Анатоль Малафееў у інтэрв'ю газеце «Звязда» зноў выказаўся за надзвычайнае становішча, дадаўшы, што законапаслухмяных грамадзян яно палохаць не павінна.

Супраць ініцыятывы Малафеева выступіў першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, назваўшы яе «выпадковым учынкам». Больш рашучым быў дэпутат Аляксандр Лукашэнка, які ў артыкуле ў «Народнай газеце» пад назвай «Диктатура: белорусский вариант?» абрынуўся на Малафеева з жорсткай крытыкай. Лукашэнка сцвярджаў, што надзвычайнае становішча дапаможа «бездарным руководителям» толькі часова пратрымацца ва ўладзе.

Праект закона «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча» паступіў на разгляд парламентарыяў 6 чэрвеня 1991 года. Гэты праект, распрацаваны Міністэрствам юстыцыі, шмат у чым паўтараў асноўныя палажэнні адпаведнага агульнасаюзнага закона ад 3 красавіка 1990 года. Ён быў фактычна накіраваны на тое, каб максімальна ўскладніць арганізацыю і правядзенне масавых вулічных акцый. Так, артыкул 10 прадугледжваў пакаранне грамадзянаў за распаўсюд правакацыйных чутак, а артыкул 17 даваў права Прэзідыуму ВС уводзіць уласную форму кіравання пры надзвычайным становішчы ў рэспубліцы ў цэлым альбо ў асобных яе частках.

Законапраект раскрытыкавала парламенцкая апазіцыя БНФ. Валянцін Голубеў заявіў, што ўхваленне такога дакументу — паварот да сталіншчыны. Іншыя вядомыя дэпутаты таксама негатыўна ўспрынялі праект. Па словах таго ж Лукашэнкі (за гады кіравання якога правядзенне вулічных акцый стала амаль немагчымым), паводле такога закона «человека завтра посадят в тюрьму». Лётчык-касаманаўт Уладзімір Кавалёнак лічыў, што закон «направлен против человека, а не на его спасение».

Тым не менш адыёзны законапраект падтрымалі ажно 158 дэпутатаў. Мінімальны кворум для прыняцця рашэння складаў 177 галасоў. Прадстаўнік дэпутацкай групы БНФ Сяргей Навумчык праз шмат гадоў сцвярджаў, што гэта перамога была дасягнутая дзякуючы апазіцыі.

Тады кіруючыя колы пайшлі іншым шляхам. 26 чэрвеня 1991 года першы намеснік старшыні Савета Міністраў Міхаіл Мясніковіч агучыў дэпутатам праект закона «Аб размеркаванні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі органамі Беларускай ССР для забеспячэння стабілізацыі пры пераходзе да рынкавай эканомікі». Законапраект выводзіў на першыя ролі Савет Міністраў, які атрымоўваў велізарныя эканамічныя (кантроль над цэнаўтварэннем, вызначэнне ставак за карыстанне банкаўскімі крэдытамі і інш.) і палітыка-юрыдычныя (адхіленне ад пасады чальцоў ураду, службовых асоб выканаўчых органаў мясцовай улады, тлумачэнне законаў, унясенне ў іх змяненняў і дапаўненняў, права адмены рашэнняў мясцовых Саветаў і г.д.) паўнамоцтвы.

І хаця гэты законапраект быў прыняты за аснову («за» выказаліся 177 дэпутатаў пры кворуме ў 173 галасы), далей справа не пайшла. Многія дэпутаты (Зянон Пазьняк, Пётр Садоўскі, Аляксандр Лукашэнка) выказвалі сумнеў у яго мэтазгоднасці. Дэпутат, дырэктар аўтамабільнага гіганта «БелАЗ» Дзмітрый Сыракваш назваў законапраект «ералашным». На думку прадстаўніка парламенцкай апазіцыі БНФ Барыса Гюнтэра, у выніку зацвярджэння дакумента Вярхоўны Савет «становится мальчиком на побегушках у Совета Министров».

У выніку 27 чэрвеня 1991 года Вярхоўны Савет прыняў кампрамісны закон «Аб наданні Савету Міністраў Беларускай ССР дадатковых паўнамоцтваў у 1991–1992 гадах». Саўмін так і не атрымаў права на тлумачэнне законаў, аднак старшыня меў права прызначаць і ахіляць чальцоў урада па ўзгадненні з Прэзідыумам ВС з улікам заключэнняў адпаведных парламенцкіх камісій. У цэлым Вярхоўны Савет адстаяў свае пазіцыі і не дапусціў крытычнага ўзмацнення выканаўчай улады.

Працяг на стар. 6 »

# Перад путчам: турбулентнасць па-беларуску

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 5.




Уладзімір Кавалёнак на адной з сесій Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, 1991 год. Злева: Інэса Драбышэўская. Крыніца: http://vytoki.net




Мітынг ля Дома ўраду ў Мінску супраць падпісання Саюзнага дагавора, лета 1991 года. Крыніца: http://vytoki.net

## Еднасць па-халопску?

Адным з вострых пытанняў для суверэннай Беларусі ажно да жнівеньскіх падзей 1991 года было заключэнне новага Саюзнага дагавора. Беларусь, паводле 12-га артыкула Дэкларацыі аб дзяржаўнай незалежнасці, была гатовая ўдзельнічаць у падпісанні такога акта, у выніку якога, на думку Міхаіла Гарбачова, паўстаў бы абноўлены і дэмакратычны Саюз.

Зацятым праціўнікам падпісання дагавора з боку Беларусі ў Вярхоўным Савеце была, зразумела, апазіцыя БНФ. Пры абмеркаванні гэтага пытання 11–12 чэрвеня 1991 года прадстаўнікі апазіцыі даводзілі, што гэта чарговае палітыканства Крамля ў яго памкненнях захаваць уплыў і ўладу на абшарах паміраючага СССР. Галіна Сямдзянава заклікала ісці па шляху Украіны, якая вырашыла спачатку прыняць уласную Канстытуцыю. Вольга Галубовіч прапанавала паставіць пытанне аб падпісанні на галасаванне толькі пасля таго, як Беларусь запатрабуе ад Масквы кампенсацыі за Чарнобыль, прыме закон аб грамадзянстве і вырашыць, колькі будзе даваць у Цэнтр і колькі пакідаць сабе.

Але ВС 12-га склікання ў большасці быў наколькі пракамуністычным, настолькі ж і прасаюзным. 12 чэрвеня 1991 года дэпутаты 216 галасамі ўхвалілі асноўныя палажэнні Саюзнага дагавора, які неўзабаве быў апублікаваны ў рэспубліканскай прэсе. У адпаведнай пастанове ад імя Беларускай ССР падпісаць дагавар даручалася (па словах аднаго з дэпутатаў, «нашаму бацьку») Мікалаю Дзямянцею.

Але ў сувязі са жнівеньскімі падзеямі пытанне аб Саюзным дагаворы было канчаткова знятае з парадку дня.

## Не «руководящая и направляющая»

Нягледзячы на тое, што 28 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР унёс змены ў шосты артыкул Канстытуцыі 1978 года (удзел у грамадска-палітычным жыцці разам з камуністамі дазваляўся і іншым партыям і рухам), пазіцыі КПБ былі моцныя. Яе ячэйкі кантралявалі ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы. Да таго ж партыя валодала велізарнымі сродкамі. Падчас выступу ў Вярхоўным Савеце 18 чэрвеня 1991 года партыйны кіраўнік (па сумяшчальніцтве — народны дэпутат СССР) Анатоль Малафееў агучыў, што ўласнасць КПБ складае каля 250 мільёнаў рублёў, больш чым палова якіх — датацыі з Масквы за апошнія 50 гадоў.

Аднак непрыемныя хвіліны давялося спазнаць і КПБ. Напалоханыя страйкамі, беларускія бальшавікі вырашылі абараніцца і з юрыдычнага пункту погляду. 4 чэрвеня 1991 года КПБ была афіцыйна зарэгістраваная Мінюстам.

У Вярхоўным Савеце праціўнікі КПБ не заклікалі да яе забароны непасрэдна. Яны прапанавалі ажыццявіць нацыяналізацыю партыйнай маёмасці і забараніць у дзяржсектары любыя партыі, арганізацыі і рухі. Пры прыняцці пазітыўных рашэнняў па гэтых пытаннях дзейнасць КПБ як кіруючай сілы губляла сэнс. І пракамуністычны ў большасці Вярхоўны Савет рашуча стаў на абарону партыі.

18 чэрвеня 1991 года 190 дэпутатаў прызналі «требования национализации собственности КПСС-КПБ противоречащими Конституции и законам БССР». Толькі 62 дэпутаты падтрымалі пры галасаванні прапанову прадстаўніка парламенцкай апазіцыі БНФ Ігара Герменчука аб забароне стварэння і дзейнасці ў дзяржаўных установах суполак любых палітычных партый і арганізацый. У штыкі была сустрэтая прапанова Мікалая Крыжаноўскага аб вынясенні пытанняў аб дэпартызацыі прадпрыемстваў і праваахоўных органаў, нацыяналізацыі партыйнай маёмасці на ўсеагульны рэферэндум. За гэта прагаласавалі 82 дэпутаты.

Іншая небяспека для КПБ была ў спробах расколоць яе знутры. 19 чэрвеня 1991 года «Народная газета» распаўсюдзіла заяву дэпутацкай групы «Камуністы Беларусі — за дэмакратыю», якая складалася з 33 дэпутатаў. Фармальным кіраўніком групы лічыўся Аляксандр Лукашэнка, які днём раней зрабіў адмысловую заяву. У групу ўвайшлі Аляксандр Сасноў, Інэса Драбышэўская і іншыя. «Камуністы Беларусі — за дэмакратыю» заклікалі да пераўтварэння КПБ у партыю парламенцкага кшталту, за развіццё ўсіх форм уласнасці і г.д. Чальцы групы закідалі партыі тое, што яна, нібыта, даўно адышла ад установак XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, умешваецца ў дзяржаўныя і гаспадарчыя справы і іншае.

Артадаксальныя камуністы сустрэлі ініцыятыву негатыўна. 18 чэрвеня 1991 года Малафееў абвінаваціў Лукашэнку ў «глумленні» з КПБ. Партыйны кіраўнік выказаў упэўненасць, што ніхто з чальцоў БНФ не зрабіў бы так у дачыненні да Фронту, як гэта робіць камуніст Лукашэнка ў дачыненні да КПБ.

Аднак з'яўленне «Камуністы Беларусі — за дэмакратыю» было бурай у шклянцы. Яна знікла гэтаксама хутка, як і паўстала, а яе чальцы абмежаваліся толькі гучнымі заявамі і інтэрв'ю.

Нягледзячы на тое, што КПБ у чэрвені 1991 года абараніла свае пазіцыі, яе лёс у СССР быў вырашаны. Абраны 12 чэрвеня 1991 года на пасаду прэзідэнта Расіі Барыс Ельцын ужо 20 ліпеня 1991 года падпісаў указ аб забароне ў дзяржаўным сектары РСФСР дзейнасці арганізацыйных структур палітычных партый і рухаў.

**«Лета страстей политических» 1991 года, здавалася, павінна было скончыцца перамогай партнаменклатуры. Аднак жнівеньская спроба дзяржперавароту паставіла крыж на яе перспектывах**

Пасля жнівеньскага путчу КПБ усё ж прыйшлося зазнаць хоць і часовую, але забарону дзейнасці. Заканадаўча гэта было аформлена ў адмысловай пастанове ад 25 жніўня 1991 года, якую Вярхоўны Савет адмяніў 3 лютага 1993 года.

## «Уся прэзідэнцкая рацьь»

Пры абмеркаванні парадку дня чацвёртай сесіі ВС Беларусі 12-га склікання 21 мая 1991 года старшыня камісіі па пытаннях працы Саветаў народных дэпутатаў і мясцовым самакіраванні (з 1992 года — камісія па дзяржаўным будаўніцтве) Уладзімір Леўчык агучыў сапраўдны панегірык прэзідэнцкай уладзе: «Надо усилить исполнительную власть, если будет парламент — это прозябание, а президент — решительный шаг навстречу возрождению духовных сил нации, президент — это достойное будущее; пост президента — не дань моде, а общественная необходимость».

Наконт увядзення прэзідэнцтва парламентары падчас працы чацвёртай сесіі падзяліліся на тры плыні. Адны лічылі, што трэба абраць прэзідэнта з ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савета на парламенцкай сесіі. У такім выпадку тэрмін паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы працягваўся б да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў парламента. Такую ідэю настойліва лабіраваў будучы выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня.

Другая частка была ўпэўненая, што прэзідэнт павінен быць абраны ўсенародна. У пачатку чэрвеня 1991 года ў «Народнай газеце» выступілі ажно адзінаццаць дэпутатаў, сярод якіх найбольш вядомымі былі Васіль Далгалёў і Анатоль Лябедзька. Падпісанты заявілі, што абранне прэзідэнта на сесіі ВС — палітычная авантура і дзяржаўны пераварот.

Астатнія народныя абраннікі рашуча выступілі супраць прэзідэнцкай пасады наогул. Гэта была парламенцкая апазіцыя БНФ і іншыя найбольш вядомыя дэпутаты, напрыклад, Віктар Ганчар, які ў будучыні, наадварот, стане палымяным прыхільнікам прэзідэнцтва. 21 мая 1991 года праціўнікі прэзідэнцкай пасады заклікалі зняць пытанне з парадку дня. Аднак іх ініцыятыву падтрымалі толькі 118 парламентарыяў пры кворуме ў 173.

У артыкуле «Чаму наменклатура за прэзідэнта», апублікаваным у чэрвені 1991 года ў «Народнай газеце», Зянон Пазьняк імкнуўся давесці, што ў рэспубліцы глеба для ўвядзення прэзідэнцкай пасады не падрыхтаваная. На думку кіраўніка БНФ, трэба было спачатку карэнным чынам рэфармаваць парламент, сістэму мясцовага кіравання і самакіравання і іншае.

19 чэрвеня 1991 года за прыняцце праекта закона «Аб прэзідэнце Беларускай ССР» за аснову прагаласавалі ажно 203 дэпутаты. Пры далейшым галасаванні перамагла групоўка тых, хто выступаў за ўсенароднае абранне прэзідэнта. За гэта прагаласавалі 189 парламентарыяў. А вось прэзідэнта «з парламента» падтрымаў 141 дэпутат.

У сувязі з падзеямі жніўня 1991 года актуальнасць прэзідэнцтва ў Беларусі адышла на другі план, а ў далейшым пытанні, звязаныя з увядзеннем гэтага інстытута, вырашаліся ў Канстытуцыйнай камісіі ВС.

## Чыё ем, таго і слухаю

Бадай, адным з самых раздражняльных момантаў у савецкім грамадстве былі шматлікія прывілеі дзяржаўных чыноўнікаў і партапаратчыкаў. Адчуваючы настрої ў грамадстве, ВС 12-га склікання наважыўся на такі крок, як стварэнне 22 чэрвеня 1990 года часовай камісіі па прывілеях, якую ўзначаліў вядомы журналіст Іван Герасюк. Камісія зазнала шматлікія перашкоды ў працэсе дзейнасці, а Вярхоўны Савет упарта не жадаў скасоўваць наменклатурныя прывілеі.

Таму, па выніках справаздачы Івана Герасюка 27 лютага 1991 года, які прапанаваў рэальны механізм ліквідацыі прывілеяў, ВС прыняў даволі аморфную пастанову: даклад часовай камісіі прымаўся да ведама, Савету Міністраў даручалася прааналізаваць дзейнае заканадаўства і г.д.

Але на страйкавай хвалі дэмакратычным дэпутатам удалося зноў падняць пытанне пра прывілеі. 21 чэрвеня 1991 года адпаведная пастанова Вярхоўнага Савета была больш канкрэтнай: упарадкавалася выкарыстанне ўрадавых лецішчаў і ўрадавай сувязі.

Зянон Пазьняк, маючы на ўвазе кампартыю і камсамол, унёс прапанову, якая забараняла карыстанне ўрадавай сувяззю грамадска-палітычным арганізацыям. Гэту прапанову падтрымалі толькі 74 дэпутаты.

Прадстаўнік парламенцкай апазіцыі БНФ Сяргей Антончык 21 чэрвеня 1991 года прапанаваў прыняць пастанову, паводле якой мясцовыя выканаўчыя органы ўлады павінны былі на працягу 1991 года праверыць правамернасць выдзялення жытла дзяржаўным і партыйным асобам за апошнія тры гады. У адрозненне ад Зянона Пазьняка, Сяргей Антончык набраў 71 голас у сваю падтрымку.

«Лето страстей политических» 1991 года, здавалася, павінна было скончыцца перамогай партнаменклатуры. Аднак жнівеньская спроба дзяржаўнага перавароту паставіла крыж на яе перспектывах і адначасова дала надзею на сапраўдныя дэмакратычныя пераўтварэнні ў грамадстве. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (131)
(ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# «Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!»

## Юбілейны год Янкі Купалы

**Слова «прарок» тлумачыцца як прапаведнік волі Бога, пасланы Богам, прадказальнік будучыні, вяшчун. Абраннікаў на гэтую ролю ў жыцці мінулым, цяперашнім і будучым няшмат.**

Кожнаму народу даюцца свае прарокі, хоць іхняя дзейнасць мае агульналюдскае гучанне. І тыя, абраныя, ведалі аб сваім пакліканні, аб сваім прызначэнні на зямлі. У іх пераліку — і геніяльны беларускі паэт Янка Купала.

Па ўсведамленні значнасці і ролі ў духоўным станаўленні нацыі, выхаванні беларускай самасвядомасці Янку Купалу можна лічыць наступнікам Францыска Скарыны, які ў перакладзеных і выдадзеных ім кнігах Святога Пісання на знак уласнай годнасці і гонару змясціў свой партрэт.

Але для таго, каб адпаведнае ўсведамленне выспелілася, патрэбны час. Той час, калі падсвядомае пакуль адчуванне-прадчуванне не акрэсліцца канчаткова і ўвасобіцца ў высокія паэтычныя радкі. Напачатку мы бачым якраз прадчуванне:

*Кожны край мае тых, што апяваюць,*
*Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,*
*А беларусы ж нікога не маюць,*
*Няхай жа хоць будзе Янка Купала...*
**(«Я не паэта», 1905–1907)**

Сапраўды, беларусы займелі Янку Купалу, якога чакалі цягам стагоддзяў, калі перажывалі нацыянальны ўціск то з захаду, то з усходу, калі ўжо зусім амаль маглі забыцца на сваю слаўную мінуўшчыну, на «залатое» XVI стагоддзе старабеларускай дзяржавы, пік уздыму нацыянальнага духу.

Цягам наступных гадоў у вершах паэта ўсё больш выразна акрэсліваецца голас прарока, бо прароцтвы, заклікі, прадбачанні гучаць на адпаведным узроўні:

*І беларус можа змясціцца*
*Ў сям'і нялічанай славян!...*
*Не пагасіць вам праўды яснай:*
*Жыў беларус і будзе жыць!..*
**(«Ворагам беларушчыны», 1907)**

*І ад краю да краю ўсё далей і далей*
*Моц мая разальецца нязможанай хваляй,*
*Песняры аба мне будуць песні складаць,*
*Народ будзе іх пець і мяне праслаўляць...*
**(«Маладая Беларусь», 1909)**

Але надыходзіць час гаварыць аб прароках наўпрост, бо той перыяд для беларускай нацыі — якраз этап станаўлення, і калі ён будзе ўпушчаны, то гэта можа стаць незваротнасцю.


Помнік паэту скульптара Анатоля Анікейчыка

*Калі прыгнецены няпраўдай*
*Які знябудзецца народ, —*
*Тады з'яўляюцца прарокі*
*І ўсенародны клічуць сход...*
**(«Калі пачнуць...», 1912)**

Здаецца, усё проста. Але Янка Купала цудоўна ведаў тое, што Ісус сказаў сваім спакушальнікам: «Не бывае прарока без пашаны, хіба толькі на бацькаўшчыне сваёй, і ў доме сваім». Ты ідзеш да сваіх родных людзей, супляменнікаў са сваім паднебным словам — а ці патрэбны ты ім? Ці патрэбны прарок, «пасол святла», які задае балючыя пытанні і заклікае:

*Дзе вашы песні жыватворны?*
*Дзе ў вас прарокі й дудары,*
*Што над пагібельнасцю чорнай*
*Віталі б полымем зары?...*
*Пара у рукі браць паходні,*
*Ўставаць, ісці, ноч асвятляць!*
*Бо што не возьмеце сягоння,*
*Таго і заўтра вам не ўзяць...*

На што людзі адказваюць прагматычна-адстаронена:

*— Па колькі нам дасі чырвонцаў,*
*Калі мы пойдзем за табой?*
**(«Прарок», 1912)**

Але магчымае неразуменне народа, калі «няма прарока ў сваёй Айчыне», ужо не спыніць творцу — ён будзе без прыпынку ісці далей і несці свае слова. Бо гэта яго пакліканне, яго місія, дзеля якой яму дадзены дар і дзеля чаго ён пасланы на зямлю. Апафеозам разумення Янкам Купалам свайго прарочага прызначэння стаў поўны драматычнага напружання эпічны філасофска-хрысціянскі санет «Сярод магіл». У савецкія часы верш не друкавалі, яго быццам і не было ў творчай спадчыне Янкі Купалы. Між тым, гэта, на мой погляд, адзін з шэдэўраў паэта.

*Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой,*
*стану,*
*Як пасланец з магіл ад спячых там*
*прарокаў,*
*І ў даль сягну, дзе толькі можа*
*сягнуць вока,*
*І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану.*
*І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану,*
*Як віхраў лёт па ўсёй бязмежнасці*
*шырокай,*
*Кліч-заклінанне векавечнага зароку,*
*Што ў гуслях толькі дрэмле,*
*ў песню ўчараваны.*
*Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба,*
*Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку,*
*Звярнуся к сонцу, сонцу без канца*
*й пачатку.*
*Хай спаліць мне душу, як ствол*
*разбіты граба.*
*Хай вочы высмаліць, як кветку*
*ў ліллі слабай,*
*Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!*
**(«Сярод магіл», 1915)**

Янка Купала ў гэтых радках адназначна ўсведамляе, што нясе свой крыж прарока, што ён пераемнік лепшых людзей Айчыны праз усю яе гісторыю, якія таксама аддавалі свой творчы імпэт і духоўныя сілы на служэнне Бацькаўшчыне. І ніхто ў яго гэтага паклікання не адбярэ, хіба што знікне, спапялёны, крыж. Уласна, вобраз крыжа ўжо і не з прарокамі кліча рэфлексіі, а са Збаўцам. Якая моцная і нечаканая вобразнасць у вершы, асабліва ў апошніх трохрадкоўях!

Прарочых слоў, заклікаў, прадвесцяў шмат у паэзіі Янкі Купалы. І сёння мы можам сказаць, што сваю ролю як прарок нацыянальнага Адраджэння паэт Янка Купала спраўдзіў напоўніцу. Ён клікаў да Беларусі — і людзі прыйшлі да яе.

*Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!*
*Зірні на бацькаўшчыну, на сябе!*
*Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,*
*Як твой навала злыдняў скарб грабе!..*
*Сваю магутнасць пакажы ты свету, —*
*Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.*
*Паўстань, народ!..*
*З крыві і слёз кліч гэты...*
*Цябе чакае маці-Беларусь!*
**(«Свайму народу», 1918)**

Паэт тэму прарока фармальна згортвае ў вершы «Паўстань». Тут таксама заклікі — паўстаць прароку, песняру, ваяку, уладару. Калі ўсё спраўдзіцца цалкам (а гэта азначае нішто іншае, як увасабленну дзяржаўнасць Беларусі), тады паэт нёс свой крыж не дарма.

*Паўстань, з народу нашага прарок,*
*Праяваў бураломных варажбіт.*
*І мудрым словам скінь з народу ўрок,*
*Якім быў век праз ворагаў спавіт!*
*Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,*
*Вазьмі з яе прысягу і зарок,*
*Што не прадасць сябе, сваю зямлю...*
*Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань,*
*прарок!*
**(«Паўстань», 1919)**

Але годзе заклікаў. Усё, напісанае Янкам Купалам да таго часу, якраз і сведчыла, што ў беларусаў з'явіўся свой прарок, свой пясняр, нават духоўны ўладар. Адно што не ваяр у наўпроставым сэнсе слова як рэальны абаронца Айчыны. Прароча ведаў гэта і сам паэт. Свой уклад у духоўнае адраджэнне нацыі Янка Купала вызначыў так:

*Так іншай не знаўшы навукі і школы,*
*Ў пацёмках шукаў і знайшоў Божы дар;*
*Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,*
*Цяпер беларускай я песні ўладар.*
**(«Мая навука», 1919)**

...На жаль, шмат чаго, аб чым прарочa гаварыў вялікі беларускі пясняр, застаецца актуальным і ў нашым часе. Працэс нацыятворства і беларускага дзяржавабудаўніцтва працягваецца. Але нам сёння значна прасцей выконваць гэтую ўрачыстую і цяжкую справу, бо мы маем сваіх прарокаў, песняроў, ваяроў і ўладароў...

**Уладзімір Мароз**

# Спадчына братоў Гарэцкіх

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася штогадовая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя — XXV Гарэцкія чытанні «Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць».**




Сёлетняя канферэнцыя была прысвечана літаратурна-мастацкай і навуковай дзейнасці братоў Гарэцкіх. Вучоныя, літаратурныя крытыкі, пісьменнікі і журналісты дапамагаюць адкрываць новыя старонкі дзейнасці братоў Гарэцкіх.

Ва ўступным слове да ўдзельнікаў і гасцей мерапрыемства дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Дзмітрый Яцкевіч падзякаваў арганізатарам за руплівасць. Неабходна і далей працаваць па папулярызацыі спадчыны братоў Гарэцкіх.

Акадэмік НАН Беларусі Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі праінфармаваў грамадскасць пра важныя падзеі і публікацыі ў друку, якія адбыліся цягам прамінулага года. Выйшаў з друку зборнік матэрыялаў XXIV Гарэцкіх чытанняў, Алена Ярмоленка абараніла дысертацыю ў Гомельскім універсітэце імя Францыска Скарыны, з'явіўся шэраг артыкулаў на старонках «Звязды», « Народнай волі» і « Нашага слова».

Маштабную працу мінулага года прааналізаваў слынны знаўца спадчыны братоў Гарэцкіх член-карэспандэнт НАН, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі. Ён засяродзіў увагу на неабходнасці стварэння гісторыі ўплывовых дынастый, у прыватнасці, дынастыі Гарэцкіх. Радавод сям'і Гарэцкіх ахоплівае 79 асоб. Заслугоўваюць увагі даследчыкаў Еўфрасіння Гарэцкая, маці пісьменніка і акадэміка, Леаніла Чарняўская –жонка Максіма Іванавіча, Ларыса Восіпаўна, жонка Гаўрылы Іванавіча і іншыя. У гэтых асобах выяўляецца непаўторнасць і адметнасць душы народа.

Браты Гарэцкія аказалі значны ўплыў на навуковае, літаратурнае і культурнае жыццё Беларусі, на педагогіку і сцэнічнае жыццё. П'еса «Дзве душы» паспяхова ідзе на сцэне ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску.

Са змястоўнымі паведамленнямі ў пленарным пасяджэнні выступілі доктар філалагічных навук Тамара Тарасава і кандыдат філалагічных навук Сяргей Запрудскі з Мінска.

**Эла Дзвінская, фота аўтара**

# Нашы падарункі Фінляндыі

**Сёлета Фінляндыя адзначае 100-гадовы юбілей сваёй дзяржаўнай незалежнасці.**

Да гэтай слаўнай даты Беларусь, якая святкуе 500-годдзе свайго кнігадруку, падрыхтавала краіне Суомі некалькі кніжных падарункаў.

Несумненна, самы важкі з іх — леташні выхад апрацаванага яшчэ ў 1835 годзе Эліасам Лёнратам карэла-фінскага эпасу «Калевала». На сённяшні дзень гэта самы буйны, на 23 000 радкоў, паэтычны тэкст на беларускае мове, а з'явіўся ён дзякуючы шматгадовым тытанічным высілкам Якуба Лапаткі.

Дзякуючы найперш гэтаму перакладчыку ў выдавецтве Уладзіміра Сіўчыкава сёлета пабачыла свет і кніга «100 сацыяльных інавацый з Фінляндыі» (аўтар-укладальнік — грамадскі дзеяч, лекар, нядаўні дэпутат фінскага парламенту Ілка Тайпале). Тамсама выйшла і ўжо была прэзентавана публіцы напісаная «нашым чалавекам у Хельсінках» Якубам Лапаткам «Кароткая граматыка фінскай мовы» з выдавецкай серыі «Беларускія ЕўраГраматыкі».




На інфармацыйна-адукацыйнай пляцоўцы «Цэнтр шведскіх даследванняў» і ў канферэнц-зале сталічнага гатэля «DoubleTree by Hilton» аматары гісторыі змаглі азнаёміцца і з кнігаю Хенрыка Мейнандэра «Гісторыя Фінляндыі. Лініі, структуры, пераломныя моманты», якую пераклала са шведскай мовы Вольга Рызмакова, аматары паэзіі — з «Выбранымі вершамі» культавай фінскай паэткі Катры Вала, узноўленымі па-беларуску зноў жа Якубам Лапаткам, а маладыя бацькі маглі прыгледзець сваім дзеткам кніжку Ціма Парвела «Эла і сябры» ва ўзнаўленні Алены Казловай.

**Раіна Шастак**

# Зямля пад чорнымі крыламі

**Можна было б напісаць, што гэты аўтар знаходзіцца наводдаль ад асноўных тэндэнцый беларускай прозы, калі б не знаходзіліся там жа і ўсе астатнія аўтары: бо даўно разышліся сцежкі-дарожкі ўтаптаных кірункаў, ды і еднасць былых таварыстваў з іх маніфестамі і няўлоўным прысмакам «агульнага» выглядае дастаткова сумнеўнай. Цяпер кожны сам па сабе — камусьці гэта прыемна, у кагосьці выклікае раздражненне.**




Не ведаю, мне дык такая свабода, нягледзячы на ейную нацыянальную змрочнасць, даспадобы. Калі не трэба фінішаваць першым, можна плысці так, як хочацца табе, а не трэнеру. Гэткі заплыў адзіночак у бяскрайнім акіяне мовы, уласна кажучы, і ёсць літаратурны працэс.

У новай кнізе Вінцэся Мудрова «Забойца анёла» (бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў) мне пабачыўся свядомы супраціў канкрэтным з'явам, з якімі асацыюецца ягонае, аўтарава, імя. Тут ствараецца ўмоўны свет, без маркераў часу і месца, што для Мудрова — вядомага сваім полацкім мінулым — у нейкім сэнсе становіцца магчымасцю адкаснуцца ад «полацкага тэксту»...

Вінцэсь Мудроў быў адным з найцікавейшых археолагаў савецкага абсурду. Пэўным апафеозам штудыяў у гэтым кірунку стаў «Альбом сямейны» з «Бібліятэкі Свабоды» — адмысловы этналінгвістычны слоўнік, які й праз дваццаць гадоў стане добрай дапамогай пачаткоўцам у галіне савецкай этнаграфіі. У «Альбоме» былі змяшаныя бязлітасная іронія і цёплая настальгічная ўсмешка, якая ўзнікае кожнага разу, як раптам занурышся ў час дзяцінства й юнацтва.

Супаставіць жа «Альбом сямейны» з новай названай кнігай — немагчыма. «Забойца анёла» максімальна аддалены ад слоўнікавай яснасці; гэта збор успамінаў і візіяў «цёмнага лорда», з загадкавымі персанажамі, неартыкуляванымі знакамі бяды, містычным дэтэрмінізмам, інстынктыўнымі парываннямі сюжэтаў пры ўладзе паноўнай навелістычнай кампазіцыі.

Згаданая містыка ў кнізе В. Мудрова («Кава апоўначы», «Карты не хлусяць», «Светлай ноччу», «Ведзьма» і інш.) спалучаная з вульгарным, нізавым, гэта нібы ўказанне на тое, што толькі ў маргіналізаваным, рэдукаваным свеце магчымыя трансфармацыі свядомасці: галюцынацыі, прымхавыя фобіі. «Містык» быццам замыкае сябе ў пэўны лад мыслення, і гэта можа адбыцца пад уздзеяннем вонкавых чыннікаў. Можна раскатурхаць сваю эмацыйнасць алкаголем, пажадай, імпульсіўнасцю, няспраўджаным чаканнем. Герой на пачатку апавядання паказваецца, умоўна кажучы, нармальным, але ў ходзе тэксту зазнае метамарфозы. Гэта мог бы быць класічны і нават традыцыйны псіхалагізм у прозе, калі б аўтар «Забойцы анёла» не ішоў крыху далей: псіхалагічны зрыў ён ператварае ў вар'яцтва, і героя абступае навакольны свет да з'ядае яго.

Іронія і настальгічная ўсмешка ператвараюцца ў татальны чорны абсурд, з перверсіямі й расчлянёнкай. Калі і ўсплывае савецкая рэчаіснасць, нейкія ўмоўныя 70-я ў нейкім дастаткова ўмоўным топасе-акварыуме, то і яны, нібыта сто разоў ужываная старая рэч, з мілай штукенцыі робіцца звыродлівым і абрыдлым Ding an sich (рэччу ў сабе), чаго не можаш пазбавіцца, бо прыліпла смалой, і цягаеш яго паўсюль, і выклікае яно толькі нянавісць.

У гэтым чорным гумары абсурдысцкай кнігі Вінцэся Мудрова бачыцца і адлюстраванне стомленасці грамадства ад савецкай тэмы, зашмальцаванай пальцамі ідэолагаў богведама колькіх пакаленняў. Замкнёнае кола агляду, утыканае квадратна-гнездавым метадам у галовы, са сталінымі-ленінымі-гальштучкамі, урэшце перастае выклікаць якую-кольвечы настальгію.

Гэта ўжо не смешна. Гэта проста балюча.

**Ціхан Чарнякевіч, svaboda.org**

# Memoria. Памёр Ігар Жук

30 чэрвеня на 61 годзе жыцця адышоў у іншы свет вядомы беларускі літаратуразнавец, літаратурны крытык і гісторык літаратуры, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Ігар Жук.



Ігар Васільевіч Жук нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Зані на Мядзельшчыне. Скончыў філфак БДУ і аспірантуру пры ім. Займаўся тэорыяй празаічнага рытму, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі па літаратуры, выкладаў на філалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, у апошні час працаваў прафесарам кафедры беларускай філалогіі.

Дзякуючы Ігару Жуку ўпершыню ў гісторыі літаратуразнаўства быў апісаны механізм атрымання з дапамогай камп'ютарнай апрацоўкі тэксту метрычных аўтарскіх эталонаў і разгледжана сістэма іх дынамічнага ўзаемадзеяння (манаграфія «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання»). «Рытмічны інстынкт», адлюстраваны ў іх, адкрыў дадатковыя магчымасці для аналізу асабліваасцяў мастацкага стылю майстроў беларускай прозы: Янкі Брыля, Васіля Быкава, Максіма Гарэцкага, Івана Мележа, Кузьмы Чорнага. Ігар Жук — аўтар кнігі літаратуразнаўчых эцюдаў «Сустрэчны рух».

Зусім нядаўна, 13 чэрвеня, Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў віншаваў Ігара Васільевіча з 60-годдзем, а некалькі дзён таму старшыня Гродзенскай абласной філіі СБП Валянцін Дубатоўка ўручыў Ігару Жуку памятны віншавальны адрас...

— Літаратар, пісьменнік нацыянальнага маштабу, — адзначыў на жалобнай паніхідзе Валянцін Дубатоўка. — Такія людзі заўсёды пакідаюць пасля сябе след і працы, якія мы будзем вывучаць доўгія-доўгія гады. І менавіта вось такія людзі, як Ігар Васільевіч, паміраюць ад сэрца. Бо ён заўсёды перажываў, усё глыбока браў да душы. Калі ўступалі ў наш Саюз маладыя пісьменнікі, ён пра кожнага ўсё ведаў, што яны пісалі і па 10, і па 20 гадоў. Усё гэта праходзіла праз сэрца, праз душу...

Паніхіда за супакой прайшла ў Свята-Пакроўскім праваслаўным саборы Горадні, а пахаваны Ігар Жук быў у вёсцы Гожа Гарадзенскага раёна.

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў шчыра смуткуе з нагоды сыходу вядомага беларускага крытыка і літаратуразнаўцы і выказвае спачуванні родным і блізкім спачылага.

**Прэс-служба СБП**

# «Рэлікты рэлігіі і міфалогіі»

## (Ці пазычаў Ян Баршчэўскі сюжэты ў езуітаў?)

**Ці мог Ян Баршчэўскі пераняць сюжэт для сваёй аповесці пра ката Варгіна з езуіцкіх крыніцаў? Справаздача рыжскага езуіцкага экзарцыста гэтага не выключае…**

**Аповед рыжскага езуіта прыцягнуў увагу тым, што ён перагукаецца з адной з аповесцяў Яна Баршчэўскага, змешчанай у яго кнізе «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», якая ўпершыню была выдадзеная па-польску ў Пецярбургу ў 1846 годзе**



Ян Баршчэўскі, народжаны на беларускай Расоншчыне

Гартаючы выдадзеную летась у Вільні дакументальную кнігу «Рэлікты рэлігіі і міфалогіі балтаў», натыкнуўся на вытрымку з лацінамоўнай езуіцкай справаздачы 1607 года. У ёй езуіцкі святар «П. Фелікс (Людзік)» (P. Felix [Luedigk]) з Рыгі апісвае, як ён ездзіў да аднаго шляхціча, якому трызніліся мроі. Гэтая справаздача ўзятая з «Аналаў» Рыжскай езуіцкай калегіі, што былі перадрукаваныя ў Рызе ў 1941 годзе ў выданні «Крыніцы па гісторыі Латвіі ў архівах Ордэна езуітаў».

Аповед рыжскага езуіта прыцягнуў увагу тым, што ён перагукаецца з адной з аповесцяў Яна Баршчэўскага, змешчанай у яго кнізе «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», якая ўпершыню была выдадзеная па-польску ў Пецярбургу ў 1846 годзе. Вось ён:

«Адзін шляхціч аднойчы ў сябе ў маёнтку гуляў уздоўж ракі, яму паказалася нейкая птушка, якая ўсё ніяк ад яго не адставала, радавала яго салодкімі песенькамі і спрабавала адвабіць як мага далей ад дома. Ідучы за ёй, ён дужа забавіўся. Урэшце пачуў галасы: «Пакайся, пакайся». Напалоханы, ён вярнуўся дамоў, але вось тая ж птушка праз акно ўлятае ў пакой і, сеўшы пасярэдзіне яго, то спявае, то голасам кажа: «Пакайся». Урэшце знікла.

Потым паказалася жанчына ці, хутчэй, у асобе замужняй жанчыны яе ўласны прывід. Яна не давала яму ніякага перадыху. Склікаў сямейнікаў, а таксама тую жанчыну з мужам. Яе абвінавачвае і палохае, каб яна прызналася, што начаравала ці зрабіла чагосьці падобнага. Яна адмаўляецца. Тады ён, моцна спалохаўшыся, загадвае яе мужу хутка чацверыкам коней ехаць па ксяндза, які, як ён думаў, знаходзіцца ў нашым маёнтку. Калі там знайшоў, прылятае ў Рыгу з просьбай ад таго пана, каб як мага хутчэй прыехаў ксёндз.

Тым часам яму паказваюцца ўсякія прывіды і ўвесь пакой запаўняюць мядзведзі, ваўкі, рапухі, змеі, скарпіёны і іншыя падобныя істоты, якія поўзаюць па лавах, па сценах, па ложку. Бярэ псалмоўнік, сам з сямейнікамі спявае розныя псалмы, кажуць літаніі — нічога не дапамагае. Тады звяры лезуць яму ў горла, вушы, рот і розныя часткі цела. Бароніцца знакам крыжа, а тыя пагражаюць, што яго задушаць, калі ён не спыніцца жагнацца і спяваць літаніяў і псалмаў. Ён мужна трымаецца дзень і ўсю ноч; у такім ціску, ходзячы паўсюль, спацеў, нібы ў лазні. Спачуваюць слугі, плачуць сямейнікі.

І вось прылятаюць тры птушачкі і называюць імёнамі трох жанчын, абяцаюць спакой і вызваленне, калі ён дасць адплату. Нябога абяцае. Яму паказваюць месца. Той кладзе грошы. Але яны патрабавалі яшчэ і яшчэ, нават дайшлі да вугорскіх залатовак. Урэшце ён адыходзіць ад таго месца, а калі зноў вяртаецца, дык грошай не знаходзіць. Зноў паказваюцца ўсякія прывіды. Ён моліцца разам з усімі сямейнікамі. І зноў тыя ж птушачкі просяць грошай. Ён кладзе.

Гэтае змаганне з усімі прывідамі і птушкамі працягваецца 5 ці 6 дзён. Апроч таго, у паветры чуе тры галасы: «Пакайся, пакайся, дай водкуп, просім вызваліць душы трох жанчын», імёны якіх называюцца. Урэшце яму паказалася душа аднаго знаёмага яму шляхціча, якога неслі яшчэ тры, — душа пастаянна ў паветры гукала: «Водкупу, ахвяраў!» І так ён не меў спакою ні ўдзень, ні ўночы, нават калі быў у спальным пакоі. Пастаянна чуў крыкі ў паветры, часта на ложку яму паказваўся нібыта мядзведзь і бесперапынна — жанчына.

Урэшце я прыехаў. Ён усё расказаў. І зноў, пры маім удзеле, усё як у іншых выпадках паказалася, і нарэшце тое, што ён сам думаў, яны яшчэ паўтаралі і на гэта адказвалі. Я распытаў пра яго жыццё. Ён расказаў. Пасля экзарцызму прыйшлі да споведзі за ўсё жыццё. Ён пакутаваў праз усе тыя ўявы, якія пастаянна патрабавалі адплаты і ахвяраў. Я яму сказаў, што ён дрэнна зрабіў, даючы грошай. Прывіды кажуць, што ўсё вернуць — і ўжо склалі ў скрыню. Прынеслі скрыню, і высветлілася мана.<...>

Ён пачуўся крыху лепш, і таму, што шмат дзён не еў і не піў, мы селі за стол. Еў, але і тады яго не пакінулі ў спакоі, бо ўсякія звяры поўзалі па лаўках і сценах, а тыя прывіды луналі ў паветры і пагражалі, што здзяруць мне скуру з галавы. Пайшлі спаць; я спаў з ім у адным пакоі. <...> Але ранкам зноў пачалі адчуваць пакуты з галавой. Я заклікаў яго другі раз спавядацца. Прывіды пагражаюць, што калі ён гэта зробіць, скруцяць шыю, а калі наважыцца прыняць святую Еўхарыстыю, дык задушаць. Ён схадзіў да споведзі і прыняў Камунію.

Адчуў сябе лепш. Хоць і дагэтуль чуе тых, хто кліча ў паветры, але ўжо не так моцна».

***

А вось пара ўрыўкаў са «Шляхціца Завальні», з 13-й аповесці «Чараўнік ад прыроды і кот Варгін» (пераклад урыўкаў — аўтара гэтых радкоў). У аповесці расказваецца, як ад гаспадара да гаспадара пераходзіў кот Варгін, як у кожнага новага гаспадара праз таго Варгіна заводзіліся розныя пачвары і як праганяў тых пачвараў з галавы чараўнік Тамаш, які адмысловымі словамі выяўляў іх і выганяў прэч.

«Страх страсянуў усіх, хто на гэта глядзеў, сыпаліся з дзяцей якіясь дробныя, страшныя і дзіўныя зьяркі кшталту жабак і мышак, поўзалі па пакоі і ў шчылінах шукалі сабе хованкі, іх пранізлівы піск быў невыносны для слыху. З галавы панны Зафіі вылеталі матылі рознага колеру і рознай велічыні, луналі пад столлю, а маці, пазіраючы на гэта, дрыжэла ад страху і была як непрытомная. Тамаш, бачачы іх пакуты, матнуў рукой, і ўмомант матылі і ўсякія пачвары зніклі».

«Тамаш наблізіўся да гаспадара і, калі той пазіраў на яго як непрытомны, пачаў казаць чарадзейскае слова, і тады яшчэ страшнейшыя з'явы далі сябе бачыць, з усіх адтулінаў галавы пана суддзі вылеталі пухіры, падобныя да мыльных бурбалак, і, пад столлю лопаючыся, ператвараліся ў жудасныя страшыдлы, ляталі крылатыя вужы, агністыя цмокі, і якіясь пачвары снавалі над галовамі, падобныя да спарахнелых шкілетаў, з іх на падлогу падалі косці і трупныя галовы, усе там прысутныя ад немарасцевага страху самі былі падобныя да трупаў, якія паўстаюць з трунаў. Нарэшце Тамаш матнуў рукой, усе тыя вужы, цмокі і касцятрупы зніклі, і ён сам выйшаў за дзверы, пакінуўшы гаспадара і гасцей нямымі ад пераляку».

***

Як можна бачыць, выклад, стыль і праявы дужа падобныя. Толькі ў адным выпадку (аповесць Яна Баршчэўскага) аповед прынята лічыць аўтарскай мастацкай выдумкай, а ў другім выпадку (аповед езуіцкага экзарцыста) — «чыстая» дакументалістыка, прызначаная для сваіх архіваў.



SZLACHCIC
ZAWALNIA
czyli
BIAŁORUŚ
W FANTASTYCZNYCH OPOWIADANIACH
przez
JANA BARSZCZEWSKIEGO.
Poprzedzone krytycznym rzutem oka na Literaturę Białoruską
przez
ROMUALDA PODBERESKIEGO.
Z ryciną Rud. Żukowskiego, przedstawiającą główne sceny opowiadań.
PETERSBURG.
w Drukarni Karola Kraja.
1844.



Трэба адзначыць, што праўдзівасць аповесці Яна Баршчэўскага надае тое, што больш мы ніадкуль не ведаем пра такога персанажа, як кот Варгін. Значэнне гэтага імя Яну Баршчэўскаму наўрад ці было вядома — яно значыць «той, хто знясільвае». Гэтае імя — з агульнабалцкай лексікі: літоўскае vargti, латышскае vārgt, старапрускае wargtwei (значыць «знясільвацца»). А ў літоўскай маем нават прыметнік-характарыстыку varginas (націск на першы склад), што значыць «знясільвальны» (varginas darbas — «знясільвальная работа»). Ёсць, дарэчы, працяг і ў пазнейшай славянскай лексіцы: «вораг» (*vorgъ), але з пазнейшай, вытворнай семантыкай (тое, што знясільвае = кепскае, благое; кепскі, благі = вораг).

Ян Баршчэўскі вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, быў сынам уніяцкага святара, нарадзіўся ў засценку пад Расонамі. Ці мог ён пачуць тое, што пазней апісваў, ад сялянаў? Мог. Але, напрыклад, у аповесці пра чараўніка Тамаша і ката Варгіна гаворыцца аб шляхецкім маёнтку і падзеях у ім. Зусім як у рыжскіх аналах амаль за паўтара стагоддзі да выдання кніжкі Яна Баршчэўскага. Ці мог пісьменнік даведацца пра нейкія аналагічныя падзеі, калі быў у асяроддзі полацкіх езуітаў? Вось жа, таксама не выключана.

Не магчыма не заўважыць, напрыклад, і падобную структуру выкладу ў згаданай аповесці Яна Баршчэўскага ды ў рыжскіх езуіцкіх аналах. У маёнтку яго шляхецкім жыхарам не даюць спакою магічныя праявы, якія прыязджае «адольваць» чараўнік Тамаш (у Яна Баршчэўскага) ды езуіцкі ксёндз «П. Фелікс (Людзік)» (у рыжскіх аналах). Адно што ў Яна Баршчэўскага тыя праявы выяўляюцца па незвычайным слове чараўніка і знікаюць, а ў езуіцкай справаздачы канец не такі абнадзейвальны («і дагэтуль чуе, але ўжо не так моцна»).

**З усіх адтулінаў галавы пана суддзі вылеталі пухіры, падобныя да мыльных бурбалак, і, пад столлю лопаючыся, ператвараліся ў жудасныя страшыдлы, ляталі крылатыя вужы, агністыя цмокі**

Такім чынам, няма дастатковых падставаў сцвярджаць пра выкарыстанне Янам Баршчэўскім у сваім творы езуіцкіх крыніцаў. Але з высокай верагоднасцю можна канстатаваць наступнае: тое, аб чым пісаў Ян Баршчэўскі (прынамсі, у аповесці пра ката Варгіна), магло быць не мастацкай прыдумкай аўтара, а адным з рэальна зафіксаваных выпадкаў. І зусім магчыма — з вышэй згаданай экзарцысцкай практыкі езуітаў.

**Алесь Мікус**

# Паэт

## Светлай памяці Самсона Пярловіча



Міхась ЗІЗЮК

**Ён стаяў на самым сіверы. На гэтым рагу сыходзіліся ці не ўсе самыя злыя і халодныя вятры невялікага гарадскога базарчыка. Старая пляскатая драпавая кепка, з-пад якой выбіваліся ссівелыя пасмы, даўно ўжо не грэла, як і не ўкрывала ад халадоў зацяганае чорнае паліто.**

Калючая пранізлівая дуйка часам адчайдушна кідалася ў твар, тады ён адварочваўся, стараючыся хоць крыху захінуцца ад пякучага холаду. Зрэшты, яму не прывыкаць — не такія маразы перажыў у чужых непрыветных краях. Колькі давялося памерзнуць на голых дошках у бараку, колькі калеў на лесапавале, на этапе — хто калі лічыў тыя дні…

Воля здавалася недасяжнаю, але надзея саграваала, не давала згінуць у страшнай гулагаўскай куламесе. Перажыў, выжыў, выстаяў, вярнуўся на родную зямлю. А безліч касцей назаўжды засталося ляжаць у той, усеянай пакутамі, крывёй і слязьмі, далёкай старане.

Ён дастаў хусцінку, адвярнуўшыся, высмаркаў вялікі, учырванелы ад доўгага стаяння на холадзе нос, і зноў схаваў яе ў кішэню. На невялікім дашчатым прылаўку ляжаў няхітры тавар — рознае, былое ва ўжытку начынне, нейкія прылады і, самае галоўнае, яго кнігі «Заяц на бярозе». З просценькім подпісам «Паэт прадае свае творы» яны сіратліва стаіліся сярод нагрувашчанага жалеззя. Кніга немудрагелістая, зробленая ў мясцовай друкарні, але якой жа дарагой была яна для яго!

Людзей у гэты час няшмат, дый тыя стараліся хутчэй прабегчыся, купіць што патрэбнае, каб зноў схавацца ва ўтульных кватэрах. Яму ж не было як, яму трэба стаяць, стараючыся хоць кольвечы-што ўгандляваць — вяртаць пазыкі неабходна. А што на тавар увагі звярталі мала — дык тое звыклы малюнак. Нічога не зробіш, не гандляр ён, жыццё прымусіла стаяць.

Пракацілася чарговая халодная хваля, і ён шчыльней падаткнуў шарсцяны пярэсты шалік на худой зморшчанай шыі. Зірнуўшы ўбок, на аўтастанцыю, чамусьці адразу прыгадаў мінулае. Памяць бліскавічна азарылася ўспамінамі. Яны палезлі з глыбіні цэлымі пластамі, нібы прасіліся на паперу, каб ён занатаваў іх для нашчадкаў, каб тыя не забыліся пра жахлівае мінулае. Толькі пісаць пра перажытае ён ужо не будзе, усё, што мог зрабіць — зрабіў. Вершы, напісаныя ім, засталіся, не згінулі, іх чытаюць, і верыцца, што будуць чытаць — а там уся праўда.

*І ноччу, і днём падхалімы скуляць,*
*Пра росквіт жыцця, пра свабоду,*
*Ад гэтай «свабоды» аж стогне зямля,*
*А ў росквіце тым — смерць народу.*
*Люцыпар — кат Сталін — старых і малых,*
*Запрогшы ў калгасныя ёрмы,*
*Нявіннай крывёй суцяшае іклы,*
*Каму колькі жыць, ставіць норму.*

Радкі гэтыя напісаліся ў памятным 1947 годзе. Ужо падгаіліся раны і пабоі, атрыманыя пасля некалькіх спробаў няўдалых уцёкаў з нямецкага палону — яго, як і многіх іншых юнакоў, забралі на прымусовыя работы ў Германію. Уцяклі па дарозе, іх злавілі, зноў уцёкі, палон, здзекі, цяжкая праца ў далёкай Аўстрыі. І вось калі вярнуўся дамоў, крыху акрыяў, сяк-так набраўся моцы, зразумеў, што новая ўлада не дасць свабодна дыхаць беларускаму народу на роднай зямлі, што Беларусь не будзе вольнай, як марылася. Па-злачыннаму, начамі, людзей хапалі і вывозілі, сялян заганялі ў калгасы, народ, які перажыў страшэнную вайну, зноў апынуўся пад прыгнётам. Сэрца сціскалася ад крыўды і несправядлівасці. І тады ж даведаўся, што ён не адзін, што ёсць аднадумцы, якія бачаць Беларусь толькі незалежнай. Патрыёты гэтыя стварылі Саюз вызвалення Беларусі. Напоўніласа сэрца кволай надзеяй — можна паспрабаваць штосьці змяніць, перайначыць на роднай зямлі. Хай не адразу, хай паціху, але перамяніць, даць людзям надзею на іншае жыццё. Бо тое, што робяць з людзьмі, з зямлёю, з радзімаю бальшавіцкія ўлады, супярэчыла ўсялякаму здароваму сэнсу. І ён з радасцю далучыўся да падпольнай працы. Але радасць нядоўгаю была…

Трэба ж было яму звязацца са здраднікам, даверыцца. Нагадваў жа Генадзь Казак: будзь асцярожным. Не выйшла. Помніцца тая ноч, як грукалі ў дзверы прыкладамі, а затым яе ўвогуле выламалі, як груба, па-звярынаму, рабіліператрус, як пасля піхалі ў чорны варанок, як чорнымі жудаснымі плямамі нема зеўралі вокны ў горадзе. Нават сабакі не брахалі, стаіўшыся, як і ўсе жыхары, у жывёльным страху і здранцвенні перад чорным энкавэдысцкім груганнём, а тыя п'яніліся ад уседазволенасці, усёўладнасці і беспакаранасці.

Страху і шкадобы да сябе не было, паспела загартаваць яго жыццё. Ён усведамляў, што за гэтым арыштам можа стаяць вышэйшая мера. Калі наканавана — няхай, за родную зямлю ён гатовы скласці галаву. Ён і сапраўды верыў, што некалі праўда закрасуе.

*Жар мне сэрца паліў,*
*Вочы слеплі ад мукі,*
*Пот змахнуць не маглі*
*Закаваныя рукі.*

Ці не яго аднаго пацягнулі да ка́та беларускай зямлі — лысага, з барадаўкай, вельмі агіднага з выгляду Цанавы. Найперш, за верш: як мог асмеліцца нейкі чарвяк-беларус назваць самога Сталіна ка́там. Няўжо існуюць такія? Як падляцеў усутыч да яго разлютаваны брыда-Цанава, як тупаў нагамі і са злосцю крычаў: «Як ты мог напісаць такое пра «бацьку народаў?» А ён тады, малады, гарачы і перакананы ў сваёй праўдзе, смела кінуў у адказ пачвары: «Для вас ён, можа, і бацька народаў, а для беларускага народа — кат». Ох, як затупацеў той, як раз'юшана закрычаў па-беларуску: «Не мані!!!»

Развіталіся з хлопцамі ў лёхах. Ды не, не сталі іх забіваць, па выраку пагналі на поўнач, на лесапавалы. А ён і там не кінуў паэзію, нават у тых нечалавечых умовах задумваліся радкі, якія ён, не маючы магчымасці занатоўваць, проста завучваў. Кастусь Рамановіч побач з ім на нарах быў, завучвалі разам. А як было тое кінуць? Аніяк, людзі павінны ведаць, павінны памятаць пра тое, што тварылася крываваю ўладаю і яе прыслужнікамі.

*Я не пісаў бы вам*
*Пра страшны здзек шалёны,*
*Калі б цярпеў здзек толькі сам,*
*А не людзей мільёны.*



**Помніцца тая ноч, як грукалі ў дзверы прыкладамі, а затым яе ўвогуле выламалі, як груба, па-звярынаму, рабіліператрус, як пасля піхалі ў чорны варанок, як чорнымі жудаснымі плямамі нема зеўралі вокны ў горадзе**

Як жа цягнула тады дахаты, на мілыя ўзгорачкі навагардскія, зірнуць хоць адным вокам на родныя Католышы. Пэўне, толькі надзея і ратавала, надзея на тое, што ціск чорнага наслання аслабне, што будуць і лепшыя часы. І вярнуўся, пакінуўшы там некаторых верных паплечнікаў-аднадумцаў дый проста незлічоную колькасць бязвінных ахвяр крывавай зграі. Недзе там застаўся і Генадзь Казак. Эх, братка, як жа марыў ты пра незалежную Беларусь, мабыць, болей за ўсіх. Але верылася, што не зніклі яны, што хоць пасля смерці адляцелі на родную зямлю, да родных палёў, да продкаў…

На радзіме многія адвярнуліся ад яго: хто з-за боязі перад уладамі ці начальствам, хто проста са страху вечнага — каб чаго не здарылася, некаторыя і шчыра ненавідзелі, лічылі здраднікам, за спіною называлі фашысцкім халуём. Ён ніколі не пярэчыў такім, верыў, зноў жа, верыў, што час усё паставіць на сваё месца. Цяжка было, але свет не без добрых людзей, і яго рукам справа знайшлася. Ён не шукаў іншых шляхоў — як прыйшоў на завод, так і застаўся. Цягам часу і сям'я зладзілася, дачка з'явілася. Нязменным заставалася толькі адно — яго любоў да скону, паэзія, толькі яна ніколі не пакідала — як не пакінула нават у няволі, — толькі ў ёй душа знайшла сабе патаемны куточак, у якім можна было ўволю насалодзіцца свабодаю, аддаць сваім думкам увесь прастор. Ён разумеў, што яго не надрукуюць, але адмовіцца ад таго, чым жыў, не мог. А вось рабочы люд упадабаў яго вершы і гумарэскі, нярэдка нават са сцэны ён чытаў свае творы пад гучны рогат і шчырыя воплескі. Сшыткі папаўняліся новымі радкамі…

Нават не думаў, што запаветная юначая мара збудзецца яшчэ пры яго жыцці — Беларусь стала незалежнаю. Збылося тое, за што ён і ягоныя сябры распачыналі барацьбу. Многія не дажылі да светлага дня, але галоўнае — яны ўсе не злачынцы цяпер, як было пры савецкай уладзе, а сапраўдныя сыны сваёй зямлі. Значыць, яго сябры загінулі недарэмна. Хай сабе гэта высокія словы, але ён мае права так сказаць перад усімі: іхнія лёсы пакладзены ў падмурак незалежнасці. І дыхаць стала вальней, і сонца засвяціла па-іншаму, і твары людскія, здавалася, пасвятлелі. Яго творчасцю зацікавіліся, яго прызналі, друкаваць пачалі — і гэта ўжо поўніла сэрца радасцю. А потым дапамаглі добрыя людзі і кніжку зладзіць, вершы паклалі на музыку, загучалі песні, — роднае слова набыло для яго новае гучанне. Памятаецца, як упершыню слухаў сваю «Шыпшыну» ў выкананні мясцовага хору, падпяваў у шчаслівым тумане следам за спевакамі:

*Ой, шыпшына, шыпшына,*
*Чар любімай зямлі,*
*Да красы да нявіннай*
*Ты мяне прытулі.*

Пачуцці перапаўнялі, хацелася, каб гэта доўжылася далей. Толькі жыццё — не песня. Да сямейна-бытавых нягод, якія ён хаваў ад усіх, звалілася бяда — хвароба дачкі. Аперацыя за мяжою каштавала немалых грошай, ён зрабіў амаль немагчымае. Таму цяпер даводзіцца адрабляць.

…Праляцела купка падлеткаў. Нешта гаварылі паміж сабою, глянуўшы на яго, засмяяліся і пабеглі далей. Не надта пакуль яны прыслухоўваюцца да гукаў матчынай мовы, не закрасавала пакуль ва ўсю моц насенне, пасеянае мінулымі пакаленнямі змагароў за беларушчыну. Неяк нядаўна выступаў ён на першавераснёўскай урачыстай лінейцы ў мясцовым ПТВ. Дзеці гудзелі, гаманілі, хто слухаў на паўвуха, а хто і ўвогуле не слухаў, што прыкрасцю лягло на сэрца. Што ж, у іх сваё жыццё, свая дарога. А якім будзе той шлях, якая будучыня чакае іх? Хочацца спадзявацца, што будзе светлай, што чорная мінуўшчына згінула назаўжды. Галоўнае — каб яны, дзеці, адчулі сябе сапраўднымі беларусамі, не грэбавалі б сваёй моваю, ганарыліся б сваёю краінаю, каб зярняты, кінутыя ім і яго сябрамі, трапілі ва ўрадлівую глебу. Вось гэтага яму цяпер хочацца больш за ўсё. А ці складзецца так, як марыцца?

Праз цяжкія свінцовыя лістападаўскія хмары прабліснула сонца. Ён зірнуў на гадзіннік: час збірацца. Сёння зноў амаль нічога не ўгандляваў, але нічога не паробіш. Начынне прылаўка паціху склалася ў пабіты часам і жыццём чорны скураны партфель. Кнігі на нейкі момант ён затрымаў у руках, пасля акуратна склаў і іх.

Шчоўкнуў замок. Азірнуўшыся, ён выйшаў і пашыбаваў на выхад. Яшчэ хвіліна — і яго прыгорбленая самотная постаць знікла за агароджаю, растварыўшыся ў гарадскім тлуме.

*30 чэрвеня сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхась Міхайлавіч ЗІЗЮК адсвяткаваў свой 50-ты дзень нараджэння. Жадаем нашаму аўтару жыццёвых радасцяў, шчаслівых адкрыццяў і новых публікацый.*

# На салаўіным плёсе



Васіль ЗУЁНАК

## Беды

*Думу горкую думаю:*
*Хто развее бяду маю?..*

*«Ну што за жыццё! — лебяда ды сныць... —*
*Божа мой, божа высокі...» —*

*Можна паплакаць, можна паныць, —*
*А клёку?*

*Які пакрой — гэткі і строй,*
*І музыка спее такая.*
*У зорным небе — узорны настрой,*
*У хмарным — і песня кульгае.*

*То лепей — канатаходцам — забыць,*
*Што над бяздоннем дарога.*
*Інакш: падзенне...*
*А жыць — дык жыць*
*З верай у перамогу.*

*Лепей бедам наперакор —*
*У бокі сныць-лебяду ім! —*
*Даю адстаўку, адлуп, адпор, —*
*Хай без мяне пабядуюць!*

## Свет

*Гэта для нас з сакрэтаў сакрэт,*
*А Свет не гуляе ў сакрэты, —*
*І можа, раптам таемны той свет*
*Якраз і акажацца гэтым?..*

## Пахвала працяжніку

*Не мёдам грачнёвым, а чэрствай скарынкай*
*Надзей маіх і чаканняў*
*У вулей славесны я знакі прыпынку*
*Штодня частавацца склікаю.*

*Я знаю, што іх вымятаюць, як шуму,*
*Апосталы модных наваций, —*
*О знакі прыпынку, таму і прашу вас*
*Бяздумна не прыпыняцца.*

*Каб сэнс не хістаўся знямогла,*
*а дуж быў,*
*На гэта ў вас клёк адмысловы, —*
*Таму й даversion: не ў службу,*
*а ў дружбу*
*Шыхтуйце слова да слова.*

*Ніхто з вас панура ў радку не марнее,*
*Бо кожны — тварэц, а не стражнік.*
*І ўсё ж, пэўна, кожны мяне зразумее:*
*Найпершы дружбак мой — працяжнік.*

*Між двух берагоў вясёлая кладка,*
*Праменьчык, што думкі злучае,*
*І ў новыя сэнсы імкне без аглядкі —*
*Працягаў разведчык адчайны.*

*І запрашэнне ён, і накірунак —*
*Пранізвае думку і сэрца.*
*А верш — як настроіць працяжнікаў*
*струны, —*
*Паслухайце — музыкай льецца.*

*Бывае, працяжнік супыніцца коскай —*
*І тут жа маланкай накрэсліць*
*Ёй шлях зіхатлівы сцяжынкаю роснай, —*
*А гэта і трэба для песні!..*

## На салаўіным плёсе...

*На салаўіным плёсе —*
*А ён на цэлы лес, —*
*Бушуе шматгалоссе —*
*Вясновы інтарэс.*

*Вясновая цікаўнасць:*
*А хто, ды з кім, ды дзе.*

*Абцасікі — цвікамі:*
*Куды той след вядзе?..*

*Хоць і здагадку маеш —*
*У досведы не лезь.*
*Вясну, брат, не ўтрымаеш —*
*Ты з ёю: тут і ўвесь!*

*Вясна — яна такая:*
*Ці ўподручкі вядзі,*
*Ці так цябе злякае:*
*На ўсё жыццё — адзін...*

*На салаўіным плёсе*
*Не ўладныя гады:*
*Каханне засталося*
*Адно — і назаўжды.*

***

*Дзень сённяшні знічкай ляціць:*
*Успыхне — і тут жа згарае.*
*Ляціць да зямлі, каб свяціць,*
*Ды ў небе прытулку не мае.*

*З днём заўтрашнім коштам малым,*
*Напэўна, дасць бог, разлічуся.*
*А як рахавацца, а як з тым былым,*
*Дзе жыў і куды не вярнуся?..*

## Адсутны на фотаздымку...

*З мамаю — дзве незабудкі ў траве,*
*Ад сцюжы схаваныя ўзімку:*
*Зіна і Каця — сястрычкі мае —*
*Як напрадвесні, глядзяць з фотаздымка.*

*А я?.. «А ты, жартавалі яны,*
*Тым часам таксама быў з намі,*
*Ды каб не прыбавіў фатограф цаны,*
*Аб тым не прызналася мама.*

*Мы трошкі ведалі мамін сакрэт,*
*Але таксама маўчалі.*
*А ты неўзабаве з'явіўся на свет,*
*З чым мы цябе і віталі!..»*

*На здымак, нібыта праз вечнасць,*
*гляджу:*
*Сястрычкі застылі ў маўчанні.*
*А мама — я знаю! — я сёння скажу:*
*Мама — з усмешкаю прадчування...*

***

*Што Бог наканаваў мне — не аддам,*
*Таго жывым зламысна не пакіну:*
*Навошта мой гаркотны клопат вам, —*
*Няхай са мной кладзецца ў дамавіну.*

*Адзінае, што ахвярую ўсім, —*
*Што? — падкажу, калі вам так цікава:*
*Аб чым ніколі Бога не прасіў,*
*Бо на зямлі не меў на гэта права.*

## Стварэнне

*Стадыён тысячавокі —*
*І адзіная для ўсіх*
*Зрэнка — мяч пакутнабокі,*
*Рот адзін на ўсіх, і слых.*

*Звычкі, густы і заняткі*
*Ўсе ў яго — адным слугой,*
*І пасуе, і ў «дзявятку»*
*Б'е адзінаю нагой.*

*У чацвёртым вымярэнні*
*Ён жыве, як грымне: «Гол!..»*
*Трэба ж — гэткае стварэнне*
*Спарадзіў на свет футбол!..*

## «Па-царску»...

*А тата й не знаў, што быў цар ён — Васіль,*
*Што й я пайменаван па-царску,*
*Бо з моваю грэцкай стасункаў зусім*
*Не мела дзядоў гаспадарства.*

*Ніхто з нас па-грэцку ні думаць не мог,*
*Ні сноў алімпійскіх не бачыў, —*



*Імя ж — нібы грэку — не цар і не бог,*
*А поп наш шчаўроўскі прызначыў.*

*У полі з сяўнёю, на лузе з касой —*
*То й значыць: царуй па-мужыцку...*
*Маё ж цараванне пайшло паласой*
*Бядняцкай: на рыфму разжыцца...*

*Ды з гартам мужыцкім і я не прасіў*
*У Музы планіды ліхвярскай, —*
*А як жа інача: Васіль ёсць Васіль, —*
*Як цар, то ўпраўляйся па-царску!..*

*І ўрок мой у гэтым. Аднак жа не ўвесь, —*
*Я мерай зямною праверыў:*
*Хоць з іменем царскім — на неба не лезь, —*
*Тут трэба спытацца ў Гамера.*

***

*А свет стаў разумны, і кожны лахудрык*
*Уладу, як дзеўку, грабе пад сябе:*
*Спаць дурнем з ёй ляжа —*
*прачнецца ўжо мудрым —*
*Разумніка зорку нясе на ілбе.*

*І кожны разумнік — да шчасця рамізнік.*
*А мо — падвязе? — га! — трымайся ямчэй!..*
*Ты — пры камунізме, а ён — пры харызме:*
*Ты — тут заставайся, а ён — уцячэ.*

## Двое ў люстэрку восені

*Нібы з далечы зорнай, прыходзіць Чайкоўскі:*
*Фартап'яннай асенняю песняй...*
*Акорд*
*Абрываецца ў струнах усплёскам-*
*Успамінам мелодыі весняй —*
*Ды вяртаецца зноў — зноў:*
*самотай пакроўскай,*
*І настрой адзіноты б'е сусветны рэкорд.*

*І толькі ты, мой нязменны хаўруснік,*
*Мой стары, з пасівелаю шчэццю*
*Дажджу, —*
*Ты, нібыта ў люстэрка восені мусіш —*
*Сябра ўсё ж! — зазірнуць у вакно...*
*О мой вецер,*
*Як і ты на мяне, у скрусе*
*Я ў вочы твае*
*Гляджу...*

## Няўжо?..

*Супроць утопій і міражоў*
*Камуністычна-біблейскіх*
*Змагаліся гуртаахвярна — няўжо,*
*Каб зноў марнець па-лакейску?..*

*Ад таўстасумаў і ад чыноў,*
*Прадажных іх тоўстым сумам,*
*Каб абяцанняў нажыўку зноў*
*Глытаць як закусь пад вермут*
*бяздумны?..*

*Глядзець, як зусім не ў калгасны кацёл,*
*А нібы ў міфічную анты-кішэню*
*З прыўладнай каровы надой і ацёл*
*Сплываюць у банкі заморскіх*
*«Сейшэляў»...*

*А можа і іншыя ёсць астравы —*
*Гарызанталь «вертыкальнага» раю,*
*Дзе людзі — пластамі пад сонцам, а вы —*
*Паплачце: яны ж бо са скурай згараюць!..*

*Прыкіньце: якія ж здабыткі ў нас*
*І што мы пакінем нашчадкам? —*
*Паўсталы з нябыту «урвіцеляў клас»,*
*Хакей і АМАП для парадку?..*

*А што для душы застанецца? — Няўжо*
*Адно: бізнес-шоў ды віскат,*
*Палон шматсерыйны тэле-гужоў —*
*Да скону ад самай калыскі...*

*Ды горкая памяць аб тым, што было.*
*І ў беспрасвецці — што будзе...*
*І покуль дрыгвою ўсё не заплыло:*
*Няўжо?!. — падумайце, людзі!..*

***

*Я часта непакоюся ў журбе:*
*А раптам вершы знікнуць, і паэзію*
*Камп'ютар хіва ў сеціва зграбе*
*І з музаю пачне гуляць гарэзліва, —*

*Як з матыльком павук... І што тады*
*Маёй душы, самотнай беспрытульніцы,*
*Як дагукацца, адшукаць сляды*
*Абранцаў мовы роднай — слоў матуліных.*

*Як з полем жніўным мне пагаварыць,*
*Як пашаптацца з лугавымі зёлкамі,*
*Як неба ад зямлі абараніць,*
*Спавітай змрочнай ядзернай вясёлкаю.*

*І як адтуль, з міжзор'я, хоць бы раз,*
*Вярнуўшыся, паслухаць: вольным голасам*
*Гамонячы, ідуць, як і было пры нас,*
*І Караткевіч, і Купала з Коласам...*

*Давай жа, будучы камп'ютар-графаман,*
*Згаджайся на дамову непарушную:*
*Жывое слова не заводзь у зман, —*
*Каго яно парадуе, бяздушнае...*

## Задыханасць

*Задыхана, як замуціў*
*Век песню жніўную ў леце;*

*Задыхана, як каранцін*
*Верлібра ў звонкім санеце;*

*Задыхана, як асарці*
*Лявонцьева ў гейскім саеце;*

*Задыхана, як супрацiў*
*Праўды абману ў дэкрэце;*

*Задыхана, як асецін*
*Адзін на адну з дзвюх Асецій;*

*Задыхана, як пры куцці*
*Жалобная свечка ў сусвеце;*

*Задыхана, як Аўгусцін —*
*Святы — на зямным ліхалецці;*

*Задыхана, як у трысці*
*Меліярацыі вецер;*

*Задыхана, як пабрацім*
*Чарнобыля на Астравецці... —*

*Задыхана будуць расці*
*Ў задыханым краі дзеці...*

## Каб заўтра...

*А я хачу, каб заўтра выйшла газета —*
*Дзяржаўная! — не так сабе,*
*Не грантава-слёзная,*
*І каб на першай паласе —*
*І штодзённа! —*
*Паэты.*
*Якія?*
*Ды ясна ж — усе:*
*І добрыя каб*
*І розныя!*

# Пантофля Мнемазіны

## Пачатак рамана



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

**Раздзел першы.
Прывід з унітазам.**

Вы разбіраецеся ў пагонах?

Я — не.

Таму цяпер і сяджу ў закутку, дзе на адным маніторы бачу, як людзі ідуць па лесвіцы ўніз, на другім — уверх.

Як на малюнку аўстрыйскага мастака Эшэра, які любіў маляваць неіснуючыя канструкцыі, па якіх то жамяра поўзае, то чалавечкі.

Ну скуль мне было ведаць, што маленькае фота дзядзькі не з тымі пагонамі запхне мяне ў гэты закуток, да гэтай дурной працы, нібыта спецыяльна прыдуманай мне ў пакаранне.

А ўсяго толькі ў ведамаснай транспартнай газетцы, дзе я працавала дызайнерам, трэба было размясціць чарговую гутарку з Вельмі Важным Начальнікам, адначасова і ваенным, і транспартным. Раз-два, фоткі з інтэрнэту спампавала... Як па мне, дык усе там на адзін твар: квадратныя сківіцы, халодныя вочы, на фізіяномію зірнеш — да варажэі не хадзі, ногі ў кірзавых ботах.

Але фота, якое я на аўтамаце паставіла на паласу, аказалася старое, і ў дзядзькі на пагонах блішчэла на адну зорачку менеў, чым ён цяпер мае.

— Толькі і адчапіліся, калі запэўніў, што віноўныя паляцяць з працы са свістам, — начальнік мой, Вячаслаў Мацеевіч па мянушцы Доктар Зло, стамлёна выціраў змакрэлы лоб папяровай сурвэткай з выявамі калядных аленяў. — Вядома, што з цябе, дзеўкі, узяць. Сітуацыя дурная. Звальняць не буду, але перасядзі, пакуль усё супакоіцца, на другой пасадзе, далей ад рэдакцыі, каб на вочы нікому не траплялася.

Вось і не трапляюся. Я цяпер незаўважная, як шашаль у бярвенні.

Месца маёй высылкі — у вольным кутку службы бяспекі. Ахоўнікі вестцы, што цяпер у іх пад бокам будзе шыцца нейкая дызайнерка, асабліва не ўзрадаваліся. Тым болей міла шчабятаць не ўмею, на заляцанні рэагую, як воцат на лыжку соды.

Першая змена маіх пільных суседзяў з шасці да шаснаццаці, другая — з шаснаццаці да гадзіны ночы. У першую звычайна дзяжурыць Паша, малады бялявы мент. У другую — Вадзім Максімавіч, суворы мужчына з абліччам, якое немагчыма запомніць. Паша любіць слухаць расійскі гурт «Любэ» і жаваць сушаных кальмараў, мабыць, марачы пры гэтым пра піва, немагчымае «пры выкананні». Вадзім Максімавіч п'е біякефір і разгадвае красворды. Ягоныя тоўстыя пальцы так нязграбна сціскаюць асадку, што згадваецца Кінг-Конг за банкетным сталом. Абодва, змірыўшыся з маёй прысутнасцю, пачалі мной апекавацца. То гарбатай з тэрмасу пачастуюць, то адпусцяць прайсціся на свежым паветры — «прыкрыем, калі што». Але я стараюся не кантактаваць з ахоўнікамі — іх вочы, здаецца, працінаюць мяне, як жамяру, а з вуснаў вось-вось прагучыць пытанне: «А ну, грамадзянка Ірына Корвус, як выглядаюць пагоны палкоўніка? Адказвайце зараз жа!»

А я абліваюся потам ды маўчу, бо зорачкі бессэнсоўна кружацца ў галаве, як у ігральным аўтамаце «аднарукі бандыт», а з іх аніяк не складаецца выйгрышная камбінацыя.

Дарэчы, сапраўднае маё імейка — Вірынея. Простым шляхам з савецкага серыялу, які дужа любіла мая мама. Але толькі блізкія людзі, пасвечаныя ў таямніцу маіх пашпартных дадзеных, звяртаюцца па-серыяльнаму. Тут, у нетрах метрапалітэну, я Ірына Максімаўна Корвус, у дзявоцтве Нарушэвіч.

...Тут пах нагрэтага металу, дыму, мазуту... І ціха. Як не павінна быць. Гукаізаляцыя, бы ў падводнай лодцы. Замест гукаў — вібрацыя... Праз роўныя прамежкі часу яна скаланае памяшканне, быццам я знаходжуся ўнутры істоты, якая пачынае рагатаць альбо кашляць... Мяне заглынулі і пераварваюць.

Рэч у тым, што маё цяперашняе месца працы проста над станцыяй метро. Тут, у закутку службы бяспекі, вылучылі для мяне стол з кампутарам, сабраным з запцацак, як стварэнне Франкенштайна. Уключаецца выспяткам у бок. Я механічна раблю чарговую рэкламную абвестку (курсы па вырошчванню трэцяга вока, супер-распродаж дзіравых шкарпэтак, студыя карэкцыі фігуры з дапамогай іспанскіх ботаў) ці прыдумляю сацыяльны плакат, які будзе заклікаць аплочваць праезд у грамадскім транспарце і трымацца за поручні. Вельмі хачу намаляваць мокрага п'янага янота, які круціцца на поручні, як стрыптызёрка на шасце. Не наважваюся. Напалоханая я, спадарства. Адбілі ахвоту сцябацца. Толькі туга бярэ, калі чую чарговае заданне, якое яшчэ сем гадоў таму паставіла б мяне ў позу берсерка: ды нізавошта! Ганьба! Не дам замазаць сваё імя гэтай ідэалагічнай лухтой!

Але любая поза стамляе, нават на бронзавым пастаменце пад лаўровым вянком. Цяпер я апускаю вочы... Самапавагі ў дзяржаўных установах не прадугледжваецца.

Са свайго закутка я магу выйсці ў велізарны калідор. У падлозе, яна ж столь для тых, хто ўнізе, зашклёныя ячэйкі, падобныя да квадратных сотаў, празрыстыя толькі з майго боку. Не ведаю, што бачыце вы, калі задзіраеце галаву — магчыма, цёмныя застрашлівыя прагалы ў жоўтых «сотах»? Асацыяцыі з сотамі непазбежныя. Бо такі густы мядовы жоўты колер там, унізе... Уся станцыя жоўтая, як мёд. Я гляджу праз квадратныя адтуліны, і пада мной, як у сне, бо шкло каламутна-цьмянае, праплываюць галовы. У капелюшах і вязаных шапачках, зваламі ў сутаргах хімічнай завіўкі, з пакутлівымі лысінамі...

На вялікіх маніторах у суседнім пакоі, дзе сядзіць ахова, цэлы дзень праплываюць вашыя твары. Шэрыя ад недасыпу ўранку, шэрыя ад стомы ўвечары, шэрыя ад заклапочанасці ўдзень... На халеру вы ў нешта там у юнацтве верылі, змагаліся за дыпломы, пасады і ўвагу ўпадабанай, каб хадзіць вось такімі шэрымі, як недапрасаваная бялізна?

Думку, што я памерла і цяпер на тым свеце, у персанальным чыстцы, я ад сябе баязліва-асцярожна адганяю.

Як усё далёка... Вершы ў стылі «Адвеку мы спалі, ды нас разбудзілі». «Айчына — сына», «сумленне — пакаленне», «зоры — прасторы», «зямля — мая», і ўвага, выбух крэатыву — «курганы — груганы». Гэта я так калісь крэатывіла. Нават друкавалася ў часопісе для творчай моладзі, у рубрыцы «Дэбют». На фотцы мой лоб урачыста перавязаны стужкай з беларускім арнаментам. Каб ніхто не сумняваўся, якая аўтарка свядомая.

Быццам бы гэта было іншае жыццё, з якога ўсплываюць толькі эпізоды, як плялёсткі зёлак у размяшанай гарбаце. Вось мы ляцім у самалёце на нейкі там моладзевы семінар. Маладыя аблічча, звонкі смех. Сачыняем гісторыю пра беларускага супергероя. Хто б гэта мог быць? Чалавек-зубр? Чалавек-дзік?

Не, чалавек-трактар!

А яшчэ рамантычней — Белы Трактарыст. Белы, як уваскрослы Гэндальф з «Уладара пярсцёнкаў».

Калі насядаюць ворагі-чужынцы, пакліч — і з пушчы з'явіцца Белы Трактарыст на імклівым трактары «Беларус»... А ў Белага Трактарыста ёсць каханая дзяўчына. Яе трымаюць закладніцай у сутарэнні будынка-саркафагу на галоўнай плошчы, у адмысловым халадзільніку. І завуць яе Але.

Калісьці звалі Алена, а можа Алеся, а можа і Александрына. Ды чым даўжэй прыгажуня ляжыць у сутарэннях будынка-саркафагу, тым болей растае яе імя. Цяпер яна — Але...

Час ад часу Белы Трактарыст у тумане, пад пошум соснаў і шоргат сухога трыснягу выязджае на ўскраек лесу, да балота і тужліва кліча каханую: «Але-е-е!»

А калі яе імя растане да апошняй літары — настане канец усяму, «а-а-а-а-а......», і абрушыцца саркафаг, і Белы Трактарыст пераедзе нас цяжкімі коламі, бо не адратавалі ягоную каханую, забыліся нават, як яе завуць...

Мы тады шмат прыдумвалі... Што адбудзецца ў «Новай Беларусі». Томасы Моры і Кампанелы філфакаўскага разліву. Помню, газетку футурыстычную змайстравалі на Пенціўме — былі такія кампы эпохі Тэтрыса і Doom. Навіны светлай беларускай будучыні.

«Радзівілы вярнуліся на Беларусь і заснавалі пад Менскам завод па выпуску новай маркі аўтамабіляў «Kahanku». Марка заваёўвае рынак, бо ў кіраванні простая, як магнацкі дрыкгант (здаецца — дрыгант), а ў аздабленні абавязковая пазалочаныя дэталі і чорны арол у якасці лагатыпу».

«Аэрапорту ў Смалявічах надалі імя Янкі Купалы».

Якія мы былі шчаслівыя... Тады я яшчэ не задумвалася, што ўсе ўтопіі застаюцца прыгожымі, пакуль якісьці фанатык не пачне іх увасабляць. І будзе ж старацца, каб дакладна увасобіць, а выйдзе роўненька наадварот.

Цяпер самой сабе здаюся падобнай да той «Але». Мяне так даўно ніхто не згадваў, што імя маё растала, выпарылася ў нетры метрапалітэна, збудаванага на балотах, пясках, суглінках і могілках.

Але нават як след абурыцца не магу, бо плаваю ў рэальнасці, як муха ў кісялі. Часам, адышоўшыся, каб не бачыў Паша ці Вадзім Максімавіч, я кладуся на падлогу-соты і гляджу, гляджу ўніз, як пада мной праплываюць людзі, людзі, людзі... Ау, я тут! Я Але...!

Ды той адзіны чалавек, які б мог назваць цалкам маё імя, той, які прыдумаў там, у самалёце, Белага Трактарыста, — знік. Праз шэсць дзён пасля нашага вяселля. Паехаў на неадкладную сустрэчу з дзелавым партнёрам у Люблін. Марыў заснаваць там фірму па насценных роспісах. У яго ж спецыялізацыя была — манументальны жывапіс. Асабліва ўдавалася імітацыя антычных развалінаў. Якраз на густ сучасных нуворышаў. На зваротнай дарозе меркаваў завітаць на рынак, прывезці мне адтуль Пунсовую Кветачку... Дакладней, новы ўнітаз з іспанскага фаянсу для нашай хрушчоўкі-аднапакаёўкі. Выправіўся на ўласнай машыне. «Жыгулях». Адмыслова ў свой час шукаў савецкую марку. Выкупіў у Ждановічах за — сорам сказаць — дзвесце даляраў, у апгрэйд уваліў, мабыць, у дзесяць разоў болей. І распісаў арнаментам калінкавіцкага народнага строю. Ідыёт. Ён жа Віталь Корвус. Мой муж цягам шасці дзён.

Згарэлы «Жыгуль» знайшлі недзе ў гарах, на мяжы са Славакіяй, у раёне Закапанэ...

І толькі не трэба мне вашых версій. Думаеце, хоць штосьці я не чула? Мафіёзныя разборкі (знайшлі мафіёзі з парай соцень даляраў капіталу). Прыбралі канкурэнты (такі з Віталя быў бізнэсмэн, як з тармазной калодкі арфа). Проста марыў, каб раз — і шмат грошай зваліласся). Спецслужбы дасталі маладога апазіцыянера (ну, у пастарунку Віталь пару тыдняў калісь правёў, на мітынгах свяціўся, але калі ў грамадстве ўсё пасля плошчы патроху сціхла, сціх і ён. У палітыку не лез, бухцеў сабе на кухні, як спаконвеку ў інтэлігенцыі вялося). З'ехаў да каханкі (любімая версія маёй мамы). Вывез кантрабанду і жыве на Канарах. Быў прададзены на органы. Страціў памяць і ляжыць у нейкай замежнай клініцы (версія Віталевай цётухны, адзінай радні). Трапіў у рабства, магчыма, сэксуальнае (ха-ха). Іншапланецян і паралельныя сусветы пакінем па-за падазрэннямі.

Такога я магу вам нагаварыць на сто старонак. Лепшага за мяне спецыяліста па закручванні сюжэту ўсё адно не знойдзеце. Не таму, што я Леў Талстой, а таму, што я мадэратар сайту фанфікшэна. Ну, ведаеце, гэта калі школьніцы альбо іх расчараваныя ў жыцці настаўніцы пішуць працягі прыгодаў Гары Потэра і Севэруса Снэйпа, альбо палюбоўнічых на монстраў Дзіна і Сэма Вінчэсцераў з серыяла «Звышнатуральнае», альбо вампіра Эдварда і анемічнай Бэлы, ці Арагорна з Арвен, ці Шэрлака Холмса з Ватсанам, ці Жалезнага Чалавека з Халкам, зялёным і няшчасным... У свой час мяне гэтая дурата проста выратавала — пасля з'яўлення ў маім жыцці згарэлага «Жыгуля»...

Сайт мой не самы вядомы, Фікбуку саступае. «Пад знакам Урабораса»: не сустракалі назву? Але сталых падпісчыкаў тысяч дзесяць маю, а наведнікаў, ясна, у разы больш. Так што, да майго здзіўлення, я яшчэ і трохі грошай пачала зарабляць ад рэкламы.

Маглі раскруціцца і шырэй — але я не публікую ніякіх сквікаў ды кінкаў, то бок, фантазій з вычварэннямі. Высокіх рэйтынгаў таксама не люблю, за парнаграфіяй — не да мяне. А так — у фанфікшэне сумленней, чым на звычайным сайце пачынаючых літаратараў, якія ў геніях, бы ў каросце. Мы прызнаем, што пераймальнікі, усяго толькі гуляем з чужымі тварэннямі... Нам не свецяць месцы ў падручніках і літаратурныя прэміі. Галоўнае, ёсць чым заняць самотныя дні-вечары-ночы.

Урэшце, што такое ўсё наша жыццё, як не фанфік — нязграбныя спробы напісаць свой лёс па ўпадабаным узоры. Раздзел за раздзелам мы выкладаем гэты вечны фанфік у выглядзе запісаў у сацыяльных сетках, фотаздымкаў, рэплік да сяброў і знаёмых. І фанфік гэты такія ж мае адносіны да нашага шэрага рэальнага жыцця, як аповеды маіх аўтараў пра сустрэчу з плячыстым богам Торам на пароэе ўласнай хрушчоўкі.

У маім лёсе, прынамсі, ёсць матэрыял для сюжэту. Класна гучыць: «Прыемна пазнаёміцца, я саламяная ўдава». Жонка прывіда. Толькі і чакаць, калі паўпразрысты «Жыгуль» падлунае да падаконніка ўжо толькі

маёй кватэры на чацвёртым паверсе, і ненатуральна бледны ў святле месяца кіроўца выгукне: «Я прыехаў за табой, жоначка!» А ў адкрытым багажніку блісне, як адшліфаваны вятрамі чэрап, набыты на польскім рынку іспанскі ўнітаз… І саўндтрэк з «Тытаніка» гучыць… А я такая ўся ў белым працягваю рукі…

Ага, зараз… Сем гадоў прамінула. Знаёмыя да вяселля былі ўсяго год. Сутыкнуліся ў студэнцкай мастакоўска-музычнай кампаніі на фестывалі бардаўскай песні. Скакалі ў танцзоне, падпявалі, абдымаліся. Потым усёй кампаніяй чыталі вершы Сыса і Караткевіча чамусьці помніку Максіма Горкага ў дзіцячым парку.

Максім Горкі хмурыўся і змрочна маўчаў, бо з беларускай літаратуры помніў толькі простых хлопцаў Купалу і Коласа, якія пішуць шчыра, але, наколькі згадваецца, прымітыўна.

Марціні, віскі, здаецца, партвейн.

Назаўтра мы з Віталём прачнуліся на мансардзе чужога лецішча ў адным ложку. Пакуль я ўсхліпвала ад разгубленасці і галаўнога болю (вось ужо не думала, што, як у мільёнаў дурнічак, першы сэкс здарыцца ў п’яным тумане і амаль не запомніцца), Віталь клапатліва прынёс гарбаты, місу цёплай вады, аспірын, нечы жоўты махровы халат і цвёрда заявіў, што пабярэмся шлюбам. Нікуды ён такі скарб, як я, не адпусціць. Я выяўляла з сябе гордую крэпасць цэлы год. Але ўрэшце здалася.

А як было не здацца?

Віталь далучыў мяне да такога цікавага свету! Майго жаніха хапала на ўсё, нібыта паставіў сабе за мэту не абмінуць ніводзін беларускі культурніцкі праект. Літаратурныя вечарыны, вандроўкі па гістарычных мясцінах, кватэрнікі, забароненыя спектаклі ў закінутых дамах… Вершы мае на музыку сам клаў, партрэты мае ў шляхецкіх уборах маляваў… Вяселле ў нацыянальных строях, з бубначом і дударом, у аграсядзібе… І грошы ў яго былі, казаў — зарабляе прыватнымі замовамі.

Колькі мне стукнула, калі жаніліся? Дваццаць адзін, другі курс інстытута. Мама ўсе вочы выплакала, запэўніваючы, што гэты доўгавалосы наркаман з Мар’інай Горкі проста паквапіўся на кватэру, што мне пакінула бабуля. Для мамы, галоўнага педагога дзіцячага садка, задачка «мастак плюс доўгія валасы» рашаецца проста: ці алкаголік, ці наркаман. А калі Віталь не піў…

Ды што ўспамінаць…. Багіня памяці Мнемазіна носіць пантофлі са свінцовымі абцасамі. Ступае мякка, на дыбках, а націсне пяткай — і струшчыць усё. Здаецца, вось гэта нізавошта не забудзеш, такое важнае, такое роднае — а насамрэч застаецца толькі ўціснуты ў побыт адбітак, які ўсё больш скажаецца, растае, як малюнак прутком на пяску. Сем гадоў таму я раптам усвядоміла, што практычна нічога пра мужа не ведаю. Дзе вучыўся да таго, як ужо дарослым з’явіўся да мар’інагорскай цётачкі, пашпартысткі па прафесіі, з кім сябраваў у дзяцінстве, нават што з ягонымі бацькамі здарылася. Цётачка-пашпартыстка мяне любіла, як больку на носе, таму ніякіх размоў не завязалася. Нібыта лёс Корвуса пачаўся адразу ў мастакоўска-музычнай тусоўцы, дзе ён узнік, як стыхійны дух.



Што я помню?

Уважлівыя вочы, цёмна-зялёныя, з украпінамі брунатнага.

Доўгія рудаватыя валасы, а калі я заплятала яму іх у тачэнькія коскі, там-сям на скуры галавы бачыла невялікія белыя шнары («Любіў у дзяцінстве пабіцца»).

Шырокая, белазубая ўсмешка, а вочы не ўсміхаюцца.

Тонкія моцныя пальцы перабіраюць струны: «Калі раптам адчуеш камунальныя пахі, і жыццё цябе возьме ў пятлю…» Голас нізкаваты, глыбокі…

«Гэта сядзіба Наркевічаў-Ёдкаў, Вірынейка. Ведаеш, што Наркевіча-Ёдку называлі лоўчым маланак — за ягоныя эксперыменты з электрычнасцю, падобныя да тых, што рабіў Тэсла?»

«Якія ў цябе халодныя рукі, малая… Хадзі бліжэй, сагрэю…»

Я не Пенелопа. У мяне пасля столькі было каханкаў…

Перабольшваю. Усяго два. Апошні, ён жа другі, цяпер чакае ў маёй кватэры. Згатаваў вячэру, хвалюецца, ці дазволю застацца нанач. Але на яго можаце не зважаць. Мацейка з тых, каго называюць «запасны варыянт». Адданы, бяскрыўдны, сябар дзяцінства, выганяй — вернецца, лекі ад самоты.

Не магу нават сказаць, што сем гадоў таму больш мяне напаўняла — гора ці крыўда на няўдалага сужэнца. Мусіць, крыўды было больш — як ён мог так вось мяне кінуць? Што за выдумкі з бізнэсам? Ніводнай рэчы Віталевай я не захавала, акрамя прозвішча. Ну не магла развітацца назаўсёды з крумкачом, сакральнай птушкай маёй. Праз год і тры месяцы пасля нашага вяселля ўсё, што ён паспеў перавезці да мяне, перадала назад ягонай цётцы ў слаўны горад Мар’іна Горка. Да апошняга пэндзліка і фоткі. Разам з падораным на вяселле посудам і наборам пасцельнай бялізны з лебедзямі. І кола сяброў змяніла. І кола зацікаўленасцяў. І больш не спрабую замовіць у кавярні «філіжанку кавы», каб пацвяліць афіцыянтку, а толькі стандартную «чашечку кофе, пожалуйста».

Дарэчы, пра каву… Хутка абед у белай пенапластавай каробцы прынясе кабета-дастаўшчыца, цётачка з бляклым строгім тварам і сціснутымі вуснамі. Бачылі карціну «Амерыканская готыка»? Там фермер — лысаваты мужык у круглых акулярах, пінжаку і белай кашулі, учэпіста трымае вілы, побач кабета ў сукенцы з белым каўняром і фартуху, з пакрыўджаным выцягнутым аблічам. Нічога не адбываецца — але глядзець на гэтыя напружаныя твары, сустракацца з пранізлівым, маньячным позіркам фермера з віламі аж млосна. Стыль называецца — «цяслярская готыка». У пазамінулым стагоддзі жыхары амерыканскай правінцыі імкнуліся надаць сваім драўляным дамам абрысы віктарыянскай неаготыкі. Майстрачылі на гарышчах вузкія, вострыя наверсе акенцы. Мы, маўляў, не горш, чым фанабэрыстыя ангельцы з іхнімі Таўэрамі і сярэднявечнымі абацтвамі. Атрымлівалася гэткае дольчэ і габана на Ракаўскім кірмашы.

Цётачка «беларуская готыка» размаўляе толькі пра ежу: «Значыць, назаўтра на абед боршч, катлету па-кіеўску і на гарнір вараны рыс».

Белая каробка на маім стале выпраменьвае агідны пах смажанай рыбы. Хек у цесце. Я прабіваю мёртвую марскую істоту пластыкавым відэльцам, нібы караю за сталоўскі пах, і ўтаропліваюся ў манітор, ігнаруючы паштовую скрыню, якая забітая пасланнямі маіх аўтараў. Гэта з паралельнага свету, гэта дома разбяру… Прабягаю стужку навінаў. Самыя папулярныя — пра ўзаемаадносіны казла Цімура і тыгра Амура. Вы, спадзяюся, у тэме? Казла кінулі тубыльцу Прыморскага парка-сафары ў якасці чарговага абеду. Аднак рагач выявіўся баявітым, даў тыгру адлуп… У выніку паласаты Амур перастаў успрымаць таго як ежу і знайшоў у ім роднасную душу. У казле. «Я плакаль».

Узаемаадносіны траваежнага і драпежніка скарылі сэрцы і запаланілі розумы. Здаецца, недурныя людзі спрачаліся, хто каго з’есць, ці займаюцца яны сэксам. Вядомы дрэсіроўшчык Запашны змрочна абвяшчаў, што ў тыгра прачнуцца інстынкты, козлік мэкнуць не паспее. Другія патрабавалі ўсіх выпусціць на волю. Казла, тыгра, львоў, арлоў, курапатак і тых, хто ў нетрах акіяну…

«Вось ужо два тыдні грамадскасць назірае за імклівым развіццём адносінаў тыгра Амура і казла Цімура».

«Амур зжарэ Цімура!»

«Чаму Амур не з’еў Цімура? Пяць падстаў»

«Казёл Цімур і тыгр Амур не могуць есці адзін без аднаго»

**Багіня памяці Мнемазіна носіць пантофлі са свінцовымі абцасамі. Ступае мякка, на дыбках, а націсне пяткай — і струшчыць усё. Здаецца, вось гэта нізавошта не забудзеш, такое важнае, такое роднае — а насамрэч застаецца толькі ўціснуты ў побыт адбітак**

«У казла Цімура і тыгра Амура з’явіліся старонкі ў кітайскіх сацыяльных сетках»

«Тыгр Амур і казёл Цімур спяць разам»

«Тыгра Амура і казла Цімура звінавацілі ў прапагандзе гомасэксуалізма»

«Казёл Цімур учыніў паляванне на тыгра Амура»

«Амур пакусаў нахабнага Цімура».

«Кранальная сустрэча казла Цімура і тыгра Амура»

«Цімур дараваў Амуру прачуханку, з-за якой патрапіў у ветблок».

«Прыморскі сафары-парк адчыніў спецыялізаваную інтэрнэт-краму па продажы сувеніраў, прысвечаных цёплым адносінам тыгра Амура з казлом Цімурам».

«Амур ды Цімур, апошнія навіны: нявеста казла»

Любы ідэолаг ведае, што калі ў дзяржаве людзі даведзеныя да адчаю, жывуць у страху сказаць штось не тое і згубіць апошняе, яны ахвотна ўцягваюцца ў масавыя гульні. Радуюцца відовішчам і перажываюць за выдуманых герояў, замест таго, каб спрабаваць выправіць сваё жыццё.

Людзі, вайна ідзе! Бязглуздая, несправядлівая, крывавая… Вы апраўдваеце яе ўра-патрыятычнымі лозунгамі. Вы глядзіце ў інтэрнеце відэаролікі пра чужыя смерці, заядаючы чыпсамі. Вам не хочацца думаць, што вы ў чымсьці вінаватыя. Вам хочацца зоны камфорту. І вуаля — вашу ўвагу паглынае раман між тыграм і казлом.

Цікава, ці пішуць фанфікі пра Амура і Цімура? Мае аўтары маглі б раскруціць сюжэт. У логвішчы Ураборaса ёсць такі Fairy, ён мог бы пасяліць у цела Амура дух бога Тора, а ў Цімура — дух валькірыі… Але не, Fairy любіць катэгорыю слэш, таму ў казла ўсяліўся б Локі. А рамантычная Fljor Delakur, студэнтка-біёлаг з Баранавіч, якая працуе ў рэйтынгу джэн (без эротыкі), жанры «раманс» і катэгорыі «гет» (традыцыйная арыентацыя герояў), сачыніла б, што тыгр і казёл — пярэваратні. Разлучаныя злой вядзьмаркай закаханыя па начах вяртаюцца ў свае аблічы. Толькі ў яе застаюцца рогі, а ў яго — паласаты хвост. А можа, наадварот, мужык у яе казёл. А аматар сцёбу і сцімпанка Grjaznyj Ubljudok, пра якога я не ведаю нічога, акрамя ніка, прыдумаў бы, што казёл і тыгр — мутанты, вывучаюць людства на прадмет заваявання і самі пішуць пра сябе скандальныя навіны ў сацыяльных сетках.

Прыкрываю вочы — перад павекамі разыходзяцца жоўтыя колы, адлюстраванне беднага майго сонца на паверхні лужыны. Побач агідна запіпікаў кампутар, быццам сігналізацыя аўто. Кідаю погляд направа, дзе за маніторамі дзяжурыць Паша. «Рубят лес мужики», — ціха напявае брутальны карузлік з Пашынага кампа, не зважаючы на віск сістэмы. Малады бялявы мент вяла калупае пластыкавым відэльцам катлету. Ейны пах з’ядноўваецца з пахам майго хека ў смяротна-смуродны дуэт. А на маніторах рухаюцца чорна-белыя людзі.

Кожны экран падзелены на шэсць квадрацікаў, па колькасці камер. Здаецца, над пасажырамі станцыі праводзяць пачварны эксперымент, рассадзіўшы па шкляных скрынях.

Адкідваюся ў крэсле, каб лепей бачыць: відовішча заварожвае… Потым зноў адварочваюся да свайго манітора… Пакуль па каменнай падлозе штосьці не загрукатала. Аказалася, Паша скінуў бляшанку «Фанты»… Мой погляд зноў чапляецца за карцінкі знізу… Якраз у гэты момант адзін з мінакоў, што пакідае станцыю, падымае галаву і чамусьці глядзіць уверх, проста ў камеру… Нядоўга, на адно імгненне, ягоныя вочы ўзіраюцца ў мяне… Палец нервова трэ лоб, наўскос, нібыта намацвае шнар, як у Гары Потэра…

Гэтага імгнення хапае, каб і відэлец выпаў з маёй рукі, і ад сутаргавага руху на падлогу, пад якой ездзяць цягнікі і ходзяць шэратварыя зомбі, пляснуўся хек у цесце разам з двума лыжкамі парашковага бульбянога пюрэ.

Я глядзела, як на правым маніторы ў скрайнім верхнім квадраціку аддаляецца постаць у чорнай скуранай куртцы, з наматаным на шыю доўгім піжонскім шалікам, і спрабавала ўдыхнуць прапахлае мазутам паветра, бо яно чамусьці не ўдыхалася.

Бо мужчына ў чорнай куртцы з шалікам, з моднай хіпстэрскай бародкай і паголенай галавой быў Віталь Корвус.

Мой муж.

Якога, між іншым, прызналі мёртвым.

Па рэйках метрапалітэну прагрукатаў Белы Трактар.

**Цалкам раман чытайце ў бліжэйшых нумарах часопіса «Дзеяслоў»**

# Зоны



Васіль ДЭБІШ

***

*Збаўляе ход, каб азірнуцца, старасць,*
*Ды дзе ён, дзе пачынаў важкіх след?*
*Няспраўджанымі застаюцца мары,*
*І думкі жухнуць, нібы яблынь квет.*

*Няма красы былой і той адвагі,*
*Што ўсё нутро запальвала агнём.*
*Нас робіць баязліўцамі развага,*
*І веліч ціха ўкленчвае суздром.*

*Дзе той парыў і дзе рашучасць тая?*
*Падзеліся куды і моц, і спрыт?..*
*Падобныя, як кроплі, дні сплываюць*
*Змялелай, ціхай рэчкаю ў нябыт.*

## Вароны

*На снезе белым — чорныя вароны.*
*Галгочуць. З учарашняга яшчэ.*
*Глядзяць на свет, нібыта шлюць праклёны*
*Спусцелымі палонкамі вачэй.*

*Пранізаны завеямі ліхімі,*
*Іх крылы б'юцца ў такт, як ветракі.*
*І добра бачна, скамянеў пад імі*
*Глыбокі снег. Ім хлеб даю з рукі.*

*Дык не бяруць. Сядзяць у брудзе,*
*Глядзяць з галін, сцяжынак і слупоў, —*
*Нібы смяюцца: «Прыйдзе час, і будзем*
*Мы піць нябёсы з вашых чарапоў.*

## Сусед

*Сусед мой адышоў у іншасвет.*
*Ідзе дзяльба і бойка за кватэру.*
*Мой добры, памяркоўны мой сусед*
*Сумленна жыў і цвёрда ў святасць верыў*
*Усіх, хто быў вакол яго, людзей,*
*Законаў, сваіх родных і каханай,*
*І словам Прэзідэнта: кожны дзень*
*Як трэба жыць, той нас вучыў з экрана.*
*Быў незаўважны, ціхі і на лёс*
*Нялёгкі свой не скардзіўся ніколі,*
*Хоць сіратой, па інтэрнатах, рос.*
*Вучылі так яго: спачатку ў школе*
*Чытаць, але не думаць. Па начах*
*Таемна марыў ён пра крылы. Білі,*
*У галаву яму ўганялі страх,*
*Самаахвярным быць яго вучылі.*
*Не будзеш слухаць — пойдзеш у турму!*
*Слугуй аддана, верна, па-сабачы…*
*Ну, а яму, хацелася яму*
*Быць чалавекам і хоць нешта значыць…*
*З гадамі — абламалася крыло*
*І не цягнула больш у паднябессе.*
*Жаданне лёсу ўпарціцца — прайшло.*
*Пакорлівай, бурлацкай стала песня.*
*Хоць многа перанёс і многа знаў,*
*Вакол сябе не бачыў брудных плямаў.*
*Прыбіты страхам, згодліва маўчаў.*
*Што жыў на ланцугу — так і не ўцяміў…*

***

***Лявону Валасюку***

*Цвік паржавелы. Рамачка. Пейзаж.*
*Буг. Востраў. Лодка на адной назе*
*Люструецца ў вадзе, якая нас*
*На мыс высокіх дум перавязе.*

*Віры бурляць. Сыпучы схіл наўсцяж.*
*Вунь насып асыпаецца, зірні.*
*Нібы пясчынкі, паглынае нас*
*Зямля… І вырастаюць камяні.*

## Саранча

*Адкуль яна, з якіх палёў ці нор,*
*Тупая, ненажэрная арава?*




*Укрыла чорнай хмараю мой двор*
*І трушчыць сакаўныя кветкі, травы.*

*Паела ўсё. І плодзіцца штодзень*
*Ды чыніць свае гульні і забавы.*
*Узяць для ненасытнай корму дзе,*
*Калі яна за спінай, злева, справа?*

*Яна тут — і парадак, і закон.*
*Баюся: з дому выганіць самога,*
*Бо армія, бо цэлы легіён —*
*Двуногай.*

## Зоны

*Прыснілася: чырвоныя пагоны,*
*З вінтоўкаю на вежы вартавы,*
*І трупамі запоўнены равы,*
*І смерць — адно тут выйсце*
*з гэтай зоны…*

*Навісла хмара чорная над краем,*
*Для Беларусі — зноў не лепшы час.*
*Зноў з мовы здзек. У зоны заганяюць*
*Рублёвыя, чарнобыльскія нас.*

*Мне слова «зона» слых балюча рэжа.*
*Хачу быць вольным я — абрыд палон.*
*Хачу свой край пабачыць незалежным:*
*Без халуёў, без дурняў і без зон.*

## Маналог Міколы Купрэева

*Не быў я белым пацуком,*
*Прывыклым да пакоры.*
*Не рупіўся пра ўласны дом, —*
*Ды неба меў і зоры.*

*Галодным быў, не баляваў.*
*Еў, што расло на ніве,*
*Ды рук ніколі не лізаў*
*Гаспадарам «зычлівым».*

*Парою сіверна было,*
*Даймаў скразняк бясконцы.*
*З нары — праз дрот калючы, шкло —*
*Я выпаўзаў да сонца.*

*Мяне травілі — не маліў*
*Даць літасці ніколі.*
*І больш за ўсё ў жыцці цаніў*
*Я скарб адзіны — волю.*

## Паляванне

*Другія суткі запар*
*падлетак сядзіць*
*за камп'ютарам,*
*старанна націскае*
*на гашэтку,*
*перамагае,*
*забірае ў палон.*
*Шчаслівa пасміхаецца,*
*не здагадваецца,*
*што сам ён*
*даўно паланёны.*

***

*У старажытным Бярэсці,*
*дзе стары горад,*
*шляхі крыжуюцца,*

*злучаючы Сёння і Вечнасць.*

*Дзе нават я*
*драбнейшы*
*за найменшую пылінку.*

## На кухні

*На кухні мы з суседам. Цыгарэт*
*Дым едкі і смярдзючы рэжа вочы.*
*«Што за жыццё, — мне жаліцца сусед, —*
*Цягну ярмо ад раніцы да ночы.*

*Даўно абрыдла мне так, браце, жыць…*
*Але маўчу…» Крычу я ў цемру: «Годзе!..» —*
*«Цішэй, цішэй, — сусед збялеў, дрыжыць, —*
*Цень за вакном мільгнуў, там нехта ходзіць».*

*Збянтэжыўся і ў дзверы — шусь! Агонь*
*Пагас у печы, скруха сэрца точыць…*
*Страх куляй працінае зрэнкі, скронь —*
*Так адпускаць мінулае не хоча.*

## Народ

*Аддаляешся ад святыняў*
*у цемру,*
*што асвечана*
*лакам лімузінаў.*
*Прымерваеш маску*
*чужынцаў,*
*якая становіцца*
*тваім тварам.*
*Марыш стаць*
*багатым і незалежным.*
*Ды далоні твае*
*выракліся*
*працы,*
*а вусны —*
*мовы.*

## Плакала зіма

*Халодным лютаўскім днём*
*крочыў я гарадскім паркам.*
*На цэнтральнай сцэне гучала музыка,*
*а навакол*
*аплаквала зіма*
*нечы зыход.*
*Чорнымі, як сажа, губамі,*
*дрэвы шапталі пра*
*быццё і небыццё…*
*А побач п'яны жабрак*
*падлічваў свой*
*прыбытак —*
*і мары бедака лопаліся,*
*як бурбалкі дажджу*
*на лютаўскім асфальце,*
*удар за ўдарам.*
*І была зіма*
*такой самотнай і няўтульнай,*
*як і наша жыццё.*

***

*Вечар адліжны, глухі, безаблічны.*
*Вецер халодны за спінай скавыча.*
*І на вярсту ні прытулку, ні схоўні.*
*Блякне на небе аскепачак поўні.*
*Сцелецца прымраку цень пакрыёма.*
*Зморaны, крочу да роднага дома.*
*Золь пракаветная шчыміць мне вочы, —*
*Ці я дарогу знайду, ці дакрочу?*

***

*Пускаю цыгарэтны дым.*
*Віно п'ю, песні распяваю.*
*Гуляю ў карты. І бяды*
*Вялікае не ўсведамляю.*

*Дні не лічу. Лятуць яны,*
*Хаваюцца за небакраем.*
*Сваёй не бачу я віны*
*І што цнатлівак не мінаю.*

*Даўгі напоўніцу плачу,*
*І свой жую кавалак хлеба.*
*Іду туды — куды хачу…*
*А што яшчэ для шчасця трэба?*

## Душа

*За поўнач. А душа не спіць.*
*Вядзе з нябёсамі гамонку.*
*Імгненне — і яна ляціць,*
*Парвала цела абалонку.*

*Крычу: «Вярніся!» Не ўтрымаць.*
*Яе палоніць свет дзівосны.*
*Яна мяне не хоча знаць.*
*Ей краты цела невыносны.*

*Яшчэ ёй невядомы страх, —*
*Страх вышыні і адзіноты.*
*Усё магутней крылля ўзмах*
*І ўсё мацней жаданне лёту.*

***

*Стоячы на каленях,*
*ці ўбачыш*
*неба!?..*

***22 ліпеня — 55 гадоў з дня нараджэння сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіля Іосіфавіча ДЭБІША. Віншуем нашага аўтара і зычым яму доўгага лета ды новых паэтычных узлётаў!***

# Памятаць сваё

**Чарговы, 88-ы, нумар часопіса «Дзеяслоў» адкрываецца нізкай традыцыйна-класічных, натомленых зямной метафорыкай, вершаў гомельскага паэта Віктара Яраца. Па шчымлівасці пачуццяў і экзістэнцыяльнасці думак можна здагадвацца, што яны ў цэлым прысвечаны памяці блізкага яму чалавека — жонкі Людмілы.**

Здаецца, яшчэ ўчора наша пакаленне з цікаўнасцю зазірала ва ўсе шчыліны *гэтага* свету, а ўжо сёння самотна-палахліва ўглядваецца ў незведныя нябесна-бяздонныя праёмы *таго*... На жаль, такі чалавечы вырак. Але якія асацыяцыі!

*А гэтай ноччу летняю пад раніцу*
*праз дождж у сон прыйшла*
*і ў дзверы звоніць. Адчыніў — стаіць і сумкі*
*цяжкія ў руках трымае — з таго свету...*

Не магу не прывесці і наступны верш, які пакідае глыбокае ўражанне:

*На даўні боль кладзецца свежы боль –*
*зусім не так, як снег на снег кладзецца,*
*як цвет — на цвет, што сыпле сад на дол,*
*як ліст — на ліст, сарваны ветрам з вецця.*
*І ўжо адной шчымлівею струной*
*у сэрцы, у крыві гучыць бяссонна*
*той міг, што вырас гонкаю сасной,*
*і той, што парасткам прабіўся сёння.*

У **Віктара Казько** ўсё той жа густы замес цяжка чытальнай прозы, але — гэтым разам — прыцягальны і заварожваючы таямніцай да канца неўсвядомленага свайго ўласнага і чалавечага лёсу ўвогуле... Дарэшты няясны, цёмна-сурочны і смяротна-завабны, — як для мяне, адзін з найбольш глыбокіх твораў сучаснай нацыянальнай літаратуры. Глыбіннаўдумна апісана Прырода Палесся і яго балотна-лясного насельніка — палешука... Чалавек апынаецца ў сітуацыі экзістэнцыяльных вычуванняў, у стане панічнай страты сваёй істоты праз страту родавай крэўнасці, што сышла не толькі ў зямны нябыт, але й цяпер, проста на вачах, сыходзіць у нябыт людской памяці... Га́лас канаючага ў царстве мёртвых... Магчыма, у пэўным сэнсе, гэта і ёсць спроба стварыць некалі змысленую Алесем Адамовічам ***звышлітаратуру?!*** Напісаць своеасаблівую *аўтабіяграфію* не самога чалавека, а — ужо адасобленага ад яго — чалавечага духу... Герой адпраўляецца ў мясціны свайго дзяцінства, каб наведаць бацькаўшчыну і магілы сваіх родных, аднак не знаходзіць і знаку ад іх жыцця — ні хат, ні магіл... Усё растварылася ў крыві, сышло крывёю, таму крывёю і пішацца-згадваецца... Балюча неймаверна... Вось некаторыя запамінальныя вытрымкі:

*«Жывы чалавек ва ўсім павінен ведаць меру і мяжу. Жывое — жывым, адмерлае — памерлым. Але ж гэта не пра мяне, як і не пра тых, хто па-сапраўднаму жывы. А я яшчэ жывы. Мне баляць мае нябожчыкі»;*

*«Гэта было зноў паўтарэнне, па загадзе ўжо нябожчыка: мы ехалі па праеханаму намі, і зусім нядаўна. Па той жа дарозе, шашы і прасёлках. Мільгалі тым жа адрынутыя Богам, чалавекам і пагостамі хаты, апусцелыя вёскі, над якімі ні бусла, ні ластаўкі, і нават камар не пазвоньвае, не прагне чалавечай крыві, бо яе тут і ў заводу не было. Жалоба і скруха сустракалі нас, жалоба і скруха праводзілі. <...> З кожнага крыжа і з-пад крыжа, з кожнага вянка і кветкі жалобна, хлусліва, Юдава ўскладзенай вамі на іх памін, на вас глядзяць, грэбліва сочаць за вамі вочы нябожчыкаў. Ніхто з іх нічога не забудзе, і ніколі ніводнага з вас не забудзе. Мёртвым не ведаць даравання. Яны не з тых, не з падкарытнікаў, палатнікаў, што засвоілі толькі адно: «адабрамс». І не з бязмоўна нямых, памяркоўных. Тут ляжаць вечнікі. Адзіна назаўжды праведныя і праўдзівыя ўжо. Наглядальнікі і захавальнікі свету, выкрывальнікі Каінаў, Юдаў, Хамаў, пярэваратняў».*

І ўвесь гэты духоўна-эпахальны тэкст называецца «Нікуды», без пазнакі жанру...

Калі вершы В. Яраца вызначае іх змест, то вершы **Валярыны Куставай** — іх форма.

Шлях яе паэзіі — той, які «пішуць нагамі». Нешта істотнае ў гэтым наўпроставым тропе ёсць, і, на мой погляд, — гэта рух цела і зрух душы... Там (у вершах В. Яраца) жыццё згасае, тут (у вершах В. Куставай) яно ўспалымняецца. Але — раптам — і такое, безабаронна-лірычнае:

*Ён,*
*вялікі мужчына,*
*як кацяня,*
*сядзеў на падлозе,*
*спакваля*
*яго валасы*
*гладзіла*
*я.*

Урывак з рамана Уладзіслава Ахроменкі «Выкрадальнік гукаў» нечым аддалена выклікае асацыяцыі з «Парфумерам» Патрыка Зюскінда. Дарэчы, стыль і метафорыка тэксту даволі ясныя і чытэльныя, месцамі нават вельмі паэтычныя:

*«Дзень — самы недарэчны час для крадзяжу гукаў. Тупыя тупаты натоўпу, пагрозлівае гырчэнне рухавікоў, бязладнае блямканне мабільнікаў і мярзотнае рыпенне дротаў спаборнічаюць між сабой у іерархіі, бы альфа-самцы перад самкамі напярэдадні злучкі. У дзённым горадзе немагчыма пачуць, як з крыльцаў мятліка абсыпаецца пылок ці як у келіху грае маладое віно. Паляваць на гукі можна адно ўначы».*

У **Кацярыны Сянкевіч** вершы нараджаюцца ад эмацыянальных адчуванняў акаляючага яе свету і занатоўваюцца на мастацкім эцюдніку прыглушанымі фарбамі ўласнага жыцця. Іх нельга чытаць спехам і запар. На некаторых трэба проста супыніцца, каб паспрабаваць вылавіць іх сэнс.

*Я пішу табе так, як адчуваю*
*электроннай энергіяй экалагічна чыстай*
*Я дасылаю тонкасць крамянёвымі*
*дарожкамі*
*што праводзяць словы думак*
*Калі я размаўляю*
*цела прыліпае да зместу*
*яно блакуе пераход*
*паміж тым і гэтым светам*

Друкуецца ў новым-чарговым «Дзеяслове» і частка рамана «Міленіум» **Леаніда Левановіча.** Гэта такі наварысты, смачна-густы і бадзёры (не зважаючы на ўзрост) расповед пра беларускае (натуральна-прыроднае) жыццё наводдаль ад яго ўрбаністычнага эпіцэнтра. Тэкст не надта каб (псіхалагічна ці філасофічна) заглыблены; ён сюжэтна просты, цёплы (падчас юрлівы) і душэўны, адным словам, чалавечны, напісаны жывой і добрай моваю, — чытво, якое напраўду хочацца смакаваць. Крый Божа, аўтару крыўдаваць на такія маё вольнасці ў параўнаннях, бо яны шчырыя і з любоўю сказаныя. Хоць усё ж асцярожна заўважу, што, сяды-тады, пісьменнік як бы забываецца на мастацкую прозу і занурваецца ў блізкую да аўтабіяграфічнай дзённікавую мемуарыстыку... Зрэшты, магчыма, і гэта будзе некаму цікава.

**Мікіта Найдзёнаў** — паэт-хіпстэр, ён піша сучаснай маладзёвай лексікай і піша пра тое, што «шчэміць» яго цяпер і зараз, асабліва не ўдаючыся ў «былое і думы»... Ён жыве пахамі, фарбамі і адчуваннямі свежых і нявыгараных дзей і ўчынкаў. Назва нізкі — «Культ акалічнасці» — адпавядае напісанаму. Таму на супрацьходзе, як панацэя па нечым жывым і душэўна-цёплым, чытаюцца, як бы выпадкова сюды патрапіўшыя, наступныя паэтычныя радкі:

*Гэтак балела злева.*
*Думаў, ад настальгіі.*
*Выклікаў хуткую, усё ж небяспечна.*
*Кажуць, міжрэбравая неўралгія.*
*З сэрцам нармальна.*
*Я ж бессардэчны.*

«Рэфлексію хутарской настальгіі» друкуе **Анатоль Бутэвіч.** Чытанка для школьнікаў сярэдняга ўзросту, напісаная ад імя вясковага падлетка. Пра наша адвечна-балючае, пра нацыянальнае самавынішчэнне, пры запозненай жальбе па крэўным і страчаным.

**Крысціна Бандурына** паспрабавала напісаць паэтычную аўтабіяграфію на партытуры біблійнай мудрасці. Тэкст расцягнуты і напнуты, то як скрыпічная струна, то як цеціва лука, — гук і палёт ве́ршацца ў вечнасці... Так, на маю думку, павінна было б быць у ідэале, але, як кажуць на БТ, «як ёсць, так ёсць».

*І маёй Песні Песняў*
*калі-небудзь настане канец.*
*Замкнуцца ўнутры*
*ўсе чатыры бакі сусвету.*
*Аднойчы ў снежні*
*пад самы фінал*
*зорны пыл жоўтых начэй*
*паляціць на зямлю,*
*каб выкласці на асфальце*
*і выпадковых ваўняных пальчатках*
*тваё імя*
*і растаяць.*

Аповед **Веры Лойка** «Дом для шчасця» — пра спрадвечны пожад хатня-дамашняга беларускага шчасця, напісаны няспешна-заборлівым традыцыйна-рэалістычным стылем, разважлівым і аглядна-ўдумлівым, як само наша жыццё...

Нізка вершаў вядомага ўкраінскага лірычнага класіка — сына француза і мадзьяркі — **Валадзіміра Сасюры** падаецца ў годных перакладах **Васіля Жуковіча,** ён жа напісаў і яркую кароткую прадмову пра творчы і жыццёвы лёс шырокавядомага паэта. Вось дзве страфы з аднаго з рэзанансных вершаў у перакладзе на беларускую мову:

*Любіце Ўкраіну, як сонца святло,*
*Як вецер, і травы, і воды...*
*Любіце у шчасці ўсім злыдням назло,*
*Любіце ў часіну нягоды.*
.....................................
*Як песню, якую душою пяюць,*
*Як неба, што ззяе зарою,*
*Ўсім сэрцам любіце Ўкраіну сваю —*
*І вечныя будзем мы з ёю!*

Цяжка паверыць, што артыкул «Традыцыі Максіма Багдановіча ў творчасці Міхася Стральцова» напісала навучэнка ліцэя БДУ **Марына Яромка,** бо тут ёсць не толькі выкладзены досвед прачытанага і пачутага, але і цікавыя ўласныя развагі пра паэзію і эстэтычна-мастацкія накірункі двух адметных класікаў розных літаратурных эпох. Словам, літаратуразнаўчы дэбют варты ўвагі і ўхвалы.

А выкладчыца Гомельскага ўніверсітэта **Святлана Цыбакова** разважае пра сюжэт «аблуднага сына» ў паэтычнай творчасці яшчэ аднаго нашага класіка Анатоля Сыса. У яе довадах і высновах ёсць свая метафарычная праўда.

Кандыдат філалагічных навук **Вадзім Корань** выступае з літаратуразнаўчым артыкулам наўслед юбілейным угодкам вядомага «выклятага» паэта і празаіка Міколы Купрэева. Тэкст паважлівы, удумлівы і, што важна, сціпла-чытэльны.

Вядомы паэт і «кнігазборавец» **Кастусь Цвірка** працягвае друкаваць нататкі з новай кніжкі «Човен майго часу» пра вядомых сваіх сяброў і калег па творчасці (А. Вярцінская, А. Куляшова, М. Сяднёва).

Своеасаблівы гімн зацікаўленага вандроўніка тым краінам, дзе ён пабываў, — іх гісторыі, культуры, прыродзе, народу, — у мастацкіх нарысах польскага літаратара **Рышарда Капусцінскага** «Кіргіз злазіць з каня» (у перакладзе **Яўгена Салейчука**). Гэтым разам — пра Грузію, Арменію, Азербайджан.

Вельмі істотная і важкая ў гэтым нумары мемуарная частка публікацый. Скажам, фалькларыст і этнограф, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986 г.) Лія Салавей з вышыні свайго ўбеленага ўзросту аглядваецца на пройдзены шлях і, найперш, у тыя вытокі, што пачыналіся з малой радзімы, Мядзельшчыны, ад сярэдзіны 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Вельмі насычанае жывое, гаваркое, шчымліва-помнае хутарское дзіцячае жыццё запісанае гэткай жа народнай бацькоўскай, несапсаванай савецкім часам, мовай. Успаміны называюцца «Гавэнды майго краю». І сама ж на зачыне тлумачыць тое так: *«Гэта — вусное апавяданне, жанр вуснай народнай славеснасці, інакш, гутарка, часам — плётка. Гавэнды, беручы агулам, гэта і сюжэтныя апавяданні, і ўспаміны, і навіны, і тэарэтычныя разважанні, маралізатарскія прыпавесці, і жартоўныя выказванні, — усё, што людзі пры зручным выпадку апавядаюць адзін аднаму, нязмушана гавэндзяць. У літаратуры гэты жанр замацаваны творчасцю Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча)».*

А вось паэт і празаік **Уладзімір Мароз** (ураджэнец Косава) піша пра адзенне свайго часу (ад дзяцінства да цяперашніх дзён). Вельмі неабходная рэч у кантэксце нашай нацыянальнай культуры, якая паступова нівелюецца і ўсё больш робіцца ўніверсальнай. Чытаючы, успаміналася і сваё, ношанае, дзіравае, латанае, прыстойнае і нават фірмовае... Дзякуй аўтару за шчырае пісьмо і *распранутасць* натуры.

У перакладзе **Уладзіміра Васілевіча** друкуецца працяг манаграфіі **Канстанціна Тышкевіча** «Вілія і яе берагі». Чытво ўжо апрабаванае і займальнае для тых, хто не аглух і не аслеп да айчыннай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі і археалогіі...

Педагог, краязнаўца **Уладзімір Лайкоў** з Мётчы, што пад Барысавам, распавядае пра знанага паэта Рыгора Барадуліна (пра таварышоўства, сустрэчы, ліставанне, узаемаадносіны і сваё стаўленне да яго творчасці).

Доктар гістарычных навук **Эмануіл Іофе** піша пра вядомага навукоўца Мітрафана Доўнар-Запольскага ў звязку з яго 150-гадовым юбілеем. Артыкул асветнага плану, карысны для ўсведамлення беларускай нацыянальнай спадчыны.

Звяртае на сябе ўвагу і чыста крытычны раздзел часопіса. **Анатоль Трафімчык** рэцэнзуе кніжку Сцяпана Лаўшука «Праз церні да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» (Мінск, «Беларуская навука», 2016). **Наталля Якавенка** разважае над кніжкай Сяргея Ваганава «Мосцік над вечнасцю» (Смаленск: Інбелкульт, «Кнігарня пісьменніка», 2016). А **Леанід Галубовіч** спрабуе ўвесці ў сучасны літаратурны кантэкст арыгінальны зборнік вершаў паэта Андрэя Сцепанюка «Распісаны квадрат» (Бельск-Падляшскі, 2016).

Наастатку — рубрыка «Дзеяпіс» з кароткімі анатацыямі новых кніг.

Што ж, лета *выдаецца* ветраным і макраватым. Не нагрэемся, дык хоць начытаемся.

**ЛеГал**

# «Бывай, Агурковы



Хрысцінэ НЕСТЛІНГЕР

## Прадмова

Мой дзядуля сказаў, што хто-небудзь з нас ну проста абавязаны запісаць гэтую гісторыю.

Марціна адказала, што яна гэта зробіць. Але ўсё, што яна дагэтуль зрабіла, гэта тое, што купіла стос ружовай паперы і зялёную стужку для пішучай машынкі.

Марціна кажа, што не пачынала пісаць, бо ёй вельмі цяжка даецца падзел гісторыі на часткі. «Ад правільнага падзелу залежыць уся кніга», — сказаў ёй настаўнік нямецкай мовы.

А мне пляваць на гэтыя падзелы! У мяне нага цяпер у гіпсе, і я не магу пайсці купацца, таму і пішу гэтую гісторыю.

## Частка Першая, альбо №1 паводле падзелу настаўніка нямецкай мовы

Я распавяду, хто мы такія. Пра раптоўны грукат на кухні. Галоўны рэдактар нічога не жадае ведаць пра гэта. Фотаапараты таксама не хочуць, хоць іх агулам пяць штук.

Пачалося раней... Але мы гэта заўважылі толькі летась у велікодную нядзелю за сняданкам. Спачатку нешта стукнула. Я падумаў, што на кухні нешта звалілася. Мама пайшла паглядзець, а калі вярнулася, яна ўся трымцела, а мы...

Тут, напэўна, мне трэба распавесці, хто мы такія. Мы — гэта дзед і мама, тата і Марціна, Нікі і я.

Дзеду амаль семдзесят, і ў яго з-за нядаўняга інсульту не згінаецца нага і перакасіла рот. Але і з крывым ротам ён такія разумныя рэчы кажа — што многім з акуратна прамымі і не снілася. Дзед — бацька таты.

Тату пад сорак, і ён кіруе аддзелам у адной фірме па страхаванні аўтамабіляў — ён вельмі маленькі начальнік. Мама гаворыць, што на працы ён можа крычаць толькі на трох супрацоўнікаў. Таму, напэўна, ён так шмат і крычыць дома, — мяркуе дзед.

Маме таксама пад сорак. Але выглядае яна, на маю думку, нашмат маладзей. У яе пафарбаваныя светлыя валасы, а важыць яна ўсяго пяцьдзясят кілаграмаў. Настрой у яе амаль заўсёды вясёлы. Часам яна злуецца і сварыцца, маўляў, яна для нас толькі служанка, што ў адзін цудоўны дзень зноў пойдзе працаваць, і тады нам самім давядзецца займацца гэтым бедламам.

Марціна вучыцца ў пятым класе гімназіі. Яна худзенькая, цыбатая, а валасы ў яе бялёсыя. Сапраўдныя, свае. Яна дрэнна бачыць, бо чупрынка звісае ёй акурат на вочы. Яна кахае Алекса Бергера, які вучыцца з ёй у адным класе. Тата злуецца з-за гэтага, да таго ж у Бергера доўгія валасы. Мама гаворыць, што гэта нічога не значыць, усё-ткі Марціна ў класе самая лепшая, а з-за першага кахання абсалютна неабавязкова выходзіць замуж.

Нікі — мой малодшы брат. Я яго часта заву проста Нік. У школе ён цяпер вучыць, колькі будзе двойчы два, але гэта ён ведаў яшчэ ў трохгадовым узросце. Нядаўна праз яго адбыўся цэлы гармідар: Нік падняўся пасярод урока арыфметыкі, мовіў «Да пабачэння!» і выйшаў з класа. Але ён не дадому пайшоў, а да старога Губерта, нашага цесляра. Там ён зграба́ў габлюшкі, сказаў, што таксама хоча стаць цесляром. Настаўніца пазваніла маме і паведаміла, што яна паставіць двойку яму за паводзіны.

Мяне завуць Вольфганг, і мне дванаццаць гадоў. Вучуся я ў другім класе гімназіі. Марціна кажа, што я выглядаю нязграбным. Але мне ўсё адно, як я выглядаю. Выглядаць так, як я хачу, у мяне аніяк не атрымаецца. Таму я і не нашу брэкеты, каб выраўняць зубы — брэкеты пяць тысячаў шылінгаў каштуюць! Да таго ж яны ўжо і не налезуць на мае заечыя зубы. Да нядаўняга часу я быў добрым вучнем. Але нам прыслалі класным кіраўніком Хаслінгера, ён мяне на дух не пераносіць. Ён лепіць мне нулі па матэматыцы і геаграфіі адзін за адным. Больш за ўсё мне падабаецца плаванне. Я — сябра таварыства па плаванні. Калі я прыкладу ўсе свае намаганні, кажа трэнер, праз два гады я змагу зрабіцца чэмпіёнам вобласці сярод юніёраў па плаванні на спіне.

Ва ўласнасці нашай сям'і ёсць дом з садам. Ужо тры гады мы тут жывем. Калі тата аплоціць усе пазыкі, ён будзе ўжо сівавалосым дзедам, кажа мама. Таму мы мусім эканоміць, а дзед са сваёй пенсіі купляе нам абутак, штаны і розныя апранахі для Марціны. Гэта вельмі прыемна, бо дзеду абсалютна ўсё адно, ці размалявана футболка чырвона-блакітна-белымі стужкамі, ці на ёй партрэт Касіўса Клея[1]. Штаноў на тры памеры больш, на вырост, ён таксама не купляе. Мінулым летам ён купіў Марціне бікіні, самае моднае. Яно было зроблена з вельмі лёгкай тканіны. Тата раззлаваўся. Ён крычаў: «Няхай тады мая дачка зусім голая бегае!» А дзед хіхікнуў і адказаў: «Нарэшце хоць адна цвярозая думка прыйшла да майго сына!» Тата яшчэ больш раззлаваўся, але нічога на гэта не адказаў, бо ён не хоча сварыцца з дзедам перад намі. Ён пайшоў на кухню і пачаў лаяцца з мамай, але мама сказала, што цяпер ва ўсіх дзяўчат такія бікіні.

Вось, пра нас я ўжо дастаткова расказаў. Думаю, цяпер трэба зноў пачаць з леташняй велікоднай нядзелі.

Дык вось, летась, ага, у велікодную нядзелю, за сняданкам, прыйшла мама з кухні і ўся трымцела. Яе так моцна калаціла, што Марціна, гледзячы на маму, са страху выпусціла велікоднае яйка ў кубак з кавай.

Дзед спытаў: «Што з табой, нявестачка?» (Дзед заўсёды называе маму нявестачкай.) І тут зноў нешта бумкнула, і тата крыкнуў: «Нікі, спыніся!»

Заўсёды, калі дзесьці штосьці грахоча ці бухае, тата кажа: «Нікі, спыніся!» Часцяком ён мае рацыю, але гэтым разам быў не Нікі, з кухні зноў пачуўся грукат. Нікі пачаў скуголіць, што гэта не ён. Марціна вылавіла яйка з кавы, мама ўсё яшчэ трымцела ад страху, яна ледзь вымавіла: «На кухні, на кухні...» Мы спыталі: «Што на кухні?» Але мама больш не змагла нічога сказаць. Тады дзед падняўся і пайшоў да дзвярэй на кухню. За ім следам Марціна, Нік і я таксама. Я падумаў, што, напэўна, труба прарвалася, альбо за газавай плітой пасялілася мыш ці аграмадны павук. Іх мама вельмі баіцца. Але гэта аказалася не труба, і не мыш, і не павук, мы ўсе, нібы ашалелыя, вылупілі вочы. З намі і тата, які прыйшоў следам.

На куханным стале сядзела нешта, ростам прыкладна з паўметра. Калі б у гэтага нешта не было вачэй, носа, рота, рук і ног, яго можна было б прыняць за аграмадны, тоўсты агурок ці сярэдніх памераў прадаўгаваты гарбуз. На галаве ў гэтага нешта была карона. Залатая карона з чырвонымі каштоўнымі каменьчыкамі на кожным зубчыку. Яго рукі былі схаваны ў белыя ніцяныя пальчаткі, а пазногці на нагах пафарбаваныя чырвоным лакам.

Гарбузок-агурок у кароне пакланіўся нам, сеў па-турэцку і прамовіў нізкім голасам: «Нёс зёвуць кёроль Кумі-Оры Друхі, з роду Лесвіцалінгаў!»

Я не магу дакладна апісаць, што адбылося, бо не памятаю, — настолькі мяне напалохаў гэты гарбуз-агурок.

Я не думаў: быць такога не можа! Я нават не думаў: ну і смешны гэты агурок! Я ўвогуле ні пра што не думаў. Абсалютна ні пра што! Губер Ё, мой дружбак, кажа ў такіх выпадках: «Мазгі замкнула!»

Хаця прыпамінаю, што тата тройчы сказаў «не». Першы раз вельмі гучна. Другі — нармальна, а трэці — вельмі ціха.

Тата заўсёды гаворыць: «Калі я кажу не, значыць не». Але тут яму яго «не» абсалютна не памагло. Гарбуз-агурок як сядзеў на стале, так і сядзеў. Ён склаў рукі на жываце і паўтарыў: «Нёс зёвуць кёроль Кумі-Оры Друхі, з роду Лесвіцалінгаў!»

І тут дзед першым агоўтаўся. Ён наблізіўся да караля Кумі-Оры, пакланіўся і прамовіў: «Вельмі рады знаёмству з Вамі. Маё імя — Хогельман. У гэтым доме я з'яўляюся дзядулем».

Кумі-Оры выцягнуў сваю правую руку і сунуў яе дзеду пад нос. Дзед зірнуў на руку ў ніцяной пальчатцы, але так і не ўцяміў, чаго хоча Кумі-Оры.

Мама падумала, што, напэўна, у яго баліць рука і яму трэба зрабіць кампрэс. Мама заўсёды думае, што каму-небудзь абавязкова трэба зрабіць кампрэс ці даць пілюлі, альбо паставіць гарчычнікі.

Але Кумі-Оры не быў патрэбны кампрэс, рука ў яго была нармальнай. Ён памахаў пад дзедавым носам ніцянымі пальцамі і прамовіў: «Мы прыфыклі, што нам кошны абафязёны цалафаць рукі!»

Дзед заявіў, што ні ў якім разе не будзе цалаваць руку Кумі-Оры, адно ён бы пацалаваў руку прыгожанькай дамы, аднак Кумі-Оры ніякая не дама.

Па зялёнай агурковай скурцы Кумі-Оры прабеглі гарбузова-жоўтыя мурашкі, і ён закрычаў у шаленстве: «Фы гафарыце з Фашай Фялікёсцю!»

Дзед паглядзеў на Агурковага Караля так, як ён заўсёды глядзіць на людзей, якіх на дух не пераносіць. Агурковы Кароль больш не махаў рукамі. Ён паправіў сваю карону і сказаў: «Нёс прагнаў падданны мне народ! Мы прасіць часофага прытулку!»

А потым ён яшчэ дадаў: «Мы фельмі стаміўся ад такіх хваляванняў!»

Тут ён зіхнуў, заплюшчыў свае чырвоныя гузікі-вочкі і звесіў галаву, як наш дзед, калі засынае перад тэлевізарам. І прамармытаў: «Мы хацець, каб нас накрылі коўдрай і прынеслі падушку!»

Нікі пабег у свой пакой і прыкаціў старую лялечную каляску. Марціна павыкідвала з яе ўвесь хлам: засохлы бутэрброд, тры спартыўныя торбы, зацвілы марынаваны агурок і шкарпэтку Ніка. І, дзякуй Богу, мой вучнёўскі білет, які я, нібы дзяцел, шукаў ужо тры тыдні. Косткі ад сліў яна пакінула ў калясцы. Я падхапіў караля Кумі-Оры, бо ён спаў салодкім сном і мог зваліцца са стала. Ён раздзьмуўся, нібы сырое цеста ў цэлафанавым пакеце. Я паклаў Кумі-Оры ў каляску, а мама накрыла яго кухонным ручніком. А карону з каштоўнымі камянямі мама запіхнула ў лядоўню — у маразілку. Але дзеянні мамы нас абсалютна не здзівілі. Можаце сабе ўявіць, як мы ачмурэлі ад усіх папярэдніх падзей!

І Нік не здзівіўся. Ён увогуле сцвярджае, што пад ложкам у яго жывуць шэсць ільвоў, слон і дзесяць гномаў. У каго пад ложкам жывуць гномы, таго ніякі Кумі-Оры не здзівіць.

Нік выкаціў каляску на веранду, сеў побач і праспяваў: «Спі, дзіцятка, спі. Сон салодкі прысні — бацькі твае былі князі».

Кароль Кумі-Оры Другі праспаў усю велікодную нядзелю. Ён ціхенька храпеў. Тата патэлефанаваў у газету, якую заўсёды чытае. Але рэдактара не было, бо Вялікдзень. Там дзяжурыў парцье. Ён засмяяўся і параіў, каб тата прытрымаў гэтую гісторыю да наступнага першага красавіка.

Тата закрычаў: «Гэта несусветная нахабства, Вам гэта дорага будзе каштаваць!»

Ён кінуў слухаўку на тэлефон. Потым заявіў, што патэлефануе галоўнаму рэдактару дадому, бо заўсёды лепш размаўляць з начальствам, а не з падначаленымі.

Мне давялося прынесці газету, а Марціне правярыць, ці сапраўды «Даўкаўпіль» пішацца з двайным «аў». Вось як завуць галоўнага рэдактара.

Потым тата вывучаў тэлефонны даведнік, але ў ім аказаліся дзесяць Ёзэфаў Даўкаўпіляў. Насупраць першага была пазнака «кравец», другі быў «спецыялістам па экспартных пастаўках», трэці — «цырульнікам», а чацвёрты — «доктарам медыцыны». Два Даўкаўпілі жылі ў Зімерынгу, і тата сказаў, што гэта дакладна не яны, бо ў Зімерынгу жывуць толькі пралетарыі. На астатнія чатыры нумары тата патэлефанаваў. Двойчы ніхто не адказаў. Потым адказала жанчына, яна паведаміла, што Ёзэф Даўкаўпіль яе сын і ён паехаў на рыбалку, і што яна не мае нічога супраць, каб ён стаў галоўным рэдактарам, але, на вялікі жаль, ён працуе піяністам у бары «Chat noir»[2]. Апошні Даўкаўпіль быў той самы. Тата расказаў яму ўсё пра Кумі-Оры і папрасіў неадкладна прысласць рэпарцёра з фатографам: такая сенсацыя для газеты. Але галоўны рэдактар паверыў тату не больш, чым перад тым парцье. У таты ад гневу нават твар збялеў, і ён паклаў слухаўку.

«Ну, што ён сказаў?» — спытаў дзядуля і з'едліва ўсміхнуўся.

Тата адказаў, што пры нас, дзецях, ён не можа паўтарыць, гэта было неверагоднае хамства. Але мы ўсё цудоўна чулі, бо галоўны рэдактар не гаварыў, а крычаў у слухаўку.

Дзядуля зрабіў выгляд, што яго гэта вельмі абурыла, што ён паверыць не можа, як такі найшаноўнейшы спадар з такой паважанай газеты мог сказаць такое неверагодна-хамскае. Яму хацелася пазлаваць тату. Яны заўсёды сварацца з-за газет. Тата чытае тыя, што не падабаюцца дзядулю, а дзядуля тыя, якія тата на дух не пераносіць.

Мама ўжо хацела званіць у дзядулеву газету, але тата запратэставаў, і дзядуля таксама. Дзядуля сказаў, што для яго газеты ёсць больш важныя падзеі, чым пісаць пра нейкіх агуркоў-выгнанцаў.

Ад такіх пературбацый мама абсалютна забыла пра рагу са свініны. Яна не ўключыла духоўку, і да абеда рагу было яшчэ непрапечаным і халодным. Мы елі бутэрброды з каўбасой і ўчарашні бульбяны салат...

У таты пяць фотаапаратаў. Гэта яго хобі. Самы навюткі праз трыццаць секунд пасля здымкаў выдае каляровае фота. З гэтым фотаапаратам тата прабраўся на веранду і сфатаграфаваў караля Кумі-Оры. Яму захацелася пасласць галоўнаму рэдактару фатаграфію Кумі-Оры. Але на здымку замест Кумі-Оры правілася толькі пустая лялечная каляска і ножка стала. Тата паспрабаваў зняць яшчэ раз, потым яшчэ раз, але на фатаграфіі выходзіла толькі пустая лялечная каляска.

Тады ён прынёс «лейку», «ролейфлекс», японскі фотаапарат і, як ашалелы, абфатаграфаваў Кумі-Оры. З фотаўспышкай і без яе. На чорна-белую стужку і на каляровую. На дзевяцімілімітровую і дванаццацімілімітровую.

Потым ён праявіў стужкі ў пральнай машыне і надрукаваў некалькі здымкаў з павелічэн-

# Кароль»

нем. Але колькі б ён ні павялічваў, Кумі-Оры не было бачна.

Вечарам кошык для бялізны разбух ад фатаграфій — процьма пустых лялечных калясак і ножак стала.

Дзядуля сказаў, што Кумі-Оры, верагодна, нефотагенічны, а мама дадала: «Тады не трэба больш званіць ні ў якія газеты, ні на тэлебачанне. Калі няма сенсацыйнай фатаграфіі, няма і інтарэсу грамадскасці».

## Частка другая

Высвятляецца, навошта ствараюць каралеўскія кароны. Высвятляецца, што склеп патрэбны не толькі для захавання бульбы. Яшчэ высвятляецца, што зноў у нашай сям'і не можа быць адзінага меркавання.

Падчас вячэры Кумі-Оры ўсё яшчэ спаў. Мы па тэлевізары глядзелі дэтэктыў. Наш госць так збіў з панталыку тату, што ён забыў забараніць нам глядзець дэтэктыў.

Акурат калі інспектар крымінальнай паліцыі адкрыў металічную заслону, каб трапіць у каналізацыю і пераследаваць бандытаў, лялечная каляска на верандзе загайдалася. Агурковы кароль прачнуўся. Нікі прывёз яго ў наш пакой. Дзядуля выключыў тэлевізар. Кумі-Оры пачаў крычаць: «Дзе няша кар'ёна?! Нам трэба кар'ёна!» Ён схапіўся за галаву.

Спачатку мы не маглі прыгадаць, дзе карона. Потым Нікі ўспомніў, што мама запіхнула карону ў маразілку. Нікі прынёс карону. Яна была ледзяная. Кумі-Оры яшчэ гучней закрычаў, калі Марціна насунула на яго карону. Тады тата пачаў грэць яе запальніцай. Але занадта разагрэў, да гарачыні.

Увесь час Агурковы кароль енчыў, маўляў, яму неадкладна патрэбна карона, што без яе ён адчувае сябе зусім голым, што думаць не можа і нават сказаць не можа. Нарэшце Кумі-Оры насунуў карону на галаву і ўскараскаўся на татава крэсла перад тэлевізарам. Ён паклаў ножку на ножку, счапіў рукі на пузе і запытаўся ў таты: «Фы здзіўленыя? Хочаце дафедацца, хто мы і чаго мы тут шадаем?»

Тата кіўнуў.

Марціна спытала: «Чаго ён заўсёды гаворыць «мы»? Ён жа тут адзін!» Тата сказаў, што ў граматыцы ёсць катэгорыя, якая завецца «ягамосны множны лік», але Марціна нічога не зразумела.

Мама растлумачыла ёй: «Кароль — гэта больш, чым простыя людзі. Таму замест «я» ён кажа «мы». А яму замест «ты» — «Вы», а звычайным людзям ён кажа замест «ты» — «ён».

Марціна ўсё адно нічога не зразумела. Я — таксама. Тут дзядуля шапнуў нам: «Ён так гаворыць, бо ў яго мазгоў няма».

Гэта Марціна зразумела. І я — таксама.

Кумі-Оры адкашляўся і пачаў распавядаць. Яго аповед цягнуўся доўга, бо Кумі-Оры расказвае неяк дзіўнавата. Цяжка яго зразумець. Натуральна, у нас з'явілася процьма пытанняў. Але паступова, да поўначы, усё больш-менш зрабілася зразумелым.

А менавіта вось што: кароль Кумі-Оры з'явіўся з нашага склепа, з ніжняга падвала. У нас іх — два. У верхнім мы захоўваем бульбу, грушы на зіму і слоікі з варэннем. Стары трохколавы веласіпед Ніка таксама там стаіць. Яшчэ там ёсць паліцы з дзядулевымі інструментамі і, самае цікавае, дзверы ў ніжні падвал. За гэтымі дзвярыма пачынаецца стромістая лесвіца. Тата забараніў нам карыстацца ёй. Але ў тым няма ніякай небяспекі. Ну, яна толькі крышку мокрая і слізкая. Але тата, калі аглядаў дом перад пакупкай, пакаўзнуўся на гэтай лесвіцы і вывіхнуў сабе нагу. А калі ён вывіхнуў сабе нагу, значыць, нам нельга хадзіць у ніжні падвал. Інакш, напэўна, мы б раней даведаліся пра кумі-орцаў.

Дык вось, у ніжнім падвале жыў кароль Кумі-Оры са сваімі падвал-кармільцамі і падвал-лісліўцамі, а таксама ўсімі падданымі, якія цяпер больш не хацелі быць яго падданымі. Агурковы кароль распавёў нам, што ён і яго падвал-кармільцы заўсёды ставіліся годна, добра і сардэчна да падданых падвал-лісліўцаў. Але падданыя аказаліся няўдзячнымі і арганізавалі паўстанне. Падвал-кармільцы і падвал-лісліўцы збеглі. Ад неверагоднага страху яны так шпарка беглі, што забылі забраць з сабой Кумі-Оры Другога. А вінаватым і падбухторшчыкам паўстання быў адзін шкодны падвал-кармілец, якога заўсёды лічылі за дзівака. Ён падбухторыў насельнікаў падвала. Цяпер Кумі-Оры, усімі пакінуты, шукаў на нашай кухні палітычнага прытулку.

Потым яшчэ Кумі-Оры сказаў, што на гэтым тыдні яго забяруць назад, бо народ без яго жыць не зможа.

«Чаму народ не зможа жыць без яго Вялікасці?» — спытаў дзядуля.

«Бо яны — дурныя і нічога не федаюць! Ім патрэбны хтось, хто будзе казаць, што рабіць», — растлумачыў Агурковы Кароль.

«Так-так, — сказаў дзядуля, — яны — дурныя! І чаму ж гэта яны дурныя?»

Кумі-Оры пацiснуў сваімі агурковымі плечукамі.

«Тады я растлумачу вам, ваша лукавагоркая Вялікасць, чаму ваш народ — дурны!» — зароў дзед і пасунуўся наперад з фатэля ўсім тулавам.

«Бацька, прашу цябе, — крыкнуў тата, — гэта ж абсалютна нецікава! Не пачынай ты драць струны на цымбалах!»

Мама таксама сказала, што дзеду не трэба нервавацца з-за палітыкі, гэта шкодзіць яго сэрцу. Потым Кумі-Оры распавёў, што ва ўсіх старых дамах са склепамі жывуць агуркова-гарбузовыя чалавечкі і ва ўсіх ёсць свой агуркова-гарбузовы кароль. У вялікіх, старых палацах жывуць нават агурковыя імператары. Але апошнім часам, дадаў ён, падданыя тут і там робяцца вальнадумнымі і здзяйсняюць путчы.



Фота www.allevents

Дзед паправіў, што гэта завецца не путчам, а рэвалюцыяй.

«Не, — сказаў Кумі-Оры, — не! Яны здзяйсняюць путч! Путч! Путч!»

«Рэвалюцыя!» — рыкнуў дзядуля. «Путч! Путч! Путч!» — крычаў у адказ Кумі-Оры.

«Чорт падзяры, — сказаў тата, — гэта адно і тое ж!»

Марціна мовіла: «Калі нехта прыходзіць з салдатамі, закрывае парламент, саджае ў турмы людзей, якія незадаволеныя новым ладам, і забараняе газетам друкаваць усё, што яны хочуць, то гэта путч. А калі падданыя выганяюць караля прэч, адкрываюць парламент, прызначаюць выбары і выдаюць газеты, то гэта — рэвалюцыя!»

Тата спытаў, адкуль яна даведалася пра такую ахінею. Марціна сказала, што гэта не ахінея. Калі б яна ведала пра гэта яшчэ да экзамена па гісторыі, то атрымала б не «добра», а «выдатна». Тата буркнуў, што пры сустрэчы з новым настаўнікам па гісторыі ён скажа ўсё, што думае на гэты конт. Кумі-Оры быў цалкам згодны з нашым татам.

Дзесьці каля апоўначы Кумі-Оры сказаў, што ён зноў стаміўся, але ні ў якім разе не будзе спаць адзін у пакоі, бо, магчыма, падданыя цікуюць за ім і збіраюцца яго забіць. У лялечнай калясцы таксама ён спаць не можа, бо яна рыпіць і грукоча. Ад гэтага ён можа прачнуцца і спалохацца. Нарэшце ён прыняў рашэнне: «Мы будзём спаць у ложку з адным з фас!»

«Толькі не са мной!» — крыкнуў я, бо памятаў, які Агурковы Кароль навобмацак, не хацелася спаць у ложку разам з дражджавым цестам.

І тут тата сказаў, што Кумі-Оры можа спаць з ім. Гэта ўжо было дзіўнавата. Але яшчэ больш дзіўным было, як ён гэта сказаў: «Фаша Фялікасць мёжа спакёйна начафаць са мнёй. Я будзё фартафаць сён Фашай Фялікасці!»

Ён нават не ўсміхнуўся пры гэтым. Я заўважыў, што ён абсалютна не жартуе з агурочкам.

## Частка трэцяя

Я раскажу, што ўбачыў у татавым пакоі. Тата жадае на сняданак такое, што ніводны чалавек не будзе есці. І як нечакана парушаецца традыцыя.

У велікодны панядзелак я прачнуўся рана. Нік яшчэ спаў. Я спыніўся каля дзвярэй пакоя мамы і Марціны, нічога не пачуў. Але з татавага пакоя чулася двухгалосае храпенне. Я асцярожна прыадчыніў дзверы. У ложку, шчака да шчакі, спалі тата і Агурковы Кароль. Карона ляжала на коўдры, Кароль моцна трымаў яе левай рукой, а тата — правай. Я ціхенька зачыніў дзверы і пайшоў на кухню.

На кухні сядзеў дзядуля, піў малако з парцэлянавага кубка і даядаў крошкі ад пірага.

Я сказаў дзеду: «Тата і Агурчэўскі спяць у ложку разам, як, як...» — язык не паварочваўся сказаць «як». «Як салодкая парачка, напэўна?» — спытаў дзядуля.

Я кіўнуў, а дзядуля цяжка ўздыхнуў.

Я наліў сабе кубак малака, і мы з дзедам падзялілі крошкі. Ён даеў карычневыя, а я — жоўценькія. Пакуль клявалі крошкі, дзядуля ўсё паўтараў: «Цудоўненька... цудоўненька...»

Але калі дзядуля гаворыць «цудоўненька-цудоўненька», гэта азначае адваротнае.

«Ты ж яго на дух не пераносіш?» — спытаў я дзядулю.

«Каго яго?» — спытаў дзед, цудоўна ведаючы, каго я маю на ўвазе.

«Ды гэтага... Лукавіча-Агурочніка маю я на ўвазе».

Дзядуля сказаў: «Не».

Тут на кухню прыйшла мама. Яе валасы былі накручаны на бігудзі, а на шчацэ чырванеў вялікі пісяг. Але не сапраўдны, гэта бігудзі пакінулі свой адбітак. Напэўна, усю ноч яна праспала на бігудзях. Адной рукой мама расцірала пісяг, а другой прасейвала каву праз фільтр.

Тое, што мы не павіталіся з мамай, а яна з намі — гэта ўжо завядзёнка. З мамай можна размаўляць толькі тады, калі яна пап'е кавы. Да таго моманту яна сама не прамаўляе ні слова.

Мама заварыла каву і зрабіла глыток. «Добрай велікоднай раніцы, — сказала яна, расціраючы пісяг, а потым прамармытала: — Ну і дурноцце сёння ноччу прыснілі!»

Я прамармытаў: «Калі ты прысніла Агуркевіча з каронай, то гэта быў ніякі не сон!»

«Шкада», — сказала мама. Яна размяшала каву, хоць п'е яе заўсёды без малака і цукру — размешваць там няма чаго. Гэтак мы доўга яшчэ сядзелі. Мама размешвала каву, а мы з дзедам клявалі крошкі.

Потым прыйшоў Нік. Мама позна заўважыла, як ён выцягнуў з маразілкі сунічнае марозіва. Яна пачала лаяцца на Ніка, калі ён ужо даядаў яго. Нік захныкаў і заенчыў, што сёння Вялікдзень, што тады навошта ўвогуле Вялікдзень існуе, калі нельга з'есці хаця б адно-адзінае сунічнае марозіва.

Тут і Марціна прыйшла і пачала скардзіцца, што з-за ўсіх гэтых енкаў-хныкаў яе ранішні сон сапсаваны. Яна ўзяла ў Ніка сподачак з марозівам, пераклала ў келіх для піва, абпырскала содавай вадой зверху і сказала, што марозіва з содавай –самы лепшы сняданак для дзяцей і што Ніку пажадана сціхнуць.

Але мама выкінула марозіва з содавай у рукамыйнік і прыкрыкнула на нас, што калі мы думаем, што можам рабіць тое, што захочам, то вельмі памыляемся. Потым мама супакоілася, Нік атрымаў какаву, а Марціна прыгатавала гарбату для прачысткі крывяноснай сістэмы. Я зірнуў у вакно.

Неба было блакітным з адзінай бялюткай хмаркай. У завулку, перад нашымі садовымі веснічкамі, стаяў спадар Гаўліца і свістаў. Гаўліца штораніцы, а восьмай гадзіне, стаіць каля нашага дома і свістам кліча свайго сабаку. У пятнаццаць хвілін на дзявятую прыбягае сабака, і Гаўліца перастае свістаць.

Калі сабака з'явіўся, я падумаў: зараз пятнаццаць хвілін на дзявятую, неба такое ж блакітнае, як і раней, прыйшоў час апранацца. Бо кожны год а дзявятай раніцы мы едзем у велікоднае падарожжа. «Гэта традыцыя», — сказаў тата. Ехаць павінны ўсе, нават калі ў каго-небудзь з нас насмарк. Мы ўжо нават прызвычаіліся не аднеквацца, бо вынік будзе аднолькавы. Тата проста шалее, калі хто-небудзь з нас не хоча ехаць — мы ў гэтым выпадку, бачыце, парушаем традыцыю! У падарожжа мама і Марціна заўсёды мусяць апранаць дырндль[3], а мы з Нікам — скураныя штаны.

Акурат калі я разважаў пра гэта, на кухню прыйшоў тата. Ён сказаў «Добрай раніцы!» і адчыніў шафу пад рукамыйнікам, дзе мы трымаем бульбу з цыбуляй. Ён выцягнуў кошык і пачаў аберуч корпацца ў ім.

«Што ты там шукаеш?» — спытала мама.

Працяг на стар. 18 (12) »

# «Бывай, Агурковы Кароль»

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 16 (10)**

«Праpослыя бульбіны!» — адказаў тата.

«Пра... якія?» — спытала мама. У яе позірку чытаўся жах.

Тата сказаў, што шукае клубні з парасткамі, гэта і ёсць прарослая бульба.

Мама адказала, што ў нас толькі свежая бульба, вышэйшага гатунку. Але тата працягваў корпацца ў бульбе.

Маме карцела даведацца, навошта яму спатрэбілася прарослая бульба, і тата ёй растлумачыў, што яна патрэбна яму на сняданак.

«Ты будзеш есці на сняданак бульбу з парасткамі?!» — узрушана закрычаў Нік.

«Пакуль не, — сказаў тата, — кароль Кумі-Оры жадае!»

Нікі падбег да кухоннага пуфа, лёг на жывот і вывудзіў з-пад яго шэсць бульбін з даўжэзнымі парасткамі: «Яны тут з Калядаў ляжаць! Такія падыдуць?»

Тата сказаў, што самае тое і што гэта вялікае свінства — трымаць бульбу пад рукамыйнікам, гэта сведчыць пра нашу неахайнасць ва ўсім. Потым ён прабурчэў, што нам трэба паспяшацца і не забыць дажджавікі, у дадатак маме неабходна было запакаваць старую коўдру, дзядулю заправіць падарожны халадзільнік, Марціне пакласці ў багажнік бадмінтон, мне працерці задняе шкло ў машыне, а Ніку дзвярныя замкі, і не дай Бог мама забудзе вострыя нож і папяровыя сурвэткі.

«А што будзе рабіць Агурковы Кароль, калі мы паедзем?» — спытаў Нік.

Тата растлумачыў, што Агуркевіча мы возьмем з сабой і ён будзе сядзець у мяне на каленях. І тут я гучна крыкнуў «Не!» і адразу яшчэ раз «Не!». «Тады ён будзе сядзець на каленях у Ніка!» — вырашыў тата. Нік нічога не меў супраць. Але мама растлумачыла, што ў яе на каленях будзе сядзець Нік і ёй не вельмі хочацца, каб зверху яшчэ сядзеў Агуркевіч, яна ж не п'едэстал для брэменскіх музыкаў.

Тата з запытальным позіркам паглядзеў на Марціну. Марціна адмоўна пахітала галавой. Адначасова захітаў галавой і дзядуля. Тата пачаў крычаць на нас. «Хтосьці з вас абавязаны ўзяць Кумі-Оры!» — рыкаў ён. Сам ён яго не можа ўзяць, бо будзе сядзець за стырном.

«Ён мне не сімпатычны», — прабурчаў дзядуля.

«Ён нібы кавалак цеста!» — сказаў я.

«У мяне Нік будзе сядзець на каленях! Мне дастаткова!» — адмовілася мама.

«Я яго баюся!» — піскнула Марціна.

Тата працягваў крычаць, што мы няўдзячныя, што мы сораму не маем. Ён бегаў туды-сюды паміж ваннай і кухняй, пры тым адначасова мыўся, галіўся і апранаўся. Калі скончыў, ён зыркнуў на нас злымі вачыма і спытаў: «Ну! Хто возьме да сябе на калені Караля?»

Дзядуля, мама, Марціна і я адмоўна захіталі галовамі. Гэта ўвогуле быў першы раз, калі мы адзінагалосна не падпарадкаваліся тату. Нас гэта вельмі здзівіла, але яшчэ больш здзівіўся тата.

Ён, белы ад злосці, пабег у свой пакой. Забраў Кумі-Оры, аднёс яго ў гараж і пасадзіў у машыну на задняе сядзенне. Ніку ён сказаў: «Хадзем, Нік, самі паедзем!» На нас ён наўмысна ніводнага разу не зірнуў.

Ад злосці ён так імкліва выехаў з гаража, што левым пярэднім колам наехаў на куст ружаў, а таксама перакуліў гіпсавага гнома і тачку. Ён вылецеў з варот на вуліцу, быццам хацеў выйграць Гран-пры Манака.

Бульбіны з парасткамі валяліся на стале. Мама сабрала іх, выкінула ў памыйнае вядро і ўпікнула нас, што мы яе не падтрымліваем, што яе любімыя дзіцяткі, выцягваючы бульбу з-пад кухоннага пуфа, наносяць ёй удар у спіну. Потым мама сказала, што цэлы дзень мы можам рабіць, што захочам. Яна пайшла зноў спаць.

Дзядуля пазваніў свайму сябру — «дружбаку Бергеру». Ён дамовіўся з ім пра ранішнюю «пасядзелку» ў кавярні і гульню ў кеглі.

### Частка чацвёртая

Велікодны панядзелак без традыцыі. Абвастрэнне па ўсіх франтах. Пасля гучнай сваркі — ціхі кампраміс.

Я пайшоў у басейн. Мама дала мне грошы, каб я змог купіць на абед у буфеце пару сасісак з гарчыцай.

Але я не пайшоў у буфет. Губер Эрых, які таксама хадзіць са мной на плаванне, запрасіў мяне паабедаць у яго дома. Рэч у тым, што на Вялікдзень ён застаўся адзін. Яго бацькі з маленькай сястрычкай паехалі ў падарожжа. Эрых не захацеў выправіцца з імі. Яго бацька, у адрозненне ад нашага, не прытрымліваецца нейкіх традыцый.

Увогуле ў Эрыха дома шмат што зусім па-іншаму, чым у нас. Эрыху не трэба перапытваць па дзесяць разоў, ці можна яму пайсці ў басейн, ці можна яму схадзіць у кіно, ці можна яму завітаць да сябра. Эрых гаворыць, што ён можа рабіць амаль усё, што пажадае. Але яшчэ Эрых кажа, што ў гэтага ёсць свае недахопы: для іх сям'і, безумоўна. Напрыклад, яго мама таксама робіць, што хоча. Часам ёй не хочацца гатаваць, часам не хочацца прасаваць бялізну. Яна мяркуе, што ў Эрыха рукі не адваляцца, калі ён разок-другі сам адпрасуе сваю кашулю.

Не ведаю, ці адваляцца рукі ад прасавання кашулі. Я яшчэ ніводнага разу не прасаваў кашулю. І прас я ніколі не трымаў у руках...

Усё роўна ў Эрыха незвычайна весела. Яго пакой — гэта Шлафенландыя[4] і Раздзяўбанія адначасова. На падлозе паўсюль валяюцца і кнігі, і карты, і плаўкі, а зверху яшчэ і падручнікі. На адной сцяне ён намаляваў пастэльнымі алоўкамі фрэску. А на дзвярах аграмаднымі літарамі напісаў: «Уваход для дарослых забаронены!»




Ілюстрацыя www.amazon

Мы прыгатавалі сабе яечню з вяндлінай. Потым пайшлі ў кіно на «Аднойчы на Дзікім Захадзе». Потым выпілі па шклянцы «Кока-колы» ў бары «Гоў-гоў», пагулялі ў пін-бол.

У «Гоў-гоў» сядзела Марціна з Бергерам Алексам, там сабралася процьма дзяцей з нашай школы. У «Гоў-гоў» шмат каго можна сустрэць з нашай школы. Дарослыя сюды не наведваюцца. Тут стаіць такі вэрхал! Але Марціна і я былі тут упершыню. Тата ніколі не дазваляў нам хадзіць у «Гоў-гоў». Ён кажа, што паходы ў карчму не для дзяцей. Але Марціна даўно не дзіця. А «Гоў-гоў» ніякая не карчма. Там усе п'юць толькі «Колу». Але тата супраць яе таксама. Ён сцвярджае, што яна раз'ядае страўнік. Ва ўсякім разе яму лепш было б, калі б мы пілі толькі самаробны слівавы кампот. Але наш слівавы кампот гідкі, і жывот потым ад яго круціць.

Мы пайшлі з Марцінай дадому, калі пачало вечарэць. Марціна распавяла мне, што Анні Вестэрман зайздросціць ёй з-за Бергера Алекса, а я распавёў ёй, што палепшыў свой вынік у кролі на адну дзясятую секунды.

Таксама я сказаў, што ёй абавязкова трэба паглядзець «Аднойчы на Дзікім Захадзе». Мы так паразумеліся, што я паабяцаў ёй пазычыць грошы на кіно.

Калі мы прыйшлі дадому, татава машына ўжо стаяла ў гаражы. Мама была на кухні. Яна адбівала шніцалі. Яна так іх дубасіла, што ўвесь стол падскокваў. «Злуецца, бо мы позна вяртаемся дадому!» — прашаптаў я Марціне. Але памыліўся: яна размаўляла з намі абсалютна нармальна. Верагодна, яна злавалася на кагосьці іншага.

Нік быў на верандзе, дзядуля яшчэ не вярнуўся. Тата сядзеў у сваім пакоі, а кароль Кумі-Оры ляжаў у зале на канапе і глядзеў лялечны спектакль па тэлевізары.

Я прайшоў каля яго. Ён сказаў: «Хлёпчык, пафярбуй мяне пазнёгці!» Рукой ён паказаў на свае ногі. У яго на вялікім пальцы аблупіўся чырвоны лак.

Я сказаў Кумі-Оры: «Мы Фам не слюга!» і пайшоў далей. Я пайшоў на веранду, каб даведацца ў Ніка, як прайшло падарожжа. Нік быў вельмі сумны. Ён распавёў, што ў машыне Кумі-Оры зрабілася моташна, бо ён не прызвычаены да аўтападарожжаў. А на лузе сонца напякло яму галаву, і калі яны захацелі паабедаць у прыдарожнай карчме, то гаспадар, убачыўшы Агуркевіча, не пусціў іх, і яны былі вымушаны галоднымі ехаць далей.

«Нік, браточак, — пацікавіўся я, — можа, ты ведаеш, што тата будзе рабіць з гэтым Агуркевічам?»

Нік адказаў: «Тата будзе абараняць яго і спрыяць ва ўсім, каб ён зноў зрабіўся каралём!»

«Зусім з глузду з'ехаў! — сказаў я, а потым дадаў: — Ён сам не верыць у гэта, наш яснавяльможны татуся!»

Нік заўпарціўся, закрычаў: «Тата зробіць усё! Тата ўсё можа!»

«Буду апладзіраваць яму адной рукой!» — адказаў я.

Нік вылупіў на мяне свае вочы, бо не ведаў, што гэта азначала. Ды і адкуль ён мог ведаць, гэта быў новы выраз замест «Была ў сабакі хата».

Тут мама паклікала нас вячэраць. Са свайго пакоя выйшаў тата. Ён паклаў сабе на талерку тры бульбіны, шніцаль і зноў знік. Ён заўсёды так робіць, калі злуецца на нас. Кумі-Оры ўзняўся з канапы і пайшоў следам за татам. Потым тата яшчэ выходзіў са свайго пакоя і вяртаўся на кухню.

Мама крыкнула яму наўздагон: «Прарослую бульбу я ў памыйнае вядро выкінула!»

Нейкі час тата прасядзеў на кухні. Потым, раззлаваны, прайшоў праз наш пакой, у руцэ ён нёс прарослыя бульбіны.

У Марціны ад страху выдзелец выпаў з рукі.

«Ён сапраўды корпаўся ў памыйным вядры», — прастагнала яна.

«Раней яго ад аднаго толькі выгляду памыйнага вядра трэсла! — сказаў Нік, а потым дадаў: — Ён, напэўна, закаханы ў гэтага Агурковага Караля!»

«У любым выпадку, праз мяне, — цяжка ўздыхнула мама, — ён ні разу не корпаўся ў памыйным вядры!»

Вечарам, калі мы леглі спаць, мама з татам пасварыліся. Яны вельмі гучна сварыліся. У маім пакоі добра было чуваць. Марціна і Нік употайкі дацыбалі да майго пакоя, каб таксама паслухаць.

Мама сказала, што кароль Кумі-Оры мусіць пакінуць наш дом. Якім чынам — ёй усё роўна. Але ў доме яна яго больш не пацерпіць. Тата адказаў, што кароль Кумі-Оры ў любым выпадку застанецца жыць у нас; ён запатрабаваў, каб мама была ветлівай з ім, гэтага ён патрабаваў і ад нас.

Мама крычала, што тата не дазваляе трымаць дома ні сабакі, ні ката, ні нават марской свінкі ці залатой рыбкі, хоць гэта патрэбна дзецям, а цяпер для сябе ён завёў нейкага агурка-гарбуза!

Тата абураўся, што ніякі гэта не агурок-гарбузок, а вельмі няшчасны кароль, які трапіў у бяду!

Мама не сунімалася, пляваць яна хацела на ўсякіх там каралёў у бядзе!

Тата таксама не сунімаўся, ён крычаў, што ўсяляк будзе падтрымліваць бядовага караля, бо ў яго ёсць сэрца і ён умее спачуваць.

Мама ажно ўскіпела: «Ніякага сэрца ў агурка няма, ніякага спачування! Смех ад гэтага разбірае!» Пасля яна доўга смяялася. Але смех быў не зусім вясёлы.

Тут ужо тата зарагатаў, маўляў, яна нічога не разумее, не разумее, якое аграмаднае значэнне мае кароль Кумі-Оры для нашага дома!

Да іх размовы далучыўся дзядуля. Ён супакоіў іх. Тата і мама прыйшлі да кампрамісу. Мы толькі палову слоў расчулі, але галоўнае было зразумела: Кумі-Оры застаецца жыць у татавым пакоі і не будзе з яго выходзіць. Тата сам будзе клапаціцца пра яго і гатаваць ежу. Прарослую бульбу ён будзе купляць сам. Для мамы і для нас будзе лепш увогуле не бачыць Кумі-Оры. Адзінае, пра што яны не дамовіліся, гэта — ці будзе мама прыбіраць татаў пакой.

Перад тым, як вярнуцца да сябе, Марціна сказала: «Калі б гэты Агуркевіч быў агурком з душой, ён бы даўно бясследна знік. Ён што, не заўважае, што гэта з-за яго сварацца!?»

Нік не мог дапетрыць. «Дурныя вы, — сказаў ён, — кароль — цудоўная цацка!»

1 Сапраўднае імя вядомага амерыканскага баксёра Мухамеда Алі.
2 «Чорны кот» (франц.).
3 Жаночы нацыянальны касцюм у Аўстрыі, Швейцарыі і паўднёвай Нямеччыне.
4 Краіна з нямецкіх казак, дзе жывуць гультаі. Літаральна: краіна гультаяватых малпаў.

Пераклад зроблены з выдання: © Christine Nöstlinger, «Wir pfeifen auf den Gurkenkönig»: Gulliver 1254 – Beltz & Gelberg, 2011.

**Пераклаў з нямецкай мовы Арцём Арашонак**

Літаратурная Беларусь

**Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.**
Тэлефон для даведак: **(8-017) 200-80-91.** Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**




> **Калі Дамову не пралангуюць, Казань зробіцца звычайным суб'ектам федэрацыі, які пазбавіцца ў тым ліку правоў на прыродную рэнту. Таму рэгіянальны парламент у Казані накіраваў у Маскву зварот з просьбай працягнуць дамову аб размежаванні паўнамоцтваў**

# Татарскі бунт

*Алег НОВІКАЎ*

**Спрэчкі паміж Казанню і Масквой па Дамове аб размежаванні паўнамоцтваў эксперты называюць апошнімі канвульсіямі расійскага федэралізму і сігналам для Мінска.**

Цяпер ужо цяжка ўявіць, што сучасная Расія магла выглядаць як канфедэрацыя Расіі і Татарстана, у якой татары мелі б свае пашпарты, дыпламатычную службу і нават аўтаномныя сілавыя структуры. Між тым, такая перспектыва паўставала з тэксту Дамовы аб размежаванні паўнамоцтваў паміж Казанню і Масквой, што была падпісаная ў 1994 годзе.

Прапісанаму ў Дамове статусу Татарстан быў абавязаны так званаму "параду суверэнітэтаў", калі на заклік Барыса Ельцына рэгіёны кінуліся «браць столькі суверэнітэту, колькі хацелі». Масква і ўсе суб'екты федэрацыі павінныя былі заключыць двухбаковыя дамовы. Найбольш радыкальна адрэагавалі чачэнцы, якія ўвогуле адмовіліся заставацца ў складзе Расіі. «Стала ў позу» і Казань. Татары пагаджаліся на сяброўства ў федэрацыі пры ўмове надання рэспубліцы асаблівых прэферэнцый, якія мусілі быць сфармуляваныя ў асобным двухбаковым дакуменце.

Пры гэтым Мінцімер Шаймііеў (кіраўнік тагачаснага Татарстана) бліскуча гуляў на палітычнай кан'юнктуры. Татары выкарыстал нестабільнасць рэжыму Ельцына, які ў 1993-м змагаўся з «чырвона-карычневай апазіцыяй», а пасля захрасна Каўказе. Тады адна частка казанскай эліты гучна агітавала супраць ельцынскай канстытуцыйнай рэформы, патрабавала суверэнітэту, а другая, шайміеўская, давала зразумець, што гатовая за нейкія бонусы захаваць лаяльнасць да цэнтра. Каб не дапусціць Чачні на Волзе, ельцынская адміністрацыя пагадзілася на ўмовы, што прадыктаваў Шайміеў у тэксце Дамовы.

Змест Дамовы, падпісанай у 1994-м, адразу выклікаў ступар у знаўцаў канстытуцыйнага права. Татарстан фігураваў у тэксце Дамовы як "суверэнная дзяржава", атрымліваў правa на свой Асноўны закон, выбары ўласнага прэзідэнта, распараджэнне зямельнымі фондамі, падаткамі, рэсурсамі, свае аўтаномныя сілавыя структуры, уласны бюджэт... І, нарэшце, вішанька на торце: пункт пра асобнае ад расійскага «татарскае грамадзянства», якое, паводле тэксту, мусіла прызнаваць Масква і іншыя дзяржавы.

Наўрад ці ў адміністрацыі Ельцына былі ў захапленні ад такога дакумента. Аднак на той час у Масквы не было адпаведных рэсурсаў і механізмаў, каб нешта змяніць. Давялося на нейкі час заплюшчыць вочы на шакавальныя нестыкоўкі татарскага і федэральнага канстытуцыйных актаў. Толькі прыкладна ў 2003-м, калі пуцінская вертыкаль была больш-менш адбудаваная, была ўзнятая тэма наяўнасці, як казаў Пуцін, «міны» пад расійскую дзяржаўнасць у выглядзе рэгіянальнага заканадаўства. Ад рэгіёнаў жорстка запатрабавалі скарэктаваць сваё заканадаўства, у тым ліку адмовіцца ад практыкі называць рэгіянальных кіраўнікоў прэзідэнтамі.

Не паддаўся на ціск толькі Татарстан, хаця шэраг уступак татары зрабілі. Рашэннем Вярхоўнага суда Расіі татар прымусілі выключыць з тэксту параграфы пра грамадзянства і манапольную ўласнасць Казані на мясцовыя зямельныя фонды. У выніку паўстала новая рэдакцыя Дамовы, якую зацвердзілі ў 2007-м. Тады ж пастанавілі, што тэрмін дзеяння Дамовы — 10 гадоў.

Хутка дзеянне Дамовы канчаецца, што падштурхнула татарскую эліту варушыцца. Калі Дамову не пралангуюць, Казань зробіцца звычайным суб'ектам федэрацыі, які пазбавіцца ў тым ліку правоў на прыродную рэнту. Таму рэгіянальны парламент у Казані наважыўся на мужны крок — накіраваў у Маскву зварот з просьбай працягнуць дамову аб размежаванні паўнамоцтваў.

Як ні дзіўна, пакуль выразнага адказу з федэральнага цэнтра няма, хаця, па сутнасці, Крэмль можа лёгка праігнараваць татарскі бунт. Аднак на дварэ не 1990-я. Сілавікі і медыя сёння цалкам пад кантролем Масквы. Што да грамадскасці, то самі казанскія чыноўнікі ў свой час спрыялі зачыстцы апазіцыянераў, якія крытыкавалі шайміеўскую адміністрацыю. Мяркуючы па змесце форумаў пры казанскіх медыя, мабілізаваць вуліцу ў абарону Дамовы будзе складана. Большасць каментатараў нейтральна назірае за канфліктам. А шэраг блогераў, у тым ліку татараў, нават вітае акцыі Крамля, якія, маўляў, паслабяць рэгіянальны клан, што даўно падпарадкаваў сабе ўвесь бізнес і структуры ўлады.

У той жа час, як і ў 1990-я, татарскае кіраўніцтва выкарыстоўвае слабыя месцы ў дыспазіцыі Масквы. У наступным годзе Расія абірае прэзідэнта плюс прымае такое важнае іміджавае мерапрыемства, як футбольны Мундыяль. Наўрад ці пуцінская адміністрацыя зацікаўленая ў канфрантацыі з татарамі, якія, у сваю чаргу, ёсць часткай расійскай мусульманскай грамады. Большасць экспертаў пагаджаецца, што Масква з улікам абставін па шэрагу пытанняў пойдзе насустрач Казані. Напрыклад, пагодзіцца прызнаць права татараў мець прэзідэнта. У любым выпадку — з гэтым пагаджаюцца ўсе, — у 2020-м апошнія рудыменты Дамовы 1994-га канчаткова прыбяруць.

Некаторыя палітолагі лічаць, што пасля гэтага ў Расіі адразу пачнецца новая дыскусія адносна формулы дзяржаўнага ладу. Шмат хто чакае рэформы, пасля якой Расія вернецца да часоў, калі адміністрацыйнымі адзінкамі ў краіне былі выключна губерні.

Дарэчы, цяперашнія калізіі ў адносінах Казані і Масквы, як пішуць некаторыя СМІ, могуць адбіцца на будучыні расійска-беларускай інтэграцыі. Маўляў, Лукашэнка на прыкладзе эпапеі з Дамовай 1994-га пераканаецца, чаго вартыя абяцанкі Масквы наконт павагі да суверэнітэту малых рэспублік. «Гісторыя адносінаў Масквы і Казані адсылае і да гісторыі Саюзнай дзяржавы РФ і РБ. Аляксандр Лукашэнка баіцца… а раптам пры ўзмоцненай інтэграцыі і яго «пераймянуюць» у губернатары», — адзначае выданне «Военное обозрение».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Вільня для беларусаў — гэта тое ж самае, што Арарат для армян. Беларусь без Вільні, як і Арменія без Арарата, — гэта як чалавек без сэрца. (...) Усё гэта паказвае, што Вільня стала свайго кшталту бомбай з гадзіннікавым механізмам, закладзенай пад усю Усходнюю Еўропу. Пасля 1991 года ў Літве, Польшчы і Беларусі ўжо вырасла пакаленне людзей, пераканаyых, што «Вільня — гэта наш горад». І тут няма тых, хто не мае рацыі: прадстаўнікі ўсіх трох краін і народаў маюць гістарычныя падставы так лічыць.

**«Росбалт» (Расія)**

Фактычна ўсе апошнія дзеянні беларускіх уладаў падпарадкаваны адной мэце: пераканаць Захад, што вясновы пагром грамадзянскай супольнасці быў толькі непрыемным непаразуменнем, якое не адмяняе ўзяты ў 2015 годзе курс афіцыйнага Мінска на «лібералізацыю». Варта прызнаць, што тактычны манеўр у цэлым атрымаўся. Лукашэнка паказальна здушыў унутраныя пратэсты, больш чым тысяча чалавек у той ці іншай форме падпала пад рэпрэсіі (збітыя, затрыманыя, адпраўленыя на «суткі»), тры з паловай дзясяткі прайшлі праз крымінальны пераслед — а пакарання ў выглядзе санкцый за гэта не было, нічога непапраўнага ў адносінах з Бруселем не здарылася.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей заявіў, што не бачыць «трагедыі» ў тым, што беларускія дэпутаты прагаласавалі за выніковую дэкларацыю сесіі ПА АБСЕ, заявіўшы, што гэта сведчанне таго, што «ідзе нармальны працэс развіцця палітычнай сістэмы, як у любой нармальнай дэмакратычнай краіне». Гэтае галасаванне і іншыя падобныя крокі і ёсць тая аплата, за якую, як мяркуе Аляксандр Лукашэнка, яму дазволяць «угрызціся» ў «пірог» еўрапейскага рынку. Нагадаем, што такія наіўныя спадзевы падмацоўвалі і іншых лідараў на постсавецкай прасторы (адзін з іх — Віктар Януковіч). Але нічога, акрамя «некаторых зрухаў», яны, як вядома, не дамагліся. «Грызуноў» у ЕС хапае і без іх.

**«Колокол» (Расія)**

Стратэгічна пытанне палягае ў плоскасці рэфармавання той эканамічнай мадэлі, якая існуе ў Беларусі, і стварэння высокатэхналагічнай і сучаснай эканомікі. Расія хоча захаваць Беларусь у арбіце свайго наўпроставага ўплыву. У сваю чаргу, Беларусь імкнецца захаваць самастойнасць у прыняцці знешнепалітычных рашэнняў і дыверсіфікаваць свае адносіны са знешнім светам. У такім кантэксце і будзе адбывацца пошук новага балансу. Важна толькі ўсвядоміць, што розніца ў эканамічных сістэмах дзвюх краін, перш за ўсё ў пытаннях уласнасці, сама па сабе супярэчыць эфектыўнай інтэграцыі, а мадэль, накіраваная на карысць вузкакарпаратыўных гандлёвых выгадаў, ніяк не можа забяспечыць якасны інтэграцыйны прарыў. Пакуль жа ў Саюзнай дзяржаве вызначальным фактарам з'яўляецца канкурэнцыя на таварных рынках, сэнс існавання інтэграцыйнага праекта шмат у чым губляецца.

**«Политком» (Расія)**

Непасрэдна ў кароткатэрміновай і сярэднетэрміновай перспектыве расіяне Украіне нічым не будуць пагражаць. Расійская армія цяпер не пойдзе ў наступ на Украіну з боку Беларусі прынамсі з дзвюх прычынаў, і адна з іх звязаная з няпоўнай інтэграцыяй Беларусі (як тэрыторыі, так і яе ваенных структур) у адпаведныя структуры РФ. Але калі глядзець у перспектыву, Расія, паступова захопліваючы Беларусь, рыхтуецца да, магчыма, наступнага, больш глабальнага і стратэгічнага этапу — вырашэння ўкраінскай праблемы.

**«Остров» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІРАН. Сцеражыся аўтамабіліста без хусткі!

Пагрозу цяперашняму рэжыму краіны, на думку іранскіх кансерватараў, уяўляе мода на жанчын-кіроўцаў. Сядаючы за стырно, яны здымаюць хустку, якую павінныя насіць жанчыны на публіцы. Для кансерватараў жанчына без хусткі ў публічным месцы — гэта жах. Практыка кіравання аўто без хусткі, па іх словах, руйнуе маральныя каштоўнасці грамадства. З гэтым часткова згодная іранская аўтаінспекцыя. Па словах паліцэйскіх, жанчына без хусткі выклікае нездаровую ўвагу іншых кіроўцаў, што цягне за сабою аварыйныя сітуацыі на дарогах. Пытанне, ці маюць права жанчыны кіраваць без хусткі, набыло такую актуальнасць, што яго абмяркоўваюць нават у парламенце. Ліберальныя дэпутаты кажуць, што жанчыны маюць права паводзіць сябе ў машынах як заўгодна, бо гэта прыватная прастора. Плюс хустка замінае жанчынам кіраваць, асабліва ўлетку, калі тэмпература ў Іране сягае 40-50 градусаў. Хаця на баку жанчын выступіў сам прэзідэнт Ірана, канчатковы вынік дэбатаў пакуль невядомы. Між тым, некаторыя дэпутаты прапануюць кампрамісныя варыянты: прызнаць заднія крэслы ў машыне прыватнай сферай, а пярэднюю частку аўтасалона — публічнай.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Прэзідэнтам можа быць толькі чыноўнік

Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў падпісаў папраўкі, якія прыводзяць заканадаўства краіны ў адпаведнасць са зменамі, унесенымі ў Канстытуцыю. Гэтыя папраўкі да некаторых заканадаўчых актаў прадугледжваюць, апроч іншага, дадатковы від крымінальнага пакарання ў выглядзе пазбаўлення грамадзянства за тэрарызм і іншыя асабліва цяжкія злачынствы. Аднак найбольшы інтарэс выклікаў пункт пра патрабаванні да тых, хто хоча балатавацца ў кіраўнікі краіны. Цяпер, каб стаць кандыдатам у прэзідэнты, спатрэбіцца наяўнасць досведу працы на дзяржаўнай службе або на выбарных дзяржаўных пасадах не менш за пяць гадоў. Іншымі словамі, цяпер простым грамадзянам будзе фактычна забаронена ісці на выбары. Пад закон трапляюць практычна ўсе лідары апазіцыі, якія, відавочна, не маюць вопыту працы ў дзяржаўнай вертыкалі. Праўда, не выключаны варыянт, што на бок апазіцыі пяройдзе нейкі чыноўнік. Такія выпадкі ў гісторыі былі. Таксама, каб стаць кандыдатам у прэзідэнты ў Казахстане, трэба здаць экзамен на веданне казахскай мовы і прайсці медычны агляд.

**Паводле казахскай прэсы**

### ІТАЛІЯ. Памёр лідар незалежнікаў Сардыніі

У Італіі памёр 74-гадовы Сальваторэ Мелоні — нефармальны лідар прыхільнікаў стварэння незалежнай Сардыніі (востраў у Міжземным моры, што належыць Італіі). Мелоні памёр у выніку палітычнай галадоўкі, якую трымаў цэлыя два месяцы. Праз галадоўку палітык пратэставаў супраць свайго ўвязнення. Тое, што ўлада дапусціла смерць палітыка, выклікала негатыўную рэакцыю ў Сардыніі нават сярод тых, хто далёкі ад ідэй незалежнасці. Праўда, наўрад ці рэха смерці Мелоні ўзмоцніць рух за незалежнасць, чые залатыя часы прыпалі на 1980-я, калі праект стварэння Сардынскай дзяржавы патаемна фінансаваў Муамар Кадафі. У 1980-м ён нават даў грошы таму ж Мелоні на арганізацыю ў Сардыніі ўзброенай барацьбы, аднак паліцыя сарвала гэтую задуму, а самога Сальваторэ адправілі ў турму. Таксама нябожчык запомніўся акцыяй на маленькім востраве Mal di Ventre, які захапіў з прыхільнікамі ў 2008-м. На востраве была абвешчаная незалежная дзяржава, якая праіснавала аж 5 месяцаў, пакуль не заснавальнік не быў выгнаны адтуль супрацоўнікамі мясцовага запаведніка і аштрафаваны за нанясенне шкоды прыродзе.

**Паводле італьянскай прэсы**

### РАСІЯ. Руская мова — дзяржаўная ў Арменіі?

Спікер Дзяржаўнай думы Расіі Вячаслаў Валодзін прапанаваў Арменіі замацаваць рускую мову ў якасці афіцыйнай, каб жыхары краіны маглі працаваць у РФ з армянскімі правамі кіроўцы. Нагадаем, у ліпені Расія прыняла закон, які дазваляе працаваць кіроўцам з Кіргізіі і Беларусі з нацыянальнымі правамі, матывававшы рашэнне дзяржаўным статусам рускай мовы ў гэтых краінах. Прапанова Валодзіна вельмі абурыла частку армян-нацыяналістаў, якія пабачылі ў гэтым звычайны шантаж. Праўда, некаторыя з нацыяналістаў гатовыя надаць рускай мове ў Арменіі афіцыйны статус — у выпадку, калі Масква пойдзе на люстэркавыя рэформы. «У Расіі пражывае каля 3 млн армян, нашмат больш, чым рускіх у Арменіі, нават у працэнтных суадносінах! Чаму б не надаць афіцыйны статус армянскай мове ў РФ?» — піша адзін з аўтараў арыгінальнай ідэі.

**Паводле армянскай прэсы**



Фота www.realist.online

# Усё пойдзе па плане

Алег НОВІКАЎ

**За дзесяць тыдняў да парламенцкіх выбараў нямецкія сацыял-дэмакраты пайшлі ў рашучую атаку на Ангелу Меркель. Бюргера спрабуюць падштурхнуць да галасавання за сацыял-дэмакратаў за кошт самых незвычайных і арыгінальных абяцанак.**

Да дня галасавання на парламенцкіх выбарах у ФРГ засталося крыху больш за два месяцы. Што могуць зрабіць за гэты тэрмін эсдэкі, якія намагаюцца пасунуць «вечнага» канцлера Ангелу Меркель з пасады? З улікам лічбаў, якія прапаноўваюць сацыёлагі, зрабіць нельга нічога. За кансерватараў сёння згодныя галасаваць каля 36 працэнтаў выбаршчыкаў. Эсдэкам сімпатызуюць толькі 25 працэнтаў электарату. Часу занадта мала, каб кардынальна скараціць дыстанцыю.

Толькі не кажыце пра гэта Марціну Шульцу — кандыдату ад эсдэкаў, які ўпарта адмаўляецца капітуляваць. У Шульца сваё бачанне сітуацыі. У яго штабе думаюць, што вайна яшчэ не прайграная. Меркель апошнім часам сама дапускае шмат памылак, якія ўжо затармазілі рост яе рэйтынгу. Канцлеру не прабачылі канфлікт з Турцыяй, спрэчкі з ЗША, няздольнасць усталяваць бяспеку падчас апошняга саміту G20 у Гамбургу.

Акрамя таго, на мінулым тыдні лагер Шульца мабілізаваўся і сам перайшоў у атаку. На суд грамадства была прадстаўленая новая выбарчая праграма сацыял-дэмакратаў пад амбіцыйнай назвай «План будучыні для сучаснай Германіі». Праграма аказалася медыяпадзеяй. Усё дзякуючы прысутным у тэксце арыгінальным выбарчым абяцанкам.

Што ж абяцае Шульц? Лідар эсдэкаў абяцае пабудаваць сапраўдны сацыяльны рай на нямецкай зямлі. Яго ўрад збіраецца ўвесці сістэму бясплатнага выхавання і адукацыі — ад дзіцячых садкоў да ўніверсітэтаў і прафесійных курсаў. Заможных немцаў у выпадку перамогі эсдэкаў чакаюць больш высокія падаткі.

Увогуле, эканомікай эсдэкі збіраюцца займацца ў духу часоў рузвельтаўскага «Новага курсу». Шульц марыць пра так званыя «інавацыйныя альянсы» — каманды з прадстаўнікоў прафсаюзаў, палітыкуму і бізнесу, якія будуць ствараць план для развіцця тых ці іншых галінаў. Прычым запуск планавай гаспадаркі ў Германіі павінен адбыцца на 50-ы дзень пасля фармавання новага сацыял-дэмакратычнага ўраду.

Самае рэзананснае абяцанне — адкрыць за кошт бюджэту кожнаму немцу банкаўскі рахунак Chancenkonto («Рахунак шанцу») памерам у 20 тысяч еўра. З гэтага рахунку яго ўладальнік можа браць грошы для павышэння кваліфікацыі ці перападрыхтоўкі ў выпадку беспрацоўя або іншых крызісных сітуацый.

Нездарма пасля публікацыі плану партыя левых выказала гатоўнасць аднавіць кансультацыі з Шульцам наконт магчымай сумеснай кааліцыі. Раней партыя Сары Вагенкнехт, праваднікі левых, аднабакова выйшла з перамоваў з эсдэкамі, бо не ўбачыла ў Шульцу паслядоўнага левага палітыка. Напэўна, левым таксама спадабаўся і левы паварот у міжнародных поглядах Шульца, які ў сваёй праграме крытыкуе NATO і фінансавую палітыку Еўрасаюза адносна Грэцыі.

Другі блок плана ад Шульца — абяцанні дынамічных інавацый у краіне. Выбаршчыку прапануюць хуткі інтэрнэт, новую сетку аўтабанаў, аднаўляльныя крыніцы энергіі, сучасную адукацыю плюс поўную дыгіталізацыю функцыянавання дзяржаўнай адміністрацыі. За канцлерам Шульцам кожны бюргер і юрыдычная асоба атрымае персанальны ўваход на агульнанацыянальны лічбавы партал Deutschlandportal, з дапамогай якога можна будзе вырашаць усе фармальнасці і пытанні, як гаворыцца ў плане, «лёгка і без бюракратыі». «Я хачу, каб дзяржава дзейнічала анлайн — 24 гадзіны ў суткі, сем дзён на тыдзень», — падкрэсліў кіраўнік эсдэкаў, адзначыўшы, што іншыя краіны ў гэтым плане ФРГ ужо абышлі.

Менавіта за кошт такіх праектаў, накіраваных у заўтра, Шульц намагаецца стварыць эсдэкам імідж наватараў, выставіўшы Меркель палітыкам з мінулага стагоддзя.

І, падаецца, гэты крок у Шульца атрымаўся. Думка пра тое, што краіна павінна глядзець у будучыню, а не задавальняцца няхай і вельмі ўтульным і заможным, але статус-кво, зачапіла многіх немцаў. Практычна ўсе найбуйнейшыя медыя абмяркоўваюць рэалістычнасць ініцыятыў, выкладзеных у плане. Праўда, шмат эканамістаў лічыць, што «Рахунак шанцу» і іншыя сацыяльныя і футуралагічныя праграмы, анансаваныя Шульцам, — папулізм найвышэйшай пробы.

Што да Меркель, то яна працягвае ўпарта ігнараваць усю апазіцыю. Канцлер дагэтуль адмаўляецца ўдзельнічаць у палемічных шоў разам з апанентамі — напэўна, каб падкрэсліць іх мікраскапічную прыроду. Палітык, якой нядаўна споўнілася 63 гады, не мае сумневаў у будучай перамозе. 16 ліпеня, калі Шульц прэзентаваў сваю праграму, Меркель спакойна заявіла, што мае намер у выпадку поспеху блока ХДС/ХСС на парламенцкіх выбарах у верасні ўзначальваць урад краіны да 2021 года.

Магчыма, калі рэйтынгі Шульца дзякуючы яго плану пачнуць расці, Меркель зменіць фармат сваёй кампаніі. Відавочна, што Шульц абраў тактыку бясконцых інфармацыйных атак, і яны будуць працягвацца да апошняга дня кампаніі. Такая рашучасць лідара эсдэкаў — гарантыя таго, што інтрыга на выбарах захаваецца да апошняга. Выбары ў Бундэстаг, нагадаем, адбудуцца 24 верасня.

# Загадка Дзюнкерка

Алег НОВІКАЎ

**На сусветныя экраны выйшаў «Дзюнкерк» — фільм Крыстафера Нолана пра эвакуацыю брытанскіх войскаў з абкружанага нямецкай арміяй плацдарма ў 1940 годзе. Фільм, безумоўна, справакуе новы ўсплёск спекуляцый вакол загадкі Дзюнкерка.**

«Дзюнкерк» Крыстафера Нолана — фільм найвышэйшага гатунку. Гэта ўзрушальна-захапляльны фільм». «Праца рэдкай інтэнсіўнай сардэчнасці і велічы, якую неабходна ўбачыць на найлепшым і самым вялікім экране ў межах дасяжнасці». «Эпічная сага Крыстафера Нолана — не толькі найлепшы фільм у яго кар'еры, але і адзін з найлепшых ваенных фільмаў за дзесяцігоддзі». Такія рэцэнзіі выдалі крытыкі на фільм напярэдадні прэм'еры.

А вось з боку гісторыкаў ацэнка карціны наўрад ці будзе такой высокай. Бо існуе столькі трактовак падзей у Дзюнкерку, што Нолан пры ўсім жаданні не змог бы задаволіць усіх іх аўтараў.

Галоўная загадка Дзюнкерка — чаму Гітлер загадаў сваім войскам прыпыніць наступ? Нагадаем, што ў маі 1940 года нямецкія войскі, якія атакавалі Францыю, нечакана спыніліся, не даходзячы да прыбярэжнага мястэчка Дзюнкерк, куды адступілі войскі саюзнікаў. У пастку трапіла каля 400 тысяч чалавек без уліку велізарнай колькасці ваенных прыпасаў.

Гітлеру ў такой сітуацыі, падавалася б, заставалася метадычна знішчыць праціўніка бомбамі і артылерыяй. Катастрофа экспедыцыйнага корпусу адкрывала Берліну зялёнае святло для штурму Альбіёна. Амаль усе гісторыкі пагаджаюцца, што ў выпадку разгрому дзюнкеркскай групоўкі Лондан страціў бы ўсе шанцы супрацьстаяць дэсанту вермахта. У такім выпадку Другая сусветная вайна магла мець абсалютна іншы фінал.

Аднак кіраўнік Трэцяга Рэйху 24 мая нечакана даслаў войскам загад спыніць рух на 48 гадзінаў. Фактычна, гэтым цыркулярам ён дазволіў праціўніку пачаць эвакуацыю. Вялікую ролю ў выратаванні адыграў так званы Little Ships of Dunkirk — малы флот Дзюнкерка. Гаворка пра маленькія караблі звычайных брытанскіх рыбакоў, якія пад бомбамі самалётаў люфтвафэ эвакуявалі з Францыі на Альбіён каля 300 тысяч жаўнераў. Па сутнасці, таму подзвігу маракоў і прысвечаная стужка Крыстафера Нолана.

Так ці інакш, Дзюнкерк быў захоплены гітлераўцамі толькі пасля таго, як 3 чэрвеня апошні томі (мянушка брытанскіх жаўнераў) пакінуў мясцовы бераг. І ўжо тады адразу пачаліся спрэчкі, чаму Гітлер спыніў штурм Дзюнкерка. Дамінуе думка, што гэта было палітычнае рашэнне. Маўляў, Гітлер спадзяваўся заключыць з Вялікабрытаніяй мірную дамову. Жэст Гітлера павінен быў выставіць яго адэкватным палітыкам, узмацняў пазіцыі Германіі падчас кансультацый.

Тэзіс пра тое, што Гітлер пашкадаваў брытанцаў, доўгі час застаецца любімай тэмай аматараў рэвізіі афіцыйнай гістарыяграфіі Другой сусветнай. Са спасылкай на Дзюнкерк яны даводзяць, што Гітлер быў ледзь не гуманістам. Маўляў, фюрэру было шкада знішчаць столькі англасаксаў — братоў немцаў па белай германскай расе. Ён марыў пра «адзінства германскіх народаў у барацьбе з расава непаўнавартаснымі славянамі на ўсходзе». Аднак яўрэйскае фінансавае лобі, якое быццам бы кантралявала брытанскі ўрад, маўляў, сарвала высакародныя планы Адольфа. Банкіры, калі верыць рэвізіяністам, хацелі працягу вайны, якая ім прыносіла велізарныя гешэфты.

Прайшліся рэвізіяністы і па подзвігу маракоў. На іх думку, нельга пераацэньваць значэнне Little Ships of Dunkirk. Нямецкія самалёты не знішчылі іх флот выключна праз кепскае надвор'е.

Выхад фільма Нолана мабілізаваў праціўнікаў версіі пра тое, што Гітлеру былі ўласцівыя пацыфісцкія сантыменты. Гэтая фракцыя гісторыкаў сцвярджае, што загад фюрэра спыніць наступ быў цалкам лагічным. Напярэдадні немцы без перапынку наступалі два тыдні запар, і, натуральна, людзі былі стомленыя, тэхніка вымагала рамонту. Як мінімум, для шурму Дзюнкерка была неабходная рэарганізацыя, што патрабавала часу. У якасці доказаў прыводзіцца ліст камандуючага арміяй «А» Карла Рудольфа Герда фон Рунштэта, які напярэдадні прасіў Гітлера прытармазіць рух, бо армія страціла палову тэхнікі. Акрамя таго, 23 мая нямецкі штаб прызнаў адсутнасць каардынацыі падчас першых спробаў прарвацца ў горад, што патрабавала паўзы. Нарэшце, ёсць думка, што Гітлер памылкова даверыўся маршалу авіяцыі Герману Герынгу, які паабяцаў за кошт самалётаў не дапусціць эвакуацыі брытанцаў.

Велізарным падарункам гісторыкам стаў апублікаваны не так даўно ліст дырэктара Мінабароны Германіі кіраўніку нямецкага Міністэрства працы, дасланы 28 мая 1940 года. У ім аўтар піша пра непазбежнасць хуткага штурму Дзюнкерка. «У найбліжэйшы час 80 працэнтаў жаўнераў экспедыцыйнага корпусу і французскага войска будуць знішчаныя», — гаворыцца ў тэксце.

У гэтай фракцыі гісторыкаў ёсць яшчэ адзін аргумент: калі Гітлер хацеў шантажаваць Лондан Дзюнкеркам, ён павінен быў адразу, 24 мая, уступіць з брытанцамі ў перамовы. Аднак няма ніводнага сведчання пра спробу Берліна ў маі 1940-га наладзіць кантакты з урадам Чэрчыля.

Атрымліваецца, няма падстаў думаць, што Англію выратавала высакароднасць Гітлера. Аднак наўрад ці аматары рэвізіі гісторыі проста так пагодзяцца з аргументацыяй апанентаў. І, відавочна, цяперашняя палеміка вакол Дзюнкерка будзе моцна палітызаваная. Частка расійскіх палітыкаў даўно даводзіць, што Гітлер і Чэрчыль былі саюзнікамі. Напрыклад, нацыяналіст Мікола Старыкаў лічыць, што адной з умоў паспяховай эвакуацыі брытанцаў з Дзюнкера быў дадзены імі Гітлеру карт-бланш на разгром Францыі.

Дзякуючы фільму Нолана нас чакае новая серыя бітваў гісторыкаў вакол падзей пад Дзюнкеркам. Рыхтуйцеся!



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### П'ер дэ Вільe



Кіраўнік Генштаба французскай арміі 14 ліпеня маршыраваў перад прэзідэнтам Макронам на парадзе ў гонар Дня ўзяцця Бастыліі, а ўжо 19-га падаў у адстаўку.

Прычынай адстаўкі стаў намер ураду скараціць бюджэт Мінабароны на 850 мільёнаў еўра. У адказ генерал дазволіў сабе лаянку падчас размовы з міністрамі, інфармацыя пра якую трапіла ў прэсу і выклікала скандал, што скончыўся рапартам аб адстаўцы.

Дэмарш генерала — трывожны званок для адміністрацыі Макрона. Яшчэ ўчора лічылася, што ў грамадстве існуе своеасаблівы кансенсус наконт праекта Макрона — разам зацягнуць паясы. Краіна не можа ўкласціся ў ліміт бюджэту з 2006 года, а ў 2016-м яго дэфіцыт склаў 3,4%. У выніку дзяржаўны доўг краіны налічвае 2,1 трлн еўра, або 96% ад ВУП.

Аднак цяпер высвятляецца, што французская эліта не такая маналітная па пытанні бюджэтнай эканоміі. Тое, што супраць рэформаў падняліся генералы, безумоўна, стымулюе іншых незадаволеных новым урадавым курсам, у межах якога плануецца скараціць фінансаванне публічных службаў на 4,5 млрд еўра. У гэтым плане «разборка» Макрона з дэ Вільe — ўжо не апошняе выпрабаванне для новаабранага прэзідэнта.

### Кім Чэн Ын



Толькі цяпер праваабаронцы ўсур'ёз задумаліся пра судовы працэс над кіраўніком Паўночнай Карэі, які нясе персанальную адказнасць за злачынствы рэжыму.

18 ліпеня ў Сеуле адбылася канферэнцыя групы Transitional Justice Working Group, падчас якой паўстала ініцыятыва рыхтаваць судовую позву на Кім Чэн Ына ў Міжнародны трыбунал па правах чалавека. Прычым асудзіць Кім Чэн Ына збіраюцца найперш за забойствы суайчыннікаў. Некаторыя сведкі кажуць, што ў КНДР сталі нормай масавыя смяротныя пакаранні. У пошуках доказаў праваабаронцы вырашылі стварыць карту месцаў, дзе паўночнакарэйскія спецслужбы праводзяць экзекуцыі.

У Transitional Justice Working Group спасылаюцца на досвед працэсаў над арганізатарамі забойстваў у былой Югаславіі. Праз тое, што падчас судоў не было дакладнай лакалізацыі месцаў забойстваў, абвінавачванні часцяком даводзілася здымаць.

Стварыць карту масавых забойстваў у Паўночнай Карэі вырашана з дапамогай размоваў з усімі паўночнымі карэйцамі, якім удалося збегчы за мяжу (гэта прыкладна 400 чалавек). Ужо вызначаны 47 месцаў у КНДР, дзе, як лічаць праваабаронцы, адбываюцца масавыя пакаранні. Натуральна, узнікае пытанне: як хутка праваабаронцы збіраюцца адправіць Кім Чэн Ына за краты?

Самі актывісты Transitional Justice Working Group кажуць, што працуюць на далёкую будучыню. Аднак нельга не адзначыць, што адным з партнёраў праекта выступаюць урадавыя фонды ЗША, якія знаходзяцца з КНДР у фазе беспрэцэдэнтнай канфрантацыі.

### Анджэй Дуда



Скандальны законапраект аб судовай рэформе, які ўжо прайшоў праз Сейм, не будзе падпісаны прэзідэнтам Польшчы. Ён сумняецца, што цяперашні праект рэформы захавае незалежнасць судоў.

Законапраект аб судовай рэформе выклікаў у краіне і Еўрасаюзе хвалю пратэстаў і ўжо прыняты Сеймам. «Органы юстыцыі павінныя быць рэфармаваныя, але рэфармаваныя разумна», — заявіў Дуда 18 ліпеня, адзначыўшы, што не будзе падпісваць закон у яго цяперашняй рэдакцыі.

Законапраект прадугледжвае, у прыватнасці, абранне чальцоў Нацыянальнай судовай рады шляхам галасавання дэпутатаў Сейма, большасць у якім належыць кіруючай партыі «Права і справядлівасць».

Нацыянальная судовая рада не можа быць «падпарадкаваная толькі адной партыі, толькі адной групе», падкрэсліў Анджэй Дуда. У якасці кампрамісу ён прапанаваў выбіраць чальцоў Рады большасцю ў тры пятыя галасоў дэпутатаў — такім чынам будзе ўлічвацца меркаванне і іншых партый.

Нацыянальная судовая рада адыгрывае вырашальную ролю падчас прызначэння і зняцця з пасады старшыняў судоў любых інстанцый. Калі гэты орган акажацца пад кантролем кіруючай партыі, з незалежнасцю судоў у Польшчы будзе скончана, асцерагаюцца крытыкі.

Ігар ІВАНОЎ

# Таямніцы братоў Бельскіх

**Заканчэнне. Пачатак у № 27**

## «Несавецкія» партызаны

Асобнай тэмай з'яўляюцца стасункі партызан-яўрэяў атрада Бельскіх з савецкімі партызанамі, якія дзейнічалі ў Заходняй Беларусі. У большасці выпадкаў яны грунтаваліся на супрацоўніцтве паміж кіраўнікамі атрадаў. Сумесна з атрадам Панчанкава і іншых партызан Кіраўскай брыгады яўрэі-партызаны правялі шэраг дыверсій. Летам 1943 года ў лагеры Бельскіх у Налібоцкай пушчы для савецкіх партызан шылася адзенне, рамантаваліся абутак і зброя і гэтак далей.

Тым не менш некаторыя даследчыкі сведчаць, што супраца паміж яўрэйскай групай і яе савецкімі паплечнікамі не заўсёды была паспяховай. Былі выпадкі, калі групы яўрэяў-падрыўнікоў раззбройваліся савецкімі партызанамі. Так, неяк уначы ў вёсцы Масцішча Навагрудскага раёна партызаны атрада Варашылава абяззброілі 7 яўрэяў з атрада Бельскага. Яшчэ праз два дні партызаны Фурманава брыгады Чапаева затрымалі абоз Бельскіх і забралі 21 мех збожжа, 4 дзікоў, 2 каровы, 4 коней і ўсе асабістыя рэчы. Аднойчы камандзір брыгады імя Дзяржынскага Шашкін са сваімі партызанамі не прапускаў групу байцоў Тувіі Бельскага да моста праз Нёман, адбіраў коней, калёсы.

Леанід Акунь, былы вязень мінскага гета, выведнік партызанскага атрада №106, якім кіраваў Сямён Зорын, інакш апісвае стасункі Бельскіх з іншымі партызанамі: «Падрыўнікі Бельскага лічыліся асамі дыверсій і карысталіся вялікай павагай і аўтарытэтам у партызанскім асяроддзі. Ніхто з «мясцовых» партызанаў не рызыкаваў звязвацца з атрадам Бельскага, бо яўрэйскі атрад нікому нічога не даравaў і мог, калі трэба, у імгненне паставіць пад ружжо паўтысячы бязлітасных байцоў і ўступіць у бой з любой савецкай брыгадай пры найменшым намёку на агрэсіўны выпад у свой адрас.

Камісары ў атрадзе Бельскага былі ўсяго толькі маленькай часткай агульнапрынятай «дэкарацыі», і не больш за тое. І хаця Тувія Бельскі ўмеў падтрымліваць добрыя і роўныя адносіны з усімі партызанамі ў акрузе, яго баяліся… У атрада былі «вострыя зубы» — адборныя хлопцы-галаварэзы, польскія яўрэі, якія не вылучаліся залішняй сентыментальнасцю. Так што тыя ці іншыя банды «зялёных» ці нават партызаны, якія дзейнічалі ў лясах, павінны былі добра падумаць, перш чым кагосьці абрабаваць або забіць. Прыклады, як партызаны Бельскага «выхоўвалі» сваіх "лясных суседзяў", у мяне добра захаваліся ў памяці. У Бельскіх была мэта — ратаваць яўрэйскае цывільнае насельніцтва, і іх атрад змятаў на сваім шляху ўсіх, хто хоць неяк перашкаджаў гэта рабіць».

Невядома, што хацеў падкрэсліць Акунь, бо звестак пра якія-небудзь буйныя канфлікты паміж атрадам Бельскіх і суседнімі партызанскімі фармаваннямі не захавалася.



Партызаны атрада Бельскага

**Камісары ў атрадзе Бельскага былі ўсяго толькі маленькай часткай агульнапрынятай «дэкарацыі», і не больш за тое**



Складанымі ў атрада Бельскіх былі адносіны з «Арміяй Краёвай» у апошні год перад вызваленнем Беларусі. Не ў малой ступені гэта было звязана з пастановай ЦК КП(б) Б ад 22 чэрвеня 1943 года «Аб мерапрыемствах па далейшым развіцці партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі». Па ўсіх падпольных абкамах быў распаўсюджаны ліст «Аб ваенна-палітычных задачах у заходніх абласцях Беларусі». У ім вызначаліся асноўныя крытэрыі, якімі павінны былі кіравацца камсамольскія і партыйныя арганізацыі адносна польскіх нацыяналістаў: «Існаванне розных арганізацый, якімі кіравалі польскія буржуазныя цэнтры, неабходна трактаваць як супрацьпраўнае ўмяшанне ў справы нашай дзяржавы». Нацыяналістычныя атрады і групы, падкрэслівалася ў лісце, неабходна ізаляваць ад насельніцтва шляхам стварэння савецкіх атрадаў і груп з працоўных польскай нацыянальнасці. Далей рэкамендавалася «усімі спосабамі выкрываць і распускаць нацыяналістычныя атрады і групы».

## Ці былі Бельскія ў Налібаках?

Адной з самых цёмных плямаў у гісторыі атрада Бельскіх з'яўляецца масавы расстрэл мірных жыхароў у вёсцы Налібакі. У яго арганізацыі некаторыя польскія даследчыкі абвінавачваюць партызан-яўрэяў.

8 мая 1943 года ў выніку нападу савецкіх партызанаў на Налібакі загінула 128 чалавек. Нападнікі хапалі ў асноўным мужчын і расстрэльвалі, частка жыхароў была спаленая ва ўласных дамах. Сярод загінулых — 10-гадовае дзіця і тры жанчыны. Акрамя таго, былі абрабаваныя мясцовыя гаспадаркі: нападнікі забралі ежу, коней, кароў, большасць дамоў спалілі. Таксама былі спаленыя касцёл, пошта і лесапілка.

У 2001 годзе Інстытут нацыянальнай памяці Польшчы (ІНП) пачаў расследаванне падзей мая 1943 года ў Налібаках. У шэрагу польскіх крыніц галоўнай прычынай нападу на вёску апісваўся намер камандавання савецкіх партызанаў ліквідаваць польскую самаабарону, гарнізон якой быў сфармаваны немцамі ў сярэдзіне 1942 года. Па некаторых звестках, самаабарона таемна кантралявалася АК. Сцвярджаецца, што ў нападзе бралі ўдзел партызаны атрадаў «Дзяржынскі», «Бальшавік», «Сувораў», якімі камандавалі маёр Рафал Васілевіч і камандзір брыгады імя Сталіна Павел Гулевіч. Паводле дадзеных ІНП і некаторых польскіх гісторыкаў, у забойствах мірных палякаў бралі ўдзел і партызаны атрада Бельскага.

Польская газета «Наш дзённік» апублікавала інтэрв'ю з Вацлавам Навіцкім, былым жыхаром Налібакаў і сведкам падзей у ноч з 8 на 9 мая 1943 года. Па яго словах, сярод тых, хто нападаў, адназначна былі яўрэі з атрада Бельскіх. Як паказаў Навіцкі, напад адбыўся прыблізна ў 5 гадзін раніцы, атакавалі каля 120–150 савецкіх партызан. Яго аднавяскоўец Вацлаў Хіліцкі так апісвае гэта: «Ішлі наўпрост, урываліся ў дамы. Кожнага, каго сустракалі, забівалі, нікога не шкадавалі».

Але ці ўдзельнічаў у гэтым пагроме атрад Бельскіх — пытанне адкрытае. Калі меркаваць па архіўных матэрыялах і ўспамінах людзей, якія знаходзіліся ў яўрэйскім лагеры, атрад братоў Бельскіх не мог удзельнічаць у расстрэле мірных жыхароў 8 мая 1943 года, бо прыбыў у Налібакі толькі ў чэрвені.

Яшчэ адзін цікавы факт: у польскіх крыніцах сцвярджаецца, што нападам на Налібакі кіравалі іх былыя жыхары-яўрэі, адным з якіх быў Ізраэль Кеслер.

## Адзін — яшчэ не атрад

Ізраэль Кеслер сапраўды быў адным з партызанаў атрада Бельскіх. І не найлепшым. Ён ад самага пачатку быў у шэрагах незадаволеных тым, што ўся ўлада ў атрадзе засяродзілася ў руках Бельскіх. З моманту перадыслакацыі атрада ў Налібакі Кеслер пачаў пісаць даносы на Бельскіх на імя Сакалова, памочніка генерала Чарнышова (камандуючы Баранавіцкім аддзелам БШПР). Джэк Каган у сваіх успамінах так апісваў Кеслера: «Ён быў парушальнікам спакою, якіідавочна бачыў сябе на месцы камандзіра атрада».

Па адной з версій у кнізе Пітэра Дафі «Браты Бельскія», заснаванай на ўспамінах былых яўрэяў-партызан, Ізраэль Кеслер да вайны быў злодзеем і нават сядзеў у турме. Пасля нямецкай блакады ў ліпені-жніўні 1943 года байцы з атрада Бельскіх заўважылі, што Кеслер абшукваў сялянскія хаты ў пошуках каштоўнасцяў. Адзін з іх казаў: «Кеслер зноў узяўся за старое. Злодзей, які да вайны сядзеў у турме і ледзь умеў напісаць сваё імя друкаванымі літарамі, у лесе стаў проста непадпарадкавальным».

Аднойчы Кеслер самавольна пакінуў атрад, што было катэгарычна забаронена. Калі вярнуўся, паказаў Тувіі Бельскаму даведку ад Сакалова: нібыта ён быў у штабе брыгады па «службовых справах». Патлумачыць, па якіх справах, Кеслер адмовіўся. Кіраўнік асобага аддзела ўнутраной бяспекі Саламон Ваўкавыскі адправіўся ў партызанскі штаб, дзе яму паказалі ліст, падпісаны Кеслерам і яго прыхільнікамі, у якім сцвярджалася, што Бельскія не праводзяць у жыццё лінію партыі і больш занепакоеныя асабістым узбагачэннем, чым дабрабытам насельніцтва лагера.

Даведаўшыся пра гэта, Асаэль Бельскі, не чакаючы высвятлення абставінаў і не даўшы Кеслеру слова, дастаў пісталет і застрэліў яго. Аднаго з саюзнікаў Кеслера абвінавацілі ў дапамозе немцам і таксама расстралялі.

У «Гісторыі партызанскага атрада імя Калініна», напісанай Тувіяй Бельскім, адзначаецца, што «два партызаны ў атрадзе былі расстраляныя за марадзёрства сярод мясцовага насельніцтва». Ці тычыцца гэта Кеслера, на жаль, сказаць немагчыма.

## Выжыванне ці супраціў?

Існуе таксама думка, што атрад братоў Бельскіх спрыяў менавіта выжыванню яўрэяў і не змагаўся з фашыстамі. Вось яе можна назваць цалкам памылковай. Як піша доктар гістарычных навук Давід Мельцар, атрад «пусціў пад адхон 6 варожых эшалонаў, які ішлі на фронт, падарваў 20 чыгуначных і шашэйных мастоў, правёў 12 адкрытых баёў і засад, знішчыў 16 аўтамашын з жывой сілай, а ўсяго — больш за 250 нямецкіх салдат і афіцэраў». Зусь Бельскі асабіста знішчыў 47 нацыстаў і калабарантаў. За галаву Тувіі Бельскага немцы прызначылі ўзнагароду ў 100 тысячаў рэйхсмарак — проста так узнагароду не прызначаюць.

Акрамя феномену атрада Бельскіх, шмат што яшчэ застаецца загадкай нашай гісторыі. Кіраўнік праекта дакументацыі і ўвекавечання імёнаў яўрэяў, якія загінулі ў перыяд Шоа (масавых забойстваў) на акупаваных тэрыторыях былога СССР, у Мемарыяле «Яд Вашэм» Барыс Мацфір лічыць, што ў Беларусі было 10–12 яўрэйскіх партызанскіх атрадаў. А вядомы толькі атрад Бельскіх.

І такога яўрэйскага супрацціву больш нідзе ў Еўропе не было.

# Францыск Скарына на паштоўках

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларусы адзначаюць вялікі юбілей нацыянальнага кнігадрукавання. 500 гадоў таму была выдадзена першая кніга Францыска Скарыны «Песня царя Давыда еже словуть Псалтыръ». У комплексную навуковую дысцыпліну скарыназнаўства можна аднесці і выпуск паштовак, прысвечаных Францыску Скарыну і беларускаму кнігадрукаванню.**















**Апошняя паштоўка, прысвечаная Скарыну і нашаму кнігадрукаванню, з'явілася дзякуючы кампаніі «Будзьма беларусамі» ў 2016 годзе. На ёй мастак намаляваў навагоднюю ялінку з падарункамі, пеўнікам і Францыскам Скарынам у кедах**

## Першыя беларускія

Першыя беларускія паштоўкі (пісулькі) былі выпушчаны беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў 1906 годзе. Гэта былі паштоўкі з беларускімі пейзажамі, з партрэтамі беларускіх пісьменнікаў, з тыпамі сялян. Але праз некалькі гадоў, як пісаў даследчык літаратуры Сцяпан Александровіч у кнізе «Пуцявіны роднага слова», выдавецтва выпусціла яшчэ звыш дзясятка паштовак. Сярод іх з'явіліся і першыя паштоўкі, прысвечаныя Францыску Скарыну і беларускаму кнігадрукаванню. Гэта былі паштоўкі «Апостал Скарыны», «Беларуская біблія XVI в.» «Беларускі псалтыр XVII в.». Яны друкаваліся на добрай паперы, адным колерам (у чорным або карычневым адценні), але цана іх без маркі была адноснa вялікая.

У 1917 годзе ў Вільні выйшла з друку паштоўка з выяваю Скарыны, пад якою кірыліцай і лацінкай было напісана «Францішк Скарына 1517–1917». З адваротнага боку на беларускай, рускай, польскай, англійскай і літоўскай мовах паведамлялася, што гэта «Адкрытая цэдулка». І тэкст: «Доктар Францішк Скарына. Родам с Полацка, першы друкар і перакладчык Бібліі на беларускую мову. Друкаваў Біблію ў Празе Ческай у 1517 г. У 1917 г. прыпадае 400 лецьце беларуск. друку». А дзе павінна быць паштовая марка, напісана: «Мейсцо для маркі».

## Паштоўкі эміграцыі

Пасля Другой сусветнай вайны першую паштоўку, прысвечаную Францыску Скарыну і беларускаму кнігадрукаванню, выпусціў беларускі грамадскі дзеяч, перакладчык і выдавец Ян Пятроўскі ў 1949 годзе ў горадзе Лінц (Аўстрыя). На ёй — партрэт Скарыны з гравюры, а таксама тэкст, напісаны лацінкай: «Др.Францішак Скарына 1486–1551 Прадвеснік рэфармацыі на Беларусі, перакладчык Бібліі на беларускую мову і друкар яе».

У эміграцыі выдаваўся яшчэ шэраг паштовак, прысвечаных Скарыну і беларускаму кнігадрукаванню. У 1953 годзе пабачыла свет паштоўка, прысвечаная першадрукару, выдадзеная аб'яднаннем беларускіх лекараў на чужыне. На адваротным баку — тэкст на беларускай і англійскай мовах і напісана: «Нью-Ёрк, 1953».

Паштоўка, прысвечаная Скарыну, выдавалася і беларускім выдаўцом, рэдактарам і грамадска-культурным дзеячам Міколам Прускім (1928–2014). На адваротным баку быў надпіс на англійскай: «Пяць стагоддзяў Скарыніяны. Дэтройт, 1990».

Паштоўка «Доктар Франьцішак Скарына» выдавалася і Беларускім інстытутам навукі і мастацтва да 450-х угодкаў беларускага кнігадрукавання.

Паштоўка па матывах Скарынавай Бібліі «Царства...» з выявай гравюры са Скарынавага выдання 1517 года пабачыла свет у Лондане ў 1970-я гады. Яе выдала Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны, дзе яна і захоўваецца сёння.

Як правіла, гэтыя паштоўкі — з выяваю партрэта Скарыны з гравюры. Не дзіўна, бо іншай выявы Скарыны папросту няма.

## І ў Беларусі

У 1967 годзе, да 450-годдзя беларускага кнігадрукавання, мінскім выдавецтвам «Беларусь» была выпушчана паштоўка з выяваю Францыска Скарыны, які ўважліва чытае свежы адбітак будучай кнігі. Аўтарам паштоўкі быў мастак Аляксандр Салькоў.

У 1970-х гадах выдавалася каляровая паштоўка, на якой быў здымак помніка Францыску Скарыну ў Полацку. На адваротным баку на рускай мове быў напісаны тэкст: «Францыск Скарына нарадзіўся ў Полацку. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, атрымаў ступень бакалаўра філасофіі. У Падуанскім універсітэце здаў экзамен на ступень доктара філасофіі. Ён быў вялікім гуманістам і асветнікам, словам, чалавекам свайго часу — эпохі Адраджэння. Скарына — вялікі патрыёт. «Панежа ад прыраджэння звеpы, хадзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, пціцы, лятаючыя па воздуху, ведаюць гнёзды свая; рыбы, плаваючыя па моры і ў рэках, чуюць віры свая; пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх — так жа й людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку ймаюць», — так пісаў Францыск-Георгій у XVI стагоддзі. І думкі вучонага пра любоў да Радзімы і народа свайго ажыццяўляліся ў справе — ён першым пачаў друкаваць кнігі на «простанароднай» беларускай мове... Сёння, адліты ў бронзе, Францыск Скарына ўзвышаецца на адной з цэнтральных плошчаў Полацка. Нашчадкі свята берагуць памяць вялікага земляка. Менавіта тут, каля помніка беларускаму першадрукару, кожнае лета распачынаецца кніжны кірмаш. Помнік адкрыты ў 1974 годзе. Аўтары — скульптар А. Глебаў і іншыя, архітэктар У. Марокін».

У савецкі час выдавалася вельмі шмат паштовак з артыстамі савецкага кіно. Латвійскае аддзяленне Бюро прапаганды савецкага кінамастацтва ў Рызе выпусціла паштоўку, на якой быў надрукаваны партрэт артыста Алега Янкоўскага ў ролі Францыска Скарыны з мастацкага фільма кінастудыі «Беларусьфільм» «Я, Францыск Скарына...». Фільм выйшаў на экраны ў 1970 годзе, а паштоўка накладам 210 тысяч асобнікаў была надрукавана ў 1980 годзе.

Пошта СССР у 1988 годзе 100-тысячным накладам выпусціла паштоўку на беларускай мове з партрэтам беларускага першадрукара і з тэкстам: «Францыск Скарына. Да 500-годдзя з дня нараджэння».

У 1990 годзе выдавецтва «Беларусь» парадавала беларусаў паштоўкай з выявамі Скарыны, якую намаляваў мастак Мікола Селяшчук (1947–1996). Наклад — 10 тысяч асобнікаў.

«Белпошта» ў 1998 годзе падрыхтавала каляровую фотапаштоўку з выявамі Полацкага Богаяўленскага сабора і помніка Скарыну ў Полацку. Фотаздымкі на паштоўцы — А. Мякішава. Яна была выпушчана накладам 2 тысячы асобнікаў.

А ў 1993 годзе Гродзенская друкарня тысячным накладам надрукавала паштоўку з помнікам Францыску Скарыну ў Лідзе, скульптар — Валяр'ян Янушкевіч.

Апошняя паштоўка, прысвечаная Францыску Скарыну і нашаму кнігадрукаванню, з'явілася дзякуючы кампаніі «Будзьма беларусамі» ў 2016 годзе. На ёй мастак намаляваў своеасаблівы калаж: навагоднюю ялінку з падарункамі, пеўнікам і Францыскам Скарынам у кедах. На паштоўцы напісаны і тэкст: «З новым 2017 годам і Калядамі! І з новым пяцісотгоддзем беларускага друку! 1517–2017».




Так сёння выглядае касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Высокім


Руіны замка Сапегаў каля рэчкі Пульва


На замкавай тэрыторыі захаваліся старадаўнія сутарэнні

# Па сапегаўскіх мясцінах

Марат ГАРАВЫ

**Не так даўно разам са спадаром Алесем Сапяжынскім — прадстаўніком адгалінавання слаўнага магнацкага роду Сапегаў, — мы праехаліся па славутасцях Камянецкага раёна Брэстчыны.**

Наведалі магдэбургскае места гістарычнага краю, старадаўні цэнтр дыванова і палатнянага ткацтва горад Высокае, што месціцца на маляўнічых пагорках уздоўж ракі Пульва, праз якую высілкамі Сапегаў напрыканцы XVIII стагоддзя праходзіў водны шлях у Гданьск. Гэтае места, дзе жыве больш за 5 тысяч чалавек, уражвае непаўторнымі краявідамі, багатым мінулым і шэрагам цікавых помнікаў архітэктуры, у тым ліку барокавым касцёлам Найсвяцейшай Тройцы пачатку XVII стагоддзя, руінамі замка Сапегаў XVII стагоддзя з вялікім пейзажным паркам плошчай больш за 50 гектараў, палацам Патоцкіх пачатку XIX стагоддзя, што цяпер рэстаўруецца, шэрагам хрысціянскіх і іудзейскіх святыняў.

Як распавёў пробашч касцёла ксёндз Андрэй, у 1603 годзе тагачасны ўладальнік Высокага Андрэй Война-Грычынавіч заснаваў у месцы святыню Найсвяцейшай Тройцы, што мела 44 аршыны даўжыні і 12 — шырыні. Найбольшы касцельны звон насіў імя святых Пятра і Паўла. Падчас Другой сусветнай вайны камяніца была пашкоджаная, а затым адабраная ў вернікаў. Толькі ў 1990 годзе будынак быў вернуты Каталіцкай царкве для духоўнага жыцця, і пад кіраўніцтвам ксяндза Яна Васілеўскага пачалося аднаўленне храму. Аднак для вяртання будынку поўнай аўтэнтыкі мясцовай даволі невялікай парафіі папросту не хапіла сродкаў. Да сёння ў святыні захаваліся труны з парэшткамі прадстаўнікоў роду Войнаў і Сапегаў, якія, дарэчы, валодалі Высокім з 1647 па 1748 год.


Алесь Сапяжынскі (злева) з ксяндзом Андрэем пасля ўручэння здымка 1931 года Траецкага касцёла ў Высокім

Алесь Сапяжынскі нарадзіўся ў Высокім, пасля заканчэння школы і мараходнай вучэльні шмат гадоў хадзіў у Атлантыку штурманам плаўбазы рыбапрамысловага флоту, а пасля вучобы на юрыдычным факультэце Ленінградскага ўніверсітэту працаваў суддзёй у Беларусі і да пачатку 1990-х гадоў — намеснікам старшыні Кобрынскага гарвыканкаму па сацыяльных пытаннях.


Замак Сапегаў у Высокім. Акварэль Напалеона Орды. 1876 год

Спадар Алесь згадаў, як на пачатку 1960-х гадоў у Высокім Саветы спачатку перабудавалі касцёл пад склад харчавання, а пасля зруйнавання храмавых вежаў і бакавых капліцаў з пахаваннямі фундатараў святыні — пад двухпавярховую спартовую залу мясцовай сельскагаспадарчай прафтэхвучэльні, дзе напрыканцы 1970-х гадоў праводзіліся дыскатэкі.

Мы пабывалі ў маляўнічым пейзажным парку, закладзеным Сапегамі ў XVIII стагоддзі. На яго тэрыторыі захаваліся рэшткі падмуркаў і земляныя ўмацаванні старога замка Сапегаў. Фартэцыя значна пацярпела падчас найбольш згубнай для нашага краю вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў, калі Бацькаўшчына страціла больш за палову насельніцтва, а таксама падчас Вялікай Паўночнай вайны 1700–1721 гадоў. Пасля таго, як у 1748 годзе замак і палац Сапегаў згарэлі, магнаты перанеслі сваю рэзідэнцыю ў Слонім.

Спадар Алесь распавёў пра палац Патоцкіх, збудаваны ў 1816–1820-х гадах. У класіцыстычным комплексе захаваўся інтэр'ер і рэшткі мастацкай аздобы, а таксама шэраг гаспадарчых прыбудоваў. Падчас і пасля Другой сусветнай вайны палац выкарыстоўваўся для размяшчэння штаба памежнага атраду і казармаў памежнікаў, а затым — для школы і інтэрната. Цяпер у закінутым комплексе вядуцца рэстаўрацыйныя працы. З-за таго, што тэрыторыя палацу агароджаная і ахоўваецца аўчаркамі, мы, на жаль, не змаглі больш падрабязна пазнаёміцца з гэтым выбітным помнікам.

Затым мы накіраваліся ў вёску Воўчын да знакамітага барокавага Траецкага касцёла, што з 18 ліпеня 1729 па 1733 год узводзіўся на сродкі Станіслава Панятоўскага. Абсталяваннем і аздабленнем святыні шмат гадоў займаўся чарговы ўладальнік Воўчына Міхал Чартарыйскі, які напрыканцы XVIII стагоддзя адрамантаваў святыню. Пасля паўстання 1863–1864 гадоў касцёл быў зачынены, а затым перабудаваны пад праваслаўную царкву. У 1918 годзе храм быў вернуты каталікам, якія адрамантавалі святыню, дзе захоўвалася метрыка апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Яго парэшткі патаемна ад грамадскасці былі дастаўленыя ў святыню з Ленінграда ў ліпені 1938-га без выканання неабходнага ў такіх выпадках рытуалу. Вайна прыпыніла рамонт святыні, а пасля вайны Саветы зачынілі храм і перадалі мясцоваму калгасу пад сховішча. Тады воўчынскі ксёндз пакінуў вёску разам з касцельным архівам. У 2007 годзе руіны святыні былі вернуты каталікам — і пачалося адраджэнне храму. Адноўлены знешні выгляд касцёлу, у тым ліку бельведэр з курантамі, вядзецца рэстаўрацыя інтэр'ераў гэтай выбітнай гістарычнай каштоўнасці.

Ад усяго пабачанага засталося ўражанне поўнай гармоніі паміж лірычным, адначасна сціплым і тонкім краявідам гэтага самага заходняга куточка Брэстчыны, яго помнікамі дойлідства — жывымі носьбітамі трагічнага і слаўнага мінулага Бацькаўшчыны, — і асветленымі духоўнасцю прыгожымі тварамі тых асобаў, якія ашчадна ставяцца да сівой даўніны свайго народа.



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова № 682

Падпісана да друку 21.07.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.